# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

14 ЧЭРВЕНЯ 1996 г. № 24 (3848) Кошт 2 500 руб.






# І ЧАС ПРЫЙШОЎ...

## ПЕРШЫ ФЕСТЫВАЛЬ КАМЕРНАЙ МУЗЫКІ Ў НЯСВІЖЫ

"Сны сняцца пра... Нясвіж" — так называўся колішні наш анонс гэтага незвычайнага фестывалю. Час прыйшоў, і сны ўвасобіліся ў яву. Удзельнікі, госці, сведкі непаўторных музычных дзён, здаецца, дасюль не растрацілі свайго захаплення, распавядаючы пра пачутае-ўбачанае. Падсумоўваючы свае ўражанні, вядомая даследчыца старадаўняй беларускай музыкі Вольга Дадзіёмава, прынамсі, адзначыла:

— Гэты фестываль, як падалося мне, адкрыў новую старонку не толькі ў музычным жыцці Нясвіжа, а і ў развіцці ўсёй нашай культуры. Бо нарэшце была ўвасоблена ідэя вяртання і яднання, у прасторы і ў часе, самых розных мастацкіх з'яў, спрадвек спакроўленых з нашай зямлёй, але калісьці штучна разарваных і адлучаных ад нашай гісторыі. Вядома, што ідэя гэтая ўжо на працягу пяці гадоў стала ўвасабляецца ў фестывалях "Адраджэнне беларускай капэлы". Але ж мне падаецца вельмі істотным, што яе падтрымалі музыканты самых розных кірункаў. Было ж для многіх нечакана, што ідэя адраджэння нашай музычнай старасветчыны ўзнікла і ў маэстра Міхала Фінберга, мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі.

Другі вельмі важны аспект: ідэя фестывалю лакалізавалася менавіта ў той кропцы свету, якой лёсам ужо наканавана быць асяродкам уваскрашэння і развіцця нашага мастацтва. Як вядома, менавіта на нясвіжскай зямлі нараджалася і гучала музыка, выкананая ўдзельнікамі фестывалю: Камерным аркестрам пад кіраўніцтвам В. Сарокі, Ансамблем духавых інструментаў пад кіраўніцтвам Б. Нічкова, піяністам І. Алоўнікавым. Яшчэ з 16-га стагоддзя Нясвіж быў адным з найбольш выбітных месц на беларускай зямлі, у "гравітацыйнае" поле культуры, якіх сцягваліся лепшыя тутэйшыя і замежныя музыканты. Тут развівалася друкарская справа, былі нават нотныя друкарні (якія на расійскіх землях з'явіліся на стагоддзе пазней). У 18-м стагоддзі тут былі

*(Працяг на стар. 12)*



*Заслужаны артыст Беларусі Валеры САРОКА.*



*Ажываюць спадчыны старонкі...*

# ЛІМ КОЛА ДЗЁН

***"Еще немного, еще чуть-чуть" і народ Расіі вырашыць лёс насельніцтва Беларусі. Выбары прэзідэнта ў другой і большай "палове" ССР — паслязаўтра. Наўрад ці ўсё вырашыцца ў першым туры, аднак нейкую пэўнасць мы ўсё-такі атрымаем. Безнадзейная справа верыць усялякім сацыялагічным даследаванням ды прагнозам палітолагаў альбо астролагаў тыпу Паўла Глобы, якія асабістыя жаданні ды перакананні ставяць вышэй за ўласна аб'ектыўнасць. Народ Расіі ўжо неаднойчы даказваў, што ўчынкі ягоныя непрадказальныя... Увесь свет заціх у чаканні вынікаў выбараў, якія, без перабольшвання, могуць паўплываць на далейшую гісторыю чалавецтва. Што выбера Расія: "светлае" мінулае без надзеі на сапраўды светлую будучыню ці для многіх змрочнае сёння, але з надзеяй на добрыя змены ўжо заўтра? Чакае свет, пачакаем і мы.***

## ПРАКОЛ ТЫДНЯ

Гэтая сенсацыйная навіна прагучала па ўсіх тэлеканалах, акрамя беларускага, з'явілася шмат у якіх газетах, акрамя афіцыйных беларускіх: падчас падзей 30 траўня спецназам быў затрыманы грамадзянін А. Лісун, які, паводле пратакола, "кричал, выражался нецензурной бранью, выкрикивал антиправительственные *лозунги..."* Праз чацвёра сутак, *якія арыштаваны правёў за кратамі,* на судзе, у прысутнасці міліцыянераў-"сведак", што і склалі гэты пратакол, высветлілася, што А. Лісун... інвалід другой групы, глуханямы з дзяцінства... Гэты факт, безумоўна, увойдзе ў навейшую гісторыю Беларусі і стане хрэстаматыйным прыкладам "беспредела" ўладаў.

## СУМНЕННІ ТЫДНЯ

А вось гэтае здарэнне якраз было шырока асветлена беларускімі сродкамі масавай інфармацыі: 11 чэрвеня грамадзянін А. Зюлькоў каля 9 гадзін раніцы "захапіў" дзіцячы сад N 511 г. Мінска, зрабіўшы заложнікамі 15 дзяцей і дзвюх выхавацелек. Праз некалькі гадзін дзеці былі вызвалены супрацоўнікамі "Альфы" (КДБ) і "Алмаза" (МУС), а тэрарыст забіты.
У той жа вечар БелТБ зрабіла амаль паўгадзінны рэпартаж з месца здарэння, а ўсе газеты назаўтра выйшлі з падрабязнымі паведамленнямі сваіх карэспандэнтаў, якія выпадкова аказаліся сведкамі акта тэрарызму. Назаўтра ж былі апублікаваны звароты-падзякі прэзідэнта Беларусі да калектыву дзіцячага садка N 511, да старшыні КДБ, міністра ўнутраных спраў Беларусі, начальніка службы аховы прэзідэнта. Усюды асабліва падкрэсліваецца "высокі прафесіяналізм" супрацоўнікаў праваахоўных органаў і тое, што, як бачыце, яны могуць не толькі змагацца з пікетчыкамі ды мітынгоўшчыкамі, але і "абараняць мірных грамадзян"... Зайздросная аператыўнасць, дзіўныя высновы, нечаканая развязка — усё гэта міжволі навязвае простаму гледачу ўражанне: а ці не перастараліся арганізатары асвятлення тэракта? Бо ў таго ж простага гледача з'яўляюцца нічым не пацверджаныя пакуль сумневы: а ці не было то загадзя спланаваная, але крыху неахайна праведзеная акцыя з мэтай паказаць доблесць нашых праваахоўных органаў, "імідж" якіх за апошнія месяцы стаў глыбока адмоўным?

## ЗАКАЗ ТЫДНЯ

Прэзідэнт Беларусі ў сваіх жаданнях паступова апускаецца з неба на зямлю: займеў персанальны самалёт, потым пару верталётаў, а цяпер будзе мець і *прэзідэнцкі аўтобус, зборка якога заканчваецца* на мінскім заводзе колавых цягачоў. Аўтобус — не самалёт і абыдзецца ён нашай дзяржаве "ўсяго" ў пару соцень тысяч нямецкіх марак.

## АДПАЧЫНАК ТЫДНЯ

Спынена вытворчасць на буйнейшым прадпрыемстве краіны — Мінскім аўтамабільным заводзе. Увесь чэрвень, як мінімум, рабочыя будуць у вымушаным адпачынку. Прычына — немагчымасць узгадніць цэны з пастаўшчыком матораў з братняй Расіі: Яраслаўскім маторным заводам. Інтэграцыя — інтэграцыяй, як кажуць, а — "табачок врозь"...

## АДТЭРМІНОЎКА ТЫДНЯ

У чарговы раз адкладзена адкрыццё новых станцый Мінскага метрапалітэна. Да святочнага 3 ліпеня не ўдасца пусціць ні "Партызанскую", ні "Аўтазаводскую", ні "Маладзёжную"... Аднаго ўрадавага суботніка дзеля гэтага не хапіла. Новы тэрмін адкрыцця станцый — пачатак 1997 года.

## ЦЫТАТКІ ТЫДНЯ

"Як жа расходуецца бюджэт? Прыярытэты яго размеркавання навідавоку. Так, расходы на службу бяспекі і Галоўнае ўпраўленне аховы склалі 24-26 працэнтаў ад гадавога плана, унутраныя войскі — 20 працэнтаў. У той жа час народная гаспадарка прафінансавана на 8,4 працэнта, ахова здароўя — на 10,2 працэнта, культура — на 12,3 працэнта..."
"Напраўду своеасаблівы шлях абрала Беларусь. Як казаў вядомы маскоўскі палітолаг і публіцыст М. Малюцін, палітыкі дзеляцца на дзве катэгорыі — "хаотаў" і "стабілізатараў". Калі да ўлады прыходзяць "хаоты", то яны ўсё разбураюць, перарабляюць і надыходзіць вялікі хаос. Калі ж прыходзяць "стабілізатары", як у нас, то яны ўсё прыводзяць у парадак і стабілізуюць. І надыходзіць "стабілізец". Поўны".

*(З артыкула "А король-то голый...", "Народная газета", 11 чэрвеня г. г.)*

## ВЫСНОВА ТЫДНЯ

Міжнародная камісія закончыла расследаванне абставін, пры якіх над Беларуссю быў збіты паветраны шар і загінулі двое грамадзян ЗША. Камісія прыйшла да высновы, што прычынай трагедыі сталі памылкі, якія былі допушчаны беларускімі вайскоўцамі пры ідэнтыфікацыі паветранага шара як лётнага сродку, а таксама тое, што не былі зроблены адпаведныя захады дзеля ўстанаўлення кантакту з пілотамі паветранага шара ды іншае, што сведчыць аб прамой віне беларускага боку ў трагедыі ў небе.

## ЗАБАРОНА ТЫДНЯ

"Белорусская деловая газета" ў мінулы панядзелак выйшла, нягледзячы на тое, што ў папярэднюю пятніцу старшыня Дзяржкамдруку У. Бельскі *падпісаў загад аб прыпыненні дзеяння пасведчання аб рэгістрацыі "БДГ".* Аказваецца, з незалежнай прэсай можна змагацца яшчэ і гэткім чынам... А "прычынай" загада стала тое, што рэдакцыяй не ўказваўся час падпісання газеты ў друк, а таксама раскрыццё звестак, што нібыта з'яўляюцца дзяржаўнай таямніцай — артыкул "Адборная гвардыя прэзідэнта" (6 траўня) пра службу бяспекі прэзідэнта. Калектыў газеты і яе выдавец лічаць, што загад незаконны, і маюць намер звярнуцца ў суд.

## НАМЕР ТЫДНЯ

Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада і Партыя народнай згоды 29 чэрвеня правядуць аб'яднаўчы з'езд, на якім будзе ўтворана партыя, што атрымае назву Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада). Гэтакае рашэнне пленума цэнтральнай рады БСДГ падтрымліваюць далёка не ўсе сябры Грамады. Адначасова з аб'яднаннем чакаецца і раскол: Грамада застанецца Грамадой...

Фестывалі

# ПЕСНІ — ДЛЯ ЎСІХ!

Ігара Лучанка ведаюць паўсюль. Яго лепшыя песні, створаныя на вершы хрэстаматыйных беларускіх паэтаў, можна без сумневу называць народнымі. Колькі іх, гэтых класічных узораў самага дэмакратычнага жанру творчасці, падарыў народу кампазітарскі талент Лучанка! Колькі яшчэ іскрынак мелядыйнага характва хаваецца ў яго загадкавай мастацкай душы! Жывыя, заўсёды надзённыя і пазначаныя мудрасцю вечнай гармоніі песні лучаць сэрцы ўжо некалькіх слухацкіх пакаленняў, хаця іх пасталелага творцу ніяк не прылучыш да кагорты "музычных дзядоў". Лучанок — у пошуку, у творчым чыне, у дарозе.

Гэтай вясною ён зладзіў у сталіцы вялікі дабрачынны канцэрт з нагоды журботнай чарнобыльскай даты, уключыўшы ў праграму творы на вершы класікаў беларускай паэзіі ды *такіх салідных у сучаснай літаратуры* фігур, як Генадзь Бураўкін, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч... А вось на сваім аўтарскім канцэрце, які прагучаў у "жывым" тэлеэфіры 6 чэрвеня і стаўся уверцюрай IV Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-96", Ігар Міхайлавіч, на жаль, не змог прысутнічаць.

Канцэрт гэты, наладжаны Дзяржаўным аркестрам пад кіраўніцтвам Міхала Фінберга, яго салістаў і



*Ігар ЛУЧАНОК на сустрэчы са слухачамі.*

вакальнай групы "Камерата", прадставіў дзесятак добра вядомых песень на вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Ніла Гілевіча. "Алеся", "Кася", "Веранiка", "Ганулька", "Спадчына", "У бацькоўскім кутку"... Да мікрафона падыходзілі, змяняючы адно аднаго, папулярныя спевакі Якаў Навуменка і Мікола Скорыкаў, Наталля Тамела і Вадзім Касенка, маладзейшыя Таццяна Воранава ды Лявон Вайтовіч... Сапраўднае захапленне выклікала праца таленавітага сатворцы кампазітара — аранжыроўшчыка Уладзіміра Ткачэнкі, які вынаходліва "акаймаваў" кожную песню амаль самастойнымі інструментальнымі інтэрмедыямі, аздобіў далікатнымі гарманічнымі штрыхамі, рытмічнымі знаходкамі.

Няма сумневу, без песень Лучанка не абыдуцца і наступныя канцэрты фестывалю, урачыстае адкрыццё якога прыпадае акурат на сённяшні вечар. Між іншым, вызначаны нядаўна геаграфічны цэнтр Беларусі аказаўся ў наваколлі Пухавічаў — той самай зямлі, што дала нашай культуры непаўторны і невычэрпны талент Ігара Лучанка!

Тым часам "геаграфічны цэнтр" музычнай прасторы перамяшчаецца ў Маладзечна. Калі вам не выпадае патрапіць на тры бліжэйшыя дні ў гэта слаўнае мястэчка, сачыце за падзеямі з дапамогай тэлеэкрана: песні, вершы, інструментальныя кампазіцыі будуць гучаць для ўсіх!

**С.Б.**

*Фота С. ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА*

# БУДЗЕМ ПРАЦАВАЦЬ РАЗАМ

## АДКРЫТЫ ЛІСТ СЯБРАМ ГРАМАДСКАГА КАМІТЭТА АБАРОНЫ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ГІСТАРЫЧНАЙ СІМВОЛІКІ

У друку змешчана заява вашага камітэта. Цалкам падзяляю вашу трывогу за нашу Бацькаўшчыну, за незалежную Беларусь. Каб не траціць дарэмна вашу ўвагу на адкрыццё свайго светапогляду скажу адразу — кожнае слова, кожны радок гэтай заявы адгукаецца ў маёй душы, выклікае патрэбу працаваць над тым, каб гэтыя ідэі ад іх добрага пажадання перавесці ў практычную плоскасць. Для гэтага я буду выкарыстоўваць трыбуну Вярхоўнай Рады (Парламента Рэспублікі Беларусь). Каб ідэі Грамадскага камітэта прынеслі добры плён, прапаную вакол вашага камітэта стварыць шырокае аб'яднанне "Наш дом — Беларусь", якое будзе змагацца за незалежную суверэнную Рэспубліку Беларусь, за галоўныя нацыянальна-вызначальныя каштоўнасці беларускага народа і асноўныя чыннікі дзяржавы — мову, культуру, гісторыю, нацыянальныя сімвалы. Я заўжды ставіў нацыянальна-духоўныя каштоўнасці на першае месца ў сваёй свядомасці і ў свядомасці сваіх паплечнікаў. Я ведаю, што ў Вярхоўнай Радзе Рэспублікі Беларусь будзе многа дэпутатаў, якія знойдуць у сабе смеласць і разумны сэнс падтрымаць вашыя варункі ў гэтым напрамку. Гвалтоўная, незаконная змена сімволікі — недарэчнасць, якую не разумее цэлы свет. Але гэта не ўсё. Для мяне наша гісторыя і сімволіка — гэта абарона правоў чалавека, дэмакратыі, незалежнасці, сацыяльная абарона кожнага жыхара нашай Бацькаўшчыны. Гэта палітыка не жабракоў і нейкіх бездапаможных ахвяр, а палітыка гаспадароў сваёй сутнасці, свайго гасціннага дома, дзе змогуць жыць усе, хто паважае сваё жыллё і клапоціцца за ягоны дабрабыт. Вось таму я Ваш, таму я з Вамі. Прыйшоўшы ў Вярхоўную Раду Рэспублікі Беларусь, я ніколі не дзялю дэпутатаў на "ворагаў" і паплечнікаў, як гэта робяць некаторыя вышэйшыя кіраўнікі нашай дзяржавы. З'яўляючыся сябрам парламенцкай фракцыі "Згода", якая ўзнікла на базе групы дэпутатаў з "Кансалідацыі", я буду і далей працаваць у напрамку незалежнай суверэннай Рэспублікі Беларусь.

Вярхоўны Савет 19 верасня 1991 года прыняў закон аб дзяржаўных сімвалах Беларусі. Я буду рабіць усё магчымае, каб гэты закон быў укаранёны ў практыку нашага палітычнага і грамадскага жыцця. Што супраць гэтага — гэта сёння незаконна. Наша гістарычная сімволіка — гэта дух народа Беларусі, увасабленне народных гістарычных, эстэтычных і маральных каштоўнасцей. Нашы сімвалы — гэта нашы гісторыка-палітычныя святыні. Ганьба тым, хто гэта не разумее. Але шчыра шкада нашых кіраўнікоў, якім мала пра гэта казалі, мала тлумачылі нашы гістарычныя стасункі. Гістарычная будучыня нашага народа будзе залежаць ад нашых сумесных намаганняў адстаяць нашы святыні, нашу незалежнасць, суверэнітэт.

У апошні час павялічылася колькасць акцый як з боку апазіцыйных кругоў, так і кіруючых улад, якія вядуць да расколу грамадства на даволі варожыя лагеры, супрацьстаянне гэтых двух бакоў узмацняецца. Першы крок у гэтым, на жаль, паклаў рэферэндум і змена нашых гістарычных сімвалаў. Трэба працаваць разам, каб гэты раздзел быў ліквідаваны. Але гэта не значыць, што мы беларусы, гэта "статак баранаў" якім усё роўна кім быць. Наша нацыянальная "памяркоўнасць", "талерантнасць", гэта вопыт народа, дабыты на шляху тысячагадовай гісторыі барацьбы за незалежнасць, выжыванне, прага да таго, каб народам звацца і быць ім.

Досыць. Мая трыбуна ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь — гэта трыбуна "Грамадскага камітэта абароны беларускай нацыянальнай гістарычнай сімволікі", шырокага аб'яднання "Наш дом — Беларусь".

**Віктар ЦЯРЭШЧАНКА,**
***дэпутат ВС Рэспублікі Беларусь,***
**старшыня Беларускага таварыства "Народная дыпламатыя"**

# БЕЛАРУСКАЯ ПЕРСПЕКТЫВА: ПАЗБЕГНУЦЬ АПАКАЛІПСІСУ

***Градмадскі навукова-аналітычны цэнтр "Беларуская перспектыва" ("Belarusan perspective") створаны ў верасні мінулага года. Арганізацыя мае Савет заснавальнікаў, прэзідыум, трох сустаршыняў — Уладзіміра Анцулевіча, Валянціна Голубева і Аляксандра Фядуту. "Беларуская перспектыва" адкрыта да супольніцтва з усімі сіламі, якія стаяць на грунце беларускай дзяржаўнасці, пільнуюцца законаў і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, выступаюць за рынкавыя рэформы ў эканоміцы, захоўваюць правы чалавека і шануюць дэмакратычныя каштоўнасці. Арганізацыя ладзіць семінары, лекцыі, канферэнцыі і г.д., у якіх бяруць удзел спецыялісты па прадмеце абмеркавання, грамадскія і дзяржаўныя дзеячы, шырокае кола зацікаўленых асоб. Праекты, якія распрацоўвае "Беларуская перспектыва", накіраваны на рашэнне праблем беларускага грамадства. На рахунку арганізацыі — канферэнцыя "Праблемы прыцягнення замежных інвестыцый у эканоміку постсацыялістычных краін Усходняй Еўропы" і "Праблемы рынкавых рэформ сельскай гаспадаркі ў краінах Усходняй Еўропы", семінар "Грамадзянская супольнасць і праблемы нацыянальна-культурнай ідэнтыфікацыі ў Беларусі".***

Адкрыў семінар уступным словам "Грамадская супольнасць як асноўны чыннік фармавання нацыянальнай ідэалогіі" В. Голубеў. Потым доктар гістарычных навук, прафесар А. Грыцкевіч (Інстытут культуры, Мінск) зрабіў гістарычны экскурс у сутнасць праблемы. Ягоны даклад меў назву "Праблема нацыянальна-культурнай ідэнтыфікацыі ў Беларусі ў XVII—XVIII стст.". Рэч у тым, што шэраг гісторыкаў лічыць сучасны тып

Сустрэчы

# НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎСКАЙ



Вядомаму празаіку, лаўрэату прэміі імя І. Мележа, галоўнаму рэдактару часопіса "Маладосць" Генрыху Далідовічу 1 чэрвеня споўнілася 50 гадоў. З гэтай нагоды 2 чэрвеня ў вёсцы Янковічы Стаўбцоўскага раёна, дзе нарадзіўся пісьменнік, адбылося свята.

*На здымку: Вацлаў Далідовіч каля сваёй хаты сустракае гасцей, якія прыйшлі павіншаваць яго сына Генрыха (крайні злева) з 50-годдзем.*
*Фота М. ХАМЦА*

Пошта

# ПОДЫХ ВЕЧНАСЦІ

Паважаная рэдакцыя!

Дазвольце ад імя маскоўскіх беларусаў — сяброў Таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны — праз вашу газету выказаць шчырую падзяку тэатру "Вольная сцэна", чый прамень высокага мастацтва ў такі сумны час асвяціў нашы душы тут, у Маскве.

11 траўня нам пашчасціла паглядзець знакаміты спектакль — лаўрэата Міжнароднага конкурсу ў Шатландыі "Рычард". Асабіста я шмат чула пра гэты спектакль і ад англійскіх беларусаў, якія паглядзелі яго падчас фестывалю ў Шатландыі, чытала станоўчыя водгукі ў друку, але тое, што ўбачыла, пераўзышло мае спадзяванні.

Рэч у тым, што раней я ўжо глядзела гэты несмяротны шэкспіраўскі сюжэт у маскоўскім тэатры імя Вахтангава з таленавітым М. Ульянавым у галоўнай ролі. Вахтангаўскі спектакль у свой час карыстаўся поспехам: усе хадзілі "на Ульянава". Але потым, калі прыгадвалі з сябрамі спектакль, высветлілася, што ў нашай памяці, апрача акцёрскага тэмпераменту М. Ульянава, нічога не засталося. Склалася ўражанне, што мы наведалі тэатр аднаго акцёра...

Іншая справа — пастаноўка "Вольнай сцэны". Тут была трупа, калектыў, цэласнае дзейства, у якім кожны акцёр адчувае другога і кожны на сваім месцы. Безумоўна, выдатна іграў Алег Гарбуз. З яго дапамогай спектакль набывае новае філасофскае, агульначалавечае гучанне. Пачынаеш разумець, што Шэкспір — сучасны! Так, напэўна, і павінна быць, калі спалучаецца геній пісьменніка з талентам і душой акцёраў і пастаноўшчыкаў. Быццам увайшоў у наш свет праз іх душы вялікі Шэкспір і з дакорам пытаецца: "Людзі, хіба за 400 год вы так і не навучыліся распазнаваць зло, не пазбавіліся тых ганебных і загнаных рысаў, што паказаў я вам у сваім творы? Калі вы не здолееце сваім розумам і адзінствам пераадолець злы дух Рычарда — ён знішчыць вас".

Спектакль вельмі ўражвае. Застаешся з нейкім пачуццём вечнасці: вечнасці нашых праблем, вечнасці Шэкспіра, вечнасці Яго Вялікасці Тэатра.

Ад шчырага сэрца жадаем "Вольнай сцэне" далейшых творчых поспехаў і знаходак, жадаем ім удзячных гледачоў як за межамі краіны, так і ў роднай Беларусі!

**Таіса МІШЧАНКА**
*г. Масква*

Варункі

# СПОВЕДЗЬ

**Я пазнаёміўся з гэтым хлопцам на пачатку чэрвеня. Некалькі дзён пасля пікета 30 мая ён адлежваўся, ачуньваў. Напішы, папрасіў я яго, што адбылося. І ён напісаў.**

**"30 мая каля 21 гадзіны (пікет скончыўся прыкладна ў 19 гадзін — *А. Б.*) я са сваім знаёмым праходзіў каля ГУМа. У гэты час з-за рога магазіна выскачыла група "людзей" у цывільным. Без прад'яўлення якіх-небудзь дакументаў і без папярэджання яны пачалі нас збіваць. Адзін з іх ударыў мяне нейкім прадметам, мяркую ключом, заціснутым у кулаку, у галаву, у левую скронь і разбіў мне галаву да крыві. Затым нас запіхнулі ў "Жыгулі" і адвезлі ў апорны пункт міліцыі, які знаходзіцца на перакрыжаванні вуліц Маркса і Леніна.**

**Там ужо нас чакалі такія самыя асобы ў цывільным. Калі нас вывелі з машыны, яны пачалі біць нас па галаве, у жывот і па нырках. Затым мяне завялі ў апорны пункт і нацягнулі на галаву цэлафанавы пакунак, які быў у мяне з сабой. Заціснуўшы такім чынам рот, яны білі мяне пад дых, па пячонцы і нырках. Я на нейкі час згубіў прытомнасць.**

**Затым мяне апрытомнілі і паведамілі, што на мяне завялі крымінальную справу за тое, што я быццам бы цяжкім прадметам разбіў галаву міліцыянеру падчас пікета (хаця ў руках у мяне на момант затрымання быў цэлафанавы пакунак з джынсавай кашуляю). Адзін з тых, хто мяне затрымліваў у гэты час, дыктаваў супрацоўніку міліцыі, апранутаму па форме, пратакол майго затрымання.**

**Міліцыянер пісаў пад дыктоўку тое, што мяне ўзялі на мітынгу у той момант, калі я разбіў галаву нейкаму міліцыянеру. У гэты ж момант трое другіх, апранутых у цывільнае, прымусілі мяне ўстаць, абаперціся рукамі аб сцяну, і прыгаворваючы: "дык чым ты ўдарыў міліцыянера", білі мяне рукамі і нагамі па спіне.**

**Ад маіх апраўданняў яны яшчэ болей звярэлі, збівалі больш ярасна, казалі мне, што я баявік УНА-УНСО і што за мной даўно палявалі і што нас "узялі ўжо ўсіх траіх". Затым прывялі яшчэ аднаго хлопца, які таксама быў моцна збіты, і спыталі мяне, ці ведаю я яго. Калі я адказаў адмоўна, мяне паваліл на падлогу і білі нагамі. Адзін са збіваўшых сказаў мне, што я "сур'ёзна ўліп" і што ён асабіста паклапоціцца, каб я "здох у турме". Калі я губляў прытомнасць, а затым прыходзіў да памяці, яны казалі, што калі я буду сімуляваць боль, яны мяне зусім заб'юць. Затым яны прымусілі мяне стаяць каля сцяны. Я папрасіў, каб дазволілі мне сесці, бо балела галава і займала дыханне. Мне адмовілі. Толькі пасля таго, як разышліся ўсе асобы ў цывільным, міліцыянер заўважыў, што я запэцкаў крывёю сцяну, і дазволіў мне сесці на лаўку. Я сеў і на нейкі час страціў прытомнасць.**

**Супрацоўнік міліцыі апрытомніў мяне і сказаў, каб я збіраўся. Мяне завезлі ў Ленінскае РАУС. Міліцыянеры дазволілі мне легчы на лаўку. Затым яны выклікалі хуткую дапамогу. Яшчэ я заўважыў, што міліцыянеры смяяліся з некаторых пратаколаў затрымання. Напрыклад, на аднаго глуханямога хлопца быў складзены пратакол, што ён быццам бы "размахваў рукамі і выкрыкваў антыўрадавыя лозунгі".**

**Прыехаўшыя лекары ўгаварылі супрацоўнікаў міліцыі адпусціць мяне ў бальніцу і зафіксавалі пры аглядзе ў РАУСе "чэрапна-мазгавую траўму і рассячэнне галавы ў раёне скроні". Міліцыянеры пагадзіліся адпусціць мяне ў бальніцу, але запісалі нумар міліцэйскай брыгады і знялі мяне на відэакамеру. У машыне "хуткай" мне ўкалолі абязбольваючае. Дактары спрабавалі дапамагчы мне не толькі фізічна, але і маральна. Ноччу я ўсё ж такі пайшоў з бальніцы, бо баяўся, што супрацоўнікі міліцыі вернуцца за мной і даб'юць".**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

Рэпліка

# БІЗНЕС... НА ЗЛАЧЫННАСЦІ

***Ёсць выданні, пасля якіх хочацца памыць рукі. З кніжнай прадукцыяй прасцей: яна нятанна каштуе, таму набываецца адно "любіцелямі". Горш з газетамі спецыфічнай скіраванасці. Яны не дарагія і даступныя, яны ва ўсіх кіёсках, іх прапануюць у электрычках і цягніках.***

Менавіта ў цягніку падзяліліся са мной суседзі па купэ "Частным детективом". Ні нумара, ні даты пры загалоўку; дробненькі нумар — 9(107) — я з цяжкасцю адшукала пры выхадных дадзеных. Прачытаўшы, зразумела чаму так: газета абсалютна пазбаўлена ўсялякай інфармацыйнай прывязкі да сённяшняга дня. Гісторыі, пра якія яна апавядае, адбываліся ва ўсе часы, ва ўсіх, мабыць, народаў і заўсёды былі "хлебам надзённым" для бульварнай прэсы.

Вось кароткі пералік сюжэтаў аднаго толькі нумара: бацька давёў да самагубства сына — будучага медаліста; непуцёвая маці загубіла малое дзіця; дачка забіла бацьку, а пасля брата-сужыцеля... Перад намі славутая "бытавуха" — тое, што здараецца ў здэградаваных і нават звычайных сем'ях па п'янцы. Тут і ўсялякі іншы крымінал: забойствы, згвалтаванні, рабаўніцтвы і да т.п.

Што ж, запярэчыце вы, гэта было, ёсць і будзе, грэх бессмяротны, а чалавек далёкі ад дасканаласці. Чаму ж пра ўсё гэта не пісаць? Важна, адно як пісаць, пад якім, як кажуць, соусам падаваць, да якіх высноў падводзіць чытача, што будзіць у ягонай душы...

Вы думаеце, "дэтэктыў" расследуе, у пакутах шукае ісціну, разважае пра заганнасць чалавечай натуры? Зусім не! Яго стваральнікі ніколькі не абцяжарваюць сябе клопатам пра маральны бок пытання і пра журналісцкую этыку. Хаця, як падумаеш, пры чым тут увогуле журналістыка? Тут іншыя мэты і задачы.

Надзіва аднолькавым стылем аўтары размусольваюць, белетрызуюць страшны, жорсткі, падчас на мяжы паталогіі матэрыял: паказанні сведкаў, заключэнні судова-медыцынскай экспертызы, эпізоды судовых пасяджэнняў, прызнанні людзей, якія ўчынілі цяжкія злачынствы або пацярпелі ад іх. І робяць яны сваю справу лёгка, спрытна, гуляючы (набілі руку за 5 гадоў!). З-пад пяра выходзяць займальныя бойкія гісторыі для "чціва" ў вольную хвіліну (як правіла, спісаныя з іншых газет). Сабраныя ў межах аднаго выдання ў адну крыва-брудную кучу — без аглядкі на маральныя імператывы і без Бога ў душы — у любога нармальнага чалавека гэтыя гісторыі выклікаюць адно агіду і прыгнечанасць.

На чалавечых бедах і слязах, на душэўных зломах і патрасеннях будуюць заснавальнікі газеты А. Усеня і яго каманда свой матэрыяльны дабрабыт, свой постсавецкі "навар". А некалі ж здаецца, вершы пісаў, надзеі падаваў як малады літаратар...

У свой час "Частный детектив" адпачкаваўся ад "Детектива" — дадатка маскоўскай газеты "Совершенно секретно", а зараз і сам размнажаецца: на свет з'явілася яшчэ адно звыроднае дзіця маскультуры — "Детективная газета".

Напаследак "абрадуем" айчынных спажыўцоў "Частного детектива". Ён друкуецца і распаўсюджваецца не толькі ў нас, але і ў Расіі, Украіне, Малдове і Прыбалтыцы. Яго агульны тыраж — 400 тысяч асобнікаў! Гэта не проста газета — цэлы выдавецкі канцэрн ці сіндыкат, які цягне свае шчупальцы ўсё далей і далей. Хіба могуць быць у яго праблемы з рэгістрацыяй у Камітэце па друку РБ, з друкаваннем у Беларускім доме друку? Не, рэгіструюць і чыняць перашкоды іншым выданням.

Так што Аляксандр Усеня можа спакойна рабіць свой бізнес на злачыннасці разам з іншымі дзеячамі "крымінальна-сексуальнага" накірунку. Вось толькі распаўсюджваць іх газеты — калі дбаць пра душэўнае здароўе грамадства — я не рэкамендавала б нават у турме.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

беларуса, некаторыя вызначальныя праявы ягонага менталітэту вытворнымі ад трагічных падзей XVII стагоддзя, калі варожыя нашэсці ператварылі квітнеючы край у пустэльню і падрыхтавалі глебу для інкарпарацыі Беларусі ў склад Расійскай імперыі. Зразумець, што адбылося тады, значыць зразумець тое, што адбываецца з нашай зямлёю і людзьмі сёння.

Кандыдат гістарычных навук З. Шыбека (Навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны, Мінск) выступіў у працяг тэмы, прааналізаваўшы наступны гістарычны этап — "Працэсы нацыянальнай ідэнтыфікацыі ў Беларусі ў XIX — пачатку XX ст.". На думку навукоўцаў, ёсць два тыпы ўтварэння нацый у Еўропе. На ўсходзе кантынента — на глебе этнічнай супольнасці, на захадзе — на падставе размаітага насельніцтва, падпарадкаванага і аб'яднанага абсалютысцкай дзяржавай. Так бы мовіць, нацыя этнічная і нацыя грамадзянская. Мы, беларусы, ужо маем супольнасць грамадзян, але не маем нацыі. Нацыі агітацыяй не створыш, але аб'яднаныя лёсам этнічныя і сацыяльныя групы проста вымушаны шукаць паразумення.

Філосаф І. Бабкоў (Цэнтр імя Ф. Скарыны) закрануў "Культуралагічны аспект генеалогіі беларускай ідэі" (такую назву меў ягоны даклад). Адны і тыя ж культурніцкія з'явы XIX—XX стагоддзяў на нашай зямлі ў залежнасці ад метадалогіі і палітычных поглядаў даследчыка могуць трактавацца як беларускія, рускія, польскія, летувіскія, літоўскія, ліцвінскія, украінскія. Пад Літвою мы сёння разумеем Летуву і Беларусь. І. Бабкоў адзначыў, што менавіта праз гісторыю літаратуры можна прасачыць працэс ператварэння беларускага народа з аб'екта апісання (Дунін-Марцінкевіч) у суб'ект Гісторыі (Багдановіч). Сёння няма ідэі, якая б лучыла ўсю беларускую нацыю, але развой грамадзянскай супольнасці сёння ўласцівы ўсёй Еўропе, мяркуе І. Бабкоў. Мы часам спасылаемся на вопыт чэхаў, летувісаў — этнічных нацый, якія паўсталі праз рэжым нацыянальнага Адраджэння, але ў нас іншая сітуацыя: мы — грамадзянская нацыя, але адраджэнцы апелююць да этнічнага народа.

Даклад доктара філасофскіх навук, прафесара У. Конана (Цэнтр імя Ф. Скарыны) быў, як мне падаецца, адным з найбольш цікавых і доказных. Прынамсі, ягоным аргументам было цяжка што-небудзь супрацьпаставіць. "Этнічная і нацыянальная ідэнтыфікацыя: аналіз паняццяў у кантэксце гістарычнага лёсу беларусаў" — назва даклада У. Конана. Дакладчык зыходзіў з таго, што ці не ад самага пачатку фармавання гістарычная і культурная прастора беларусаў была аб'ектам агрэсіі і анексіі суседзяў. Тыповая геапалітычная падтасоўка — атаясамліванне Рэчы Паспалітай з Польшчай, а Вялікага княства Літоўскага — з Летувою. Тады Беларусь (пазбаўленая сваёй гістарычнай спадчыны) успрымаецца як выпадковы новатвор. "Адкрытасць" у трактоўцы каланізатараў абвяшчаецца характэрнай з'явай беларускай культуры — між тым ніякі этнас не можа вытрымаць абсалютнай адкрытасці. Этнацыд выдаецца за натуральны працэс. Дарэчы, словы "нацыя" (па латыні) і "этнас" (па-грэчаску) у літаральным сэнсе азначаюць адно і тое ж — "народ", але сэнс маюць розны. Пра этнас гаворка ідзе звычайна ў дачыненні да XVII—XVIII стагоддзяў, пра нацыі — XIX—XX стагоддзяў. Спадару Конану даспадобы вызначэнне М. Гарэцкага: "Нацыя — гэта народ, які мае культуру". Культурнае поле (сюды ўваходзіць і палітычная культура — нацыянальная дзяржава) беларускай нацыі сфармавана даўно, але яно было разбурана. Мы спазналі этнацыд як у "класічнай", так і ў "цывілізаванай" форме з дэстабілізацыяй этнічнага ядра і разбурэннем этнічнага поля.

Якую ж перспектыву бачыць прафесар Конан? Ён лічыць, што ў XXI стагоддзі адбудзецца канчатковае замацаванне нацыянальных дзяржаў і развал яшчэ існуючых імперый. На ягоную думку, наўрад ці застануцца ўбаку ад гэтага працэсу ЗША і Расія. Ці не будзе гэты працэс суправаджацца войнамі? Дакладчык лічыць, што ўжо сёння ёсць механізм стрымлівання.

А. Кіштымаў, вядомы як аўтар сацыялагічных публікацый, прадстаўляў Інстытут гісторыі АН Беларусі. Ягоны даклад — "Нацыі XX стагоддзя: ад масавай свядомасці да індывідуальнага самавызначэння". Паварот ад этнаса да нацыі ён трактуе як паварот ад рэлігійнай да свецкай улады і далей да

*(Працяг на стар. 4)*

## ЧЫТАННІ Ў МЁРАХ

**Па ініцыятыве культурна-асветнага цэнтра імя Язэпа Драздовіча і з фундацыі Віцебскага аддзялення Беларускага фонду Сораса неўзабаве адбудуцца "Дзісненскія чытанні". Гэта навукова-практычная канферэнцыя, у якой прымуць удзел навукоўцы не толькі з Беларусі, але і з Польшчы, Германіі, Расіі і іншых краін.**

**Прысвечаны чытанні гісторыі і культуры досыць адметнага Дзісненскага рэгіёна. Адбудуцца яны ў горадзе Мёры 20—21 чэрвеня. Пачатак а 10 гадзіне ў памяшканні РДК.**

*Тэлефоны для даведак: (02152) 2-19-15, 2-29-25.*

## КАБ НЕ ГУБЛЯЛАСЯ ПРЫСУТНАСЦЬ КУПАЛЫ



**У Санкт-Пецярбурзе, які так многа значыў у жыцці і творчасці беларускага песняра, утворана першасная суполка Міжнароднага фонду Янкі Купалы. На ўстаноўчым сходзе беларусаў Паўночнай сталіцы Расіі Анатоль Кірвель, Аўгіння Кавалюк, Мікалай Нікалаеў, Валянцін Грыцкевіч, Марыя Ткачэнка, Анатоль Разумаў, Марыя Чапялёва пастанавілі распачаць культурна-асветніцкую працу ў горадзе, каб не гублялася прысутнасць Купалы, каб спадчына паэта, прарока Адраджэння, служыла духоўным ідэалам для сучаснікаў.**

**Старшынёю першаснай суполкі Міжнароднага фонду Янкі Купалы ў Санкт-Пецярбургу абраны сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў сп. Анатоль Кірвель.**

**С. ПАНІЗНІК**

*На здымку: у горадзе на Няве.*

*Фота С. ПАПАРА*

## БЮЛЕТЭНЬ БЕЛАРУСІСТАЎ

**Міжнародная асацыяцыя беларусістаў разам з навукова-вытворчым цэнтрам "Аднова" выдае штомесячны бюлетэнь "КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ". Гэта культуралагічнае інфармацыйнае выданне, задача якога — садзейнічаць кантактам паміж краінамі, культурамі, нацыямі. Сярод аўтараў шмат замежных навукоўцаў, што вымушае і нас многія рэчы бачыць у іншым ракурсе.**

**У выданні шмат разнастайнай інфармацыі.**

**У прыватнасці, у N 4 можна даведацца, што такога ж роду бюлетэнь пачаў выходзіць у Францыі, яго назва "Беларускія перспектывы", а арганізатары — беларусісты гэтай краіны.**

**Такім чынам, беларусісты ўсіх краін — яднаюцца...**

**Г. З.**

## НОВЫ ФОНД У ЛАТВІІ

**Беларуская дыяспара ў Латвіі каторы раз засведчыла сваю актыўнасць. Створаны латвійскі фонд беларускай культуры, які мае свой грашовы рахунак у банку. У статуце новай арганізацыі напісана, што асноўная мэта фонду — зберажэнне культуры, мовы, традыцый беларусаў Латвіі, узбагачэнне іх духоўнага жыцця. Фонд будзе спрыяць вывучэнню і папулярызацыі культурна-гістарычнай спадчыны і фальклору, пашырэнню культурных сувязей з іншымі народамі.**

**Фонд выступіў са зваротам да прадпрымальнікаў і дзелавых людзей, якія так або інакш звязаны з Беларуссю. У ім гаворыцца пра беларускую школку ў Рызе, пра штомесячную газету беларусаў Латвіі "Прамень", пра цікавы фальклорны ансамбль "Надзея" — усім гэтым асяродкам беларушчыны патрабуецца маральная і матэрыяльная дапамога. Зварот пачынаецца прачулымі словамі: "Нашы заўжды самыя шчырыя, самыя добразычлівыя землякі і верныя сябры"... Ці адгукнуцца, ці падтрымаюць "верныя сябры"?**

**Г. З.**

# БЕЛАРУСКАЯ ПЕРСПЕКТЫВА: ПАЗБЕГНУЦЬ АПАКАЛІПСІСУ

*(Працяг. Пачатак на стар. 3)*

максімальнага самавызначэння асобы. Сённяшнюю рэчаіснасць Беларусі нельга назваць спрыяльнай для развіцця асобы, здольнай на асэнсаваны выбар. Не спрыяе гэтаму знешняя палітыка, пабудаваная не на здаровым сэнсе, а на міфах. З двух хворых не атрымаецца адзін здаровы. Беларусь і Расія выплывуць паасобку, а патопяцца, чапляючыся адна за адну. Нацыя — мысляны этнас. Такое вызначэнне сп. Кіштымава. Розум і цвярозы аналіз ён супрацьпастаўляе міфалагізаванаму мысленню. Ён супраць міфалагізацыі ўвогуле, незалежна ад таго, ідзе гаворка пра афіцыйную міфалогію ("славянская еднасць" і г.д.) альбо пра адраджэнскую.

Даклад выклікаў спрэчкі. У прыватнасці, кандыдат гістарычных навук А. Трусаў (Інстытут культуры) адзначыў, што і чэхі, і летувісы ішлі да незалежнасці праз міф, іншы раз праз фальсіфікацыю гісторыі; што міфалогія — важны чыннік нацыянальнага выжывання. Так што не трэба нам нічога тут выдумляць, бо ёсць напрацаваны многімі народамі вопыт.

Прафесар Ю. Хадыка не згадзіўся з тым, што пэўныя негатыўныя рысы, уласцівыя некаторым сённяшнім кіраўнікам РБ, сп. Кіштымаў абвяшчае дамінуючымі ў менталітэце беларусаў. "Не бывае кепскіх народаў, як не бывае і кепскіх менталітэтаў. Ёсць толькі кепскія прадстаўнікі тых ці іншых народаў". Калі прыняць іншы пункт гледжання, дадаў Ю. Хадыка, тады можна лічыць Гітлера эталонам немца, а Расію бачыць увасобленай у якім-небудзь п'яным гультаі. Але мы ўсе ведаем, што гэта не так.

І. Бабкоў сказаў, што памылкі нацыі, прынамсі — няправільны выбар, гэта таксама гісторыя. А вось асэнсаванне гісторыі дапамагае пазбегнуць новых памылак.

Доктар філасофскіх навук І. Левяш з Мінскага лінгвістычнага універсітэта, адзін з тых, хто дапамагае Адміністрацыі прэзідэнта рабіць дзяржаўную ідэалогію для РБ, распавядаў аб "геапалітычы як існасці нацыянальнай ідэі ў беларускім вымярэнні". Сп. Левяш перад гэтым быў на іншым семінары, дзе навукоўцы з Расіі Хрыстом-богам прасілі беларускіх калег асцерагаца самога слова "нацыя". Гэта, маўляў, небяспечна ўкараняць не толькі ў расійскую, але і ў беларускую глебу. І. Левяш намаляваў вобраз цывілізацыйнага катка, які ўсё падмінае пад сябе і супрацьстаяць яму немагчыма. Крызіс партыйных каштоўнасцяў выклікаў да жыцця нацыяналізм. Гэта — кепска. Але суверэнітэту без нацыянальнай ідэі быць не можа... Дакладчык не схільны вышукваць у гісторыі Беларусі нейкія кропкі адліку для фармавання нацыянальнай ідэі, а свой уласны радавод вядзе "ад Адама і Евы". На гэта А. Трусаў нагадаў, што да нядаўняга часу было модна весці радавод ад малпы... Сп. Левяшу вельмі не падабаецца, што "дзень жалобы" 26 красавіка быў палітызаваны. А галоўнае, ён з жахам думае пра тое, што калі-небудзь будзе парушаны сённяшні сусветны парадак, калі дзяржаў — 300, а народаў — 4000; што дзяржаў можа быць па колькасці народаў. Гэта, маўляў, апакаліпсіс!

Апаненты нагадалі, што ў пачатку стагоддзя дзяржаў было ўтрая меней, і з павелічэннем колькасці суверэнных краін свет набыў толькі новыя каштоўнасці, і чаму гэта 300 — добра, а 4000 — кепска?

Выклікаў спрэчку і яшчэ адзін тэзіс сп. Левяша: "Язык не поворачивается назвать русских в Белоруссии национальным меньшинством". Чаму не павoffварочваецца? Меншасць — хто ж яшчэ? Толькі меншасць правячая, як адзначыў сп. Трусаў.

Я, слухаючы даклад, так і не зразумеў, што такое беларускае вымярэнне геапалітыкі як існасці...

Даклад А. Трусава асвятляў ролю дзяржаўных сімвалаў у самавызначэнні беларускага і рускага народаў. Дакладчык пачаў ад IX стагоддзя і кончыў сённяшнім днём, разбіўшы працэс выкрышталізацыі нацыянальна-дзяржаўных сімвалаў на сем перыядаў. Сп. Трусаў мяркуе, што трыяда герб-сцяг-гімн (Пагоня — бел-чырвона-белае палотнішча — "Магутны Божа") павінна быць дапоўнена шэрагам архітэктурных сімвалаў дзяржавы. Скажам, Брандэнбургскія вароты — сімвал Германіі, вежа "Біг-Бэн" з гадзіннікам — Брытаніі, Спаская вежа Маскоўскага Крамля — Расіі. Для Беларусі такім сімвалам маглі б быць Полацкая Сафія, Мірскі замак альбо Белая вежа.

На заканчэнні першага дня семінара выступіў кандыдат медыцынскіх навук В. Грыцкевіч (Акадэмія культуры, Санкт-Пецярбург): "Гістарычная культура ў нацыянальна-культурнай ідэнтыфікацыі на Беларусі". Ёсць рэчы, якія з'яўляюцца прадметам не доследу, а веры. Гістарычная міфалогія можа быць са знакам плюс і са знакам мінус. Гістарычная культура існуе і на ўзроўні міфаў, і на ўзроўні элітарным. І трэба гэтыя рэчы адрозніваць. Асабліва ў галіне нацыянальнай адукацыі і выхавання.

Праграма другога дня семінара была зменена, скарочана пад уплывам палітычных падзей 30 траўня. Рэч у тым, што пад амонаўскія дубінкі ў цэнтры горада патрапілі Ігар Бабкоў і Генадзь Грушавы, які назаўтра павінен быў чытаць даклад "Чарнобыльскі феномен як асноватворны фактар фармавання сучаснай інтэграцыйнай нацыянальнай ідэі". Яны патрапілі пад гарачую руку міліцыянераў, якія разганялі маніфестантаў, што пратэставалі супраць "беспредела" ў адносінах да арыштаваных 26 красавіка. І. Бабкову вывіхнулі руку, але ён змог прыйсці на семінар, а Г. Грушавы трапіў у бальніцу. Акрамя таго, сярод арыштаваных 30 траўня аказаўся выканаўчы дырэктар Цэнтра "Беларуская перспектыва" Віктар Івашкевіч. Ён збіраўся чытаць даклад "Роля суб'ектаў грамадзянскай супольнасці ў фарміраванні агульна-нацыянальнай інтэгруючай ідэалогіі". Удзельнікі семінара накіравалі пратэст пракурору краіны і пракурору горада.

Другі дзень распачаўся дакладам намесніка дырэктара Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў Ю. Дракахруста (Мінск) "Вопыт практычнай міфалогіі". Калі казаць, што на семінары ў асноўным вялі рэй нацыянальныя дэмакраты і лібералы, дык сп. Дракахруста, безумоўна, трэба аднесці да лібералаў, хоць, магчыма, у іншым сходзе ягоныя тэзісы ўспрынялі б як праяву "крутога" нацыяналізму. Сп. Дракахруст апеляваў не столькі да нацыянальных каштоўнасцяў, як да агульнадэмакратычных. Ён выказаў думку, што за сённяшні стан беларускай дзяржаўнасці нясуць адказнасць і тыя нацыянальна-арыентаваныя сілы, якія без уліку беларускай рэчаіснасці паспрабавалі зрабіць "як у Літве". Выбар сп. Лукашэнкі на пасаду прэзідэнта — гэта помста маргіналаў нацыяналістам, якія замахнуліся на звыклы лад жыцця і стэрэатыпы мыслення.

І. Бабкоў у каментарыях да выступлення Ю. Дракахруста сказаў, што беларускія лібералы, а гэта звычайна рускамоўныя інтэлектуалы, апелююць у інстынктах да расійскай (рускамоўнай?) культуры, хоць і не атаясамліваюць сябе з ёю. Пры гэтым трэба браць да ўвагі тое, што "беларуская руская мова" і "руская руская мова" — гэта розныя рэчы, праявы рознай ментальнасці.

А. Трусаў звярнуў увагу на цікавую акалічнасць: сёння сярод прыхільнікаў дзяржаўнага суверэнітэту ёсць сацыяльныя групы, традыцыйна далёкія ад палітыкі і досыць абыякавыя да нацыянальных каштоўнасцяў. Гэта крымінальнікі, якія не жадаюць сядзець у Сібіры (нашы "зоны" ў параўнанні з сібірскімі — курорт), і жанчыны — хатнія гаспадыні, якія баяцца, што іхніх дзяцей пашлюць у Чачню. Гэта да таго, што яднае людзей не толькі мова і іншыя духоўныя каштоўнасці, але і агульны інтарэс. Інтарэс адзіны і для інтэлектуальнай эліты, і для сярэдняга класа, і нават для люмпена.

Уплывовае выданне "Белорусская деловая газета" прадстаўляў з дакладам "Праблемы стварэння новай нацыянальнай ідэалогіі" А. Фядута. Ідэалогія — сацыяльны тавар, сцвярджаў ён. Таму трэба думаць, як зацікавіць спажыўца (выбаршчыкаў, электарат) гэтым таварам. Скажам, здаровы сэнс гаворыць, што Беларусі трэба рухацца на Захад, але насельніцтва псхалагічна зарыентавана на Усход, на Расію. Таму варта тлумачыць людзям нашу праграму ў прыблізна такой форме: у Расіі сёння рынак як на Захадзе, Расія атрымлівае крэдыты з Захаду, расійскія рэформы падтрымлівае Захад, Расія імкнецца да паразумення з Захадам — мы ў сваю чаргу імкнёмся на Захад, як і Расія, мы робім тое ж самае, што і Расія.

Ужо сёння трэба думаць пра наступныя прэзідэнцкія выбары. І тут варта скарыстаць вопыт сп. Лукашэнкі. Ён перамог таму, што народ не верыў Кебічу і баяўся асноўнага Кебічавага апанента Пазняка. Сп. Лукашэнка быў не Кебіч і не Пазняк. Так і наступны прэзідэнт будзе ў любым выпадку не Лукашэнка... Ужо сёння трэба "раскручваць" палітыкаў кампраміснага тыпу, здольных задаволіць тых, хто не прымае сённяшні рэжым, і тых, хто баіцца, што са зменай рэжыму будзе яшчэ горш.

І. Бабкоў у сувязі з гэтым гаварыў аб "беларускай мары", аб тым, што народ зрэшты прыхільна прымае палітыка, які здолее раскруціць механізм ірацыянальнага аптымізму.

"Нацыянальная ідэя як форма артыкуляцыі інтарэсаў грамадзянскай супольнасці Беларусі" — даклад кандыдата філасофскіх навук У. Роўды (Фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Л. Сапегі, Мінск). Галоўную думку яго выступлення можна выказаць тэзісам "Наш дом — Беларусь". Гэта тое, што можа аб'яднаць усе сацыяльныя, канфесійныя, этнічныя групы краіны.

Даклад У. Падгола, кандыдата філасофскіх навук, дацэнта, дырэктара даследчага Цэнтра сацыяльнай дынамікі (Мінск), меў мудрагелістую назву: "Ідэалагемнае поле "Наш дом — Беларусь" як базавая мадэль сучаснай інтэграцыйнай ідэалогіі беларускага соцыуму". Ён гаварыў пра тое, што сённяшняя беларуская рэчаіснасць мае ў падмурку рэпрэсаваныя базавыя інстынкты: гэта значыць, што нават маючы на абед каўбасу, чалавек гатовы ўзяцца за зброю, калі даведаецца, што нехта недзе ласуецца птушыным малаком. Увогуле ў аснове сацыяльных рэвалюцый ляжыць далёка не хрысціянскія пачуцці... Прэзідэнцкія выбары 1994 года ў Беларусі — гэта вось такая ментальная рэвалюцыя. З гэтым можна згадзіцца. Але чым прапануе сп. Падгол засеяць "ідэалагемнае поле", каб вырас на ім "наш дом — Беларусь", я кепска зразумеў. Можа, няўважліва слухаў?..

Потым была дыскусія і падвядзенне вынікаў.

В. Грыцкевіч адзначыў, што на семінары прадстаўлены і акадэмізм, і прагматызм, і менавіта гэта робіць сустрэчу каштоўнай для ўсіх удзельнікаў. Сп. Грыцкевіч мяркуе, што беларусы недастаткова вывучаюць гісторыю Адраджэння іншых народаў. Скажам, часта спасылаюцца як на аналагічную сітуацыю ў Ірландыі, але шмат карыснага можна пачэрпнуць з вывучэння гісторыі Каталоніі, Македоніі ды іншых еўрапейскіх і не толькі еўрапейскіх народаў.

Сп. Шыбека лічыць, што ўсё, што адбываецца ў Беларусі, трэба разглядаць у беларускім кантэксце, нават калі з'ява антыбеларуская. Інакш кажучы, у Беларусі ўсё — беларускае, усе — беларусы.

Спрэчкі выклікала пытанне аб культуры Савецкай Беларусі — гэта падмурак культуры незалежнай дзяржавы, падмурак Адраджэння, альбо яна навязана нам каланізатарамі і не мае ніякіх каранёў у беларускай зямлі? Так, здаецца, і не вызначылі...

Зноў прыгадаўшы падзеі 26 красавіка, прыйшлі да высновы, што лічыць гэты дзень выключна "днём жалобы" — абсурдна. Ніхто не мае манаполіі на трактоўку чарнобыльскай трагедыі. Ніхто не мае права забараніць людзям адзначаць 26 красавіка як дзень барацьбы за свае правы і за незалежнасць краіны. Нацыяналізм — сродак абароны. А што мы будзем рабіць пасля перамогі? — было і такое пытанне. Пытанне засталося адкрытым.

А. Трусаў зноў прыгадаў, што нельга ігнараваць інтэгруючы фактар беларускай мовы (у гэтым ён не згодны з лібераламі, для якіх калі моўнае пытанне існуе, дык не першачарговае). Праўда, зыходзячы з рэчаіснасці, на ягоную думку, можна **часова** згадзіцца на выбар мовы навучання ў школе, але нельга **часова** ўвайсці ў склад Расіі. Зойдзем — часова, застанёмся — навечна. Зноў пра мову: навошта, здавалася б, дзяржаве Ізраіль адраджаць іўрыт, а Кітаю і Японіі ў камп'ютэрны век трымацца іерогліфаў? Не ўсё вызначаецца прагматызмам.

Прафесар М. Крукоўскі слушна заўважыў, што мову дастаць і зноў уставіць, як шуфляду ў шафе, нельга. Вынь мову — і знікне культура, ядро, сэрца нацыі. Знікне нацыя.

На заканчэнне хачу прывесці словы У. Конана: "Сярод нас няма нікога, хто быў бы за камунізм, нікога — за імперыялізм. Сёння нам спрабуюць навязаць імперскую ідэалогію — ідэалогію новай Вавілонскай вежы. Уніфікацыя гэта і ёсць Вавілонская вежа. Адзін наш калега ўчора сказаў, што калі на зямлі будзе чатыры тысячы краін — гэта апакаліпсіс. Але наяўны апакаліпсіс — этнацыд малых народаў". На што прагучала рэпліка: "Пабудуем грамадскую супольнасць да апакаліпсіса!"

Пабудуем?..

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Алесь КАЖАДУБ

# БЕЛАРУСЫ: "ЛЕГАЛІЗАЦЫЯ" Ў СУСВЕТНАЙ ГІСТОРЫІ

ПАМЯЦІ М. УЛАШЧЫКА

БЕЛАРУСКІ ЭТНАС на працягу ўсяго дваццатага стагоддзя лічыўся сярод большасці гісторыкаў "маладым" этнасам. Назавем толькі некалькі прычын, з-за якіх даследчыкі прыходзілі да гэтага пераканання. Па-першае, беларусы вельмі позна набылі сваю дзяржаўнасць. Па-другое, найменне "беларусы" з'явілася толькі ў XVII—XVIII стагоддзях, змяніўшы назву "ліцвіны". Безумоўна, змена адной назвы на другую заўсёды гаворыць аб кан'юнктурнасці гэтага працэсу. Маскоўскай дзяржаве было выгадней назваць далучаныя землі "рускімі", а не "літоўскімі" ці "ліцвінскімі". Менавіта ў тыя часы ўзнікла азначэнне "исконно русские территории". Некаторыя гісторыкі гаварылі аб гвалтоўнасці працэсу далучэння, аб тым, што расійскае самадзяржаўе пазбавіла беларусаў "праўдзівай" веры (на той час уніяцкай). Але не варта забывацца, што самі далучаныя ніколі не пераставалі адчуваць сваю роднаснасць з рускімі, хай і маскавітамі. У XI—XII стагоддзях жыхары Полацкага і Турава-Пінскага княстваў былі ў адносінах да літвы, палякаў, немцаў і латгальцаў руссю. Па меркаваннях некаторых даследчыкаў, менавіта адсюль, з Русі Заходняй, гэтая назва перавандравала на ўсход. Але гэтае меркаванне спрэчнае.

І, нарэшце, апошняе, з-за чаго этнас устойліва лічыўся маладым — гэта адносна позняе ўзнікненне літаратурнай традыцыі. Можна гаварыць аб своеасаблівасці развіцця беларускай нацыі, якая свой творчы патэнцыял развівала праз фальклор, але для большасці даследчыкаў гэты фактар не меў рашаючага значэння. На іх думку, толькі маладыя этнасы ўваходзілі ў сусветную культуру ў канцы XIX пачатку XX стагоддзя.

А ўваходзілі яны ў арбіту сусветнай культуры, як правіла, праз Асобу. Вось мы і падыйшлі да пытання, якое з'яўляецца галоўным у нашым эсэ.

У беларускай гістарычнай навуцы (і ў сумежных з ёю археалогіі, мовазнаўстве і этнаграфіі) даўно вызначана, што беларускі этнас існуе на гістарычнай арэне больш за тысячу год. Ужо ў шостым стагоддзі на Балканах былі вядомыя плямёны драгавітаў-дрыгавічаў, якія з'явіліся адной з дамінантаў стварэння беларускага этнасу. Перасяліўшыся на тэрыторыю Беларусі прыблізна ў IX стагоддзі, яны разам з крывічамі і радзімічамі стварылі вышэйназваны этнас, які ў XIII—XIV стагоддзях стаўся асновай вялікай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага.

Такім чынам, усё другое тысячагоддзе ад нараджэння Хрыстова беларускі этнас актыўна існаваў на гістарычнай карце Еўропы. Полацкае і Турава-Пінскае княствы ў складзе старажытнай Русі. Вялікае княства Літоўскае, Жамойцкае і Рускае. Вялікае княства Літоўскае (разам з каралеўствам Польскім, потым Рэччу Паспалітай). Заходнерускія землі ў складзе Расійскай імперыі. Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. І нарэшце — Рэспубліка Беларусь.

Гістарычна склалася, што кожная дзяржава мацавалася сваімі лідэрамі, асобамі, якія ўзначальвалі іх у рашаючыя моманты быцця. Асобамі прадстаўляліся народы ў культуры і мастацтве. Старажытная Грэцыя — Сакрат, Фідзій, Герадот. Рым — Цэзар, Гарацый, Пліній...

Беларусам у гэтым сэнсе пашанцавала значна меней, чым іншым народам. Так, у нас было няшмат асоб, якіх міжнародная грамадская думка безагаворачна адносіла б да беларусаў. Са старажытных часоў — Кірыла Тураўскі. Але беларусам яго можна назваць умоўна, хутчэй — старажытнарусам. У сярэднявеччы асветнік Францішак Скарына. Магчыма, гетман Канстанцін Астрожскі і аўтар "Статута Вялікага княства Літоўскага" Леў Сапега.

Не было асобнай дзяржавы, не было і асоб, вось у чым адметнасць беларускай гісторыі. Але самае балючае пытанне — постаці вялікіх князёў у Вялікім княстве Літоўскім. За ўсю гісторыю гэтай моцнай дзяржавы не было ніводнага князя беларуса.

У беларускай гістарыяграфіі было некалькі табуіраваных тэм, якія старанна абыходзілі даследчыкі. Першая — нацыянальнасць вялікіх князёў. Другая — першынство спачатку паганскай, затым каталіцкай Літвы над праваслаўнай большасцю насельніцтва Вялікага княства Літоўскага.

Адным з нямногіх, хто не баяўся табу, быў гісторык Мікалай Мікалаевіч Улашчык. Ён стаўся менавіта той асобай, якая пасапраўднаму "легалізавала" беларускі этнас у сусветнай гісторыі. Безумоўна, я бяру пад увагу XX стагоддзе, бо ў папярэднія часы былі свае героі. Адны з іх засталіся ў аналах гісторыі, другія былі выкінуты з іх бязлітасным часам, але гэта тэма для асобнай гаворкі.

З усёй навуковай і літаратурнай спадчыны М. Улашчыка найбольш значнымі працамі асабіста мне ўяўляюцца падрыхтоўка і публікацыя трыццаць другога і трыццаць пятага тамоў у Поўным зборы рускіх летапісаў (гэта значыць, беларуска-літоўскіх летапісаў) і "Уводзіны ў вывучэнне беларуска-літоўскага летапісання". Паспрабую абгрунтаваць сваю думку.




Безумоўна, не выклікае сумнення, што сам факт публікацыі семнаццаці летапісных тэкстаў з'яўляецца навуковым і жыццёвым подзвігам. Гэтыя летапісы зліквідавалі вялікую белую пляму ў еўрапейскай гістарыяграфіі. Што ж тычыцца "Уводзін у вывучэнне беларуска-літоўскага летапісання", дык гэта зусім нетрадыцыйны твор, які цяжка аднесці да ўласна гістарычнага. Мікалай Улашчык не толькі прааналізаваў гісторыю ўзнікнення Вялікага княства Літоўскага, не толькі растлумачыў усе заблытаныя месцы ў крыніцах, але падняўся да абагульненняў, што было характэрна для вучоных эпохі Адраджэння. Постацям Тамаза Кампанелы, Эразма Ратэрдамскага, Марціна Лютэра, Томаса Мора, Мікалая Каперніка, Леанарда да Вінчы, Мікеланджэла, Рабле, Сервантэса, Шэкспіра, Францыска Скарыны і іншым былі ўласцівыя, па-першае, адмаўленне ад дагматызму, а па-другое, сінкрэтызм светаадчування, што прыносіла ім духоўнае разняволенне.

Тут дазволю сабе невялікае адступленне.

Гісторыя Русі, ад Кіеўскай да Маскоўскай, мела шмат выдатных даследчыкаў. Імёны В. Тацішчава, В. Карамзіна, В. Ключэўскага, У. Салаўёва, Б. Рыбакова і іншых вядомыя па ўсім свеце. Але гэта былі і ёсць гісторыкі, так бы мовіць, метраполіі. Яны даследавалі рускую гісторыю, гледзячы са званіцы Івана Вялікага ў Крамлі. І калі Расійскую імперыю ў перыяд яе найвялікшага росквіту можна параўнаць з арлом — тым самым арлом, візантыйскім, — дык трэба абавязкова мець на ўвазе, што ў здаровага і моцнага арла два крылы. Так, Русь заўсёды была падзеленая на Русь Заходнюю і Русь Усходнюю. Гэта выдатна разумелі гісторыкі мінулага. Але, разумеючы гэта, яны, тым не менш, больш увагі аддавалі ўсходняму крылу. Яно было добра дагледжанае, расчасанае, кожнае пёрка ў ім ззяла накшталт пяра жар-птушкі. Заходняе ж крыло лічылася як бы і не сваім. Злямчанае, заражанае "заходнімі" хваробамі, яно не было вартае догляду.

Найбольш яскрава ў нашыя часы гэты пункт гледжання праяўвіўся ў працах вядомага расійскага гісторыка Л. Гумілёва.

У сваёй працы "Старажытная Русь і Вялікі стэп" ён напісаў: "Вялікаросія абнавілася за кошт хрысціянскіх манголаў і хрышчоных літоўцаў, Маларосія — за кошт полаўцаў, але "чыстым" старажытнарускім племенем засталіся беларусы. Іх не закранулі ні ардынскія чамбулы (атрады, якія рабілі набегі), ні малакалькасныя літоўцы, што падарылі патомкаў сваіх віцязяў Маскве і Варшаве, ні нямецкія рыцары, адбітыя пад Грунвальдам у 1410 годзе. Беларусь дажыла, як старажытнарускі запаведнік, да сваёй мемарыяльнай фазы і як гэткую яе пісаў адукаваны беларускі пісьменнік XX ст. (Уладзімір Караткевіч. — **А. К.**). Верыць яму можна, хоць ён гаворыць ад імя персанажа:

"І ўсё ж непрытульны мы народ... Гэты ганебны гандаль радзімай на працягу сямі стагоддзяў. С пачатку прадалі Літве, пасля, ледзь народ паспеў асіміляваць яе, палякам, усім, каму не лянота.... Няшчасная Беларусь! Добры, памяркоўны, рамантычны народ у руках такой поскудзі (шляхты. — **Л. Г.**)... Аддае чужынцам лепшых сваіх сыноў, лепшых паэтаў, дзетак сваіх наракае чужынцамі, прарокаў сваіх, быццам вельмі багаты. Аддае сваіх герояў на прэнг, а сам сядзіць у клетцы над міскай з бульбай ды бручкай і лыпае вачамі". Аўтар шкадуе свой народ. І не дарма!

Ва Усходняй Еўропе пасіянарны штуршок падняў да гістарычнага жыцця два этнасы: літоўцаў і вялікаросаў".

Што тычыцца цытаты з У. Караткевіча, дык кожны разумее слова пісьменніка так, як яму хочацца. Боль за радзіму, які гучыць у словах персанажа, можна палічыць эпітафіяй, прамоўленай на магіле гэтага народа. Інакш і не зразуееш "мемарыяльную фазу".

Але не гэта галоўнае. Л. Гумілёў у сваім даследаванні яшчэ раз прамовіў асноўныя тэзісы гісторыкаў імперскага напрамку. Маўляў беларускі этнас быў заваяваны пасіянарным літоўскім этнасам. Маючы такіх герояў, як Міндоўг, Гедымін, Кейстут, Вітаўт і Альгерд, маленькая Літва заваявала вялізныя беларускія, украінскія і рускія тэрыторыі. Аднак літоўскія рыцары не ўстоялі супраць чароўнасці польскай культуры — і палова Літвы ўцягнулася ў заходнееўрапейскі суперэтнас. Прага да Еўропы, з аднаго боку, і захаванне вернасці праваслаўю асноўнай масы насельніцтва, з другога, разарвалі Літоўскую дзяржаву. Але Л. Гумілёў пайшоў яшчэ далей: "Там, дзе князь і горад уступалі ў саюз з татарамі, літоўцы не мелі поспеху. І наадварот, рускія землі, якія аб'ядналіся з Літвой, па сваёй волі адмовіліся ад саюза з Ардой". На яго думку, менавіта Арда з'явілася той палітычнай сілай, якая ўратавала Маскву ад літоўскай экспансіі.

Л. Гумілёў дабавіў новы аспект у еўразійскую тэорыю ўзнікнення Расійскай імперыі. Вялікаросы, або маскавіты, пры дапамозе мангола-татар адасобіліся ад Заходняй Еўропы і пайшлі сваім гістарычным шляхам развіцця. Яго не надта бянтэжыла, што Заходнюю Еўропу ў спрэчцы з Масквой прадстаўляла "маленькая" Літва.

Беларуска-літоўскія летапісы, апублікаваныя і прааналізаваныя М. Улашчыкам, дазволілі развітацца з распаўсюджанай хімерай (тэрмін Л. Гумілёва) аб заваёве літоўцамі славян. Якія б ні былі літоўскія князі "пасіянарыі", яны б не здолелі заваяваць мячом густанаселеныя землі з высокім узроўнем эканомікі і культуры. Безумоўна, гаворку можна весці толькі пра запрашэнне ваяўнічых князёў-паганцаў (гэта значыць, нехрысціян) на вялікакняскі стол беларускіх гарадоў — Новагародка, Полацка, Турава, Пінска і іншых. Літоўскія князі, сеўшы на стол, абавязкова прымалі хрысціянства — праваслаўе ці каталіцтва (у залежнасці ад кан'юнктуры) і праводзілі палітыку феадальнай вярхушкі гэтых гарадоў. Такім чынам, можна гаварыць пра развіццё традыцыі "варагаў" на заходнеславянскіх землях. Як не было заваёвы варагамі Кіева і Ноўгарада, так яе не было ў Навагрудку і Полацку.

М. Улашчык піша: "Чым, аднак, адрознівалася літва ад русі? Аб тым, што мова жамойці адрознівалася ад рускай, упамінае толькі летапіс Красінскага, і прытым усяго адзін раз (у сувязі з назваю "Жамойць"). Відаць, для летапісцаў, як і было заведзена ў сярэднявеччы, самым істотным было пытанне не этнічнае, а рэлігійнае. Русь была хрысціянскай, літва і жамойць — паганскімі. Пераход літоўца ці жамойта ў хрысціянства (па праваслаўным абрадзе) абазначаў пераўтварэнне неафіта ў "русіна"... "Русінамі" рабіліся Гедымінавічы і наогул знатныя літоўцы і жамойты, якія атрымлівалі ўладанні на Русі, дзе яны адразу хрысціліся. Адначасова, трапляючы ў іншае этнічнае асяроддзе, мянялі і мову..." І далей: "Казанне (пра ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага. — **А. К.**) ніколі не называе Навагрудскае княства ні літоўскім, ні жамойцкім. Яно існуе само па сабе, займаючы пры гэтым становішча (у палітычных адносінах) вышэй, чым Літва ці Жамойція. Князі-літоўцы ў Навагрудку былі кімсьці накшталт варагаў, але варагаў, якія не дэнацыяналізаваліся. У той жа час гэтыя князі ў казанні ніколі не называюцца ні літоўскімі, ні жамойцкімі, а толькі навагрудскімі (дакладней, вялікімі князямі новагародскімі)..."

Такім чынам, М. Улашчык зрабіў прынцыповы паварот у тэме ўзнікнення Вялікага княства Літоўскага. Два тамы ў Поўным зборы рускіх летапісаў, ім падрыхтаваныя і апублікаваныя, назаўсёды застануцца скарбніцай, з якой беларусы будуць чэрпаць і чэрпаць, каб плаціць па рахунках гісторыі. Толькі гэтыя летапісы праўдзіва пацвердзілі, што мы былі, што мы ёсць, што мы можам заплаціць сябру і ворагу. Кожны народ мае сваіх сяброў і ворагаў, і як бы ні ганарыліся беларусы сваёй рахманасцю, яны — народ.

Дарэчы, пасля ўважлівага прачытання 32 і 35 тамоў ПЗРЛ мне зрабілася зразумела, што Вялікае княства Літоўскае было дзяржавай з надзвычай крохкім унутрыпалітычным стрыжнем. Прычыны гэтага навідавоку. Розныя этнасы, розныя канфесіі. Гісторыя Масквы, што ў тыя ж часы ўзрастала на суседніх абшарах, пацвердзіла гэтае перакананне. Народы, якія насялялі Маскоўскую Русь, аб'ядналіся ў адзіны рускі народ у першую чаргу таму, што не мелі альтэрнатывы праваслаўю і самадзяржаўю. А найменне "руския", па некаторых меркаваннях, яны ўзялі ў сваіх усходніх суседзяў, якія мелі больш падстаў называцца "руссю". Хаця б для таго, каб пацвярджаць сваю самакаштоўнасць у дыялозе з летувісамі, палякамі, татарамі, немцамі, мадзьярамі і іншымі.

На жаль, некаторыя рэчы мінаюць незваротна. Адносіны русі (беларусаў) і літвы ў сваім развіцці дасягнулі той мяжы, калі гаворкі пра існаванне двух суседніх народаў у адзінай дзяржаве і быць не можа.

*(Працяг на стар. 12)*

ЛіМ
ЧАСАПІС

## ПАДАРУНКІ ДА ТРОХГОДДЗЯ

**У Наваполацку адбылася імпрэза, прысвечаная 3-годдзю Таварыства вольных літаратараў. Тэвэлаўцаў віншавалі Полацка-Глыбоцкая філія СП, гістарычны клуб "Княжыч", тэатр-студыя "Зніч", гарадскі нацыянальны цэнтр. Кіраўнік тэатра-студыі "Зніч" Сяргей Анішчанка паведаміў, што студыя пачынае працу над запісам магнітаальбома песень на словы сябра ТВЛ Юрыя Гуменюка.**

**Якраз у гэты дзень у Наваполацк прыйшлі свежыя нумары газеты "Культура" (дадатак да якой літаратурна-філасофскі сшытак "ЗНО" быў цалкам прысвечаны 3-годдзю Таварыства) і "Наша Ніва" (якая прарэкламавала выданні ТВЛ). Падарунак літаратурнай суполкі з цэнтрам у Наваполацку зрабіў і часопіс "Крыніца" — у сваім семнаццатым нумары, які выйшаў на пачатку мая, змясціў гумарыстычнае даследаванне Кліма Маркоўкіна "Найноўшая гісторыя тварэння вольнае літаратуры (ТВЛ)".**

**А. К.**

## СЛОЎНІК ВЫЙШАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**У Варшаве пабачыў свет "Беларуска-польскі і польска-беларускі слоўнік", які склалі навукоўцы Варшаўскага універсітэта Тэрэса Ясінская і Альберт Барташэвіч. Выданне ўключае ў сябе 15 тысяч слоў і прыкладаў іх прымянення. Для зручнасці карыстання прыводзяцца фразеалагізмы і ўстойлівыя выразы. Да ўсяго ў канцы слоўніка прыводзяцца геаграфічныя назвы і скарачэнні, а таксама падаецца кароткая інфармацыя пра найбольш важныя адметнасці беларускай мовы. У першую чаргу слоўнік адрасаваны вучням пачатковых і сярэдніх школ з беларускай мовай навучання. Ім з поспехам змогуць карыстацца і студэнты, якія авалодваюць беларускай і славянскай філалогіяй. Выданне тым больш своечасовае і карыснае, што папярэднік яго "Падручны польска-беларускі слоўнік" пад рэдакцыяй Антаніны Абрэмбскай-Яблонскай і Мікалая Бірылы выйшаў яшчэ ў 1962 годзе і даўно стаў бібліяграфічнай рэдкасцю.**

## "ПЕРШАЦВЕТ", N 5

**На другой старонцы вокладкі, дзе пастаянна змяшчаюцца выказванні вядомых літаратараў пра родную мову, беларускасць, нацыянальнае Адраджэнне, змешчаны словы незабыўнага В. Бечыка: "У роднай мовы — асаблівае, светлае цяпло. Па-руску я магу напісаць лірычна, але гэта ўжо, як горныя высі — не відаць усіх гэтых узлескаў, горак, не чутно роднай гаворкі, няма самай натуральнай арганічнасці — адпаведнасці слова дыханню, першаснаму прадвытоку думкі і пачуцця".**

**А хараство роднай мовы і імкнуцца данесці да чытача першацветаўскія аўтары. Паэзія прадстаўлена імёнамі В. Драздовай, І. Гаравой, Мак. Капыловіча, І. Дзічкоўскай, В. Градзінар, А. Ёдчык, Н. Дзівінай, І. Шаўляковай, М. Адама, Т. Копыцевай, з празаічнымі творамі выступаюць Н. Старавойтава, А. Ветах, М. Кbadановіч.**

**На агульным фоне хораша глядзіцца... "Ліцэйскі сшытак", у якім змешчаны пробы пяра навучэнцаў 22-ой групы ліцэя пры Беларускім гуманітарным адукацыйна-культурным цэнтры Р. Падалякі, К. Кадол, М. Астрэйкі. Уступнае слова "Натуры загадкавыя, рамантычныя" прамаўляе Ю. Алесніна.**

**У "Гасцёўні" ўтульна адчуваюць сябе І. Шамякін (урывак з аповесці) і А. Емяльянаў (вершы).**

**На пытанні "Першацвета" адказвае каардынатар культурных і выдавецкіх праграм Беларускага Фонду Сораса А. Анціпенка — "Я пішу вершы... па-ангельску".**

**У раздзеле "Крытыка" — развагі Я. Конева пра аповесць В. Адамчыка "Кілавы д'ябал" ("Шлях у будучыню, шлях у мінулае"), рэцэнзія-эсэ Н. Кузьміч на зборнік паэзіі Т. Бондар "Час душы, час вячэрні" ("Будзе раніца"), прачытанне А. Карлюкевічам паэтычнай кнігі В. Шніпа "На рэштках Храма" ("Выбар шляху").**

**На завяршэнне нумара — раздзелы "Народнае" (вершы А. Каленік з прамовай Т. Мазур "Паэзія перажытага") і "Жароўня" (вытрымкі з асобных твораў, дасланых у рэдакцыю часопіса).**



Анкета "ЛіМа"

***Працягваем друкаваць матэрыялы "ЛіМаўскай" анкеты.***

***Рэдакцыя прасіла адказаць на наступныя пытанні:***

***1. Што такое "паэзія чыстае красы" ў кантэксце сучаснай беларускай літаратуры — васілёк, які прыўкрашае ніву, званіца, якая ўзвышаецца над мітуснёй быцця, ці нешта іншае?***

***2. Ці варта сёння творцу думаць пра сваю папулярнасць, і як у цяперашніх варунках дамагчыся папулярнасці беларускамоўнага твора?***

***3. Што такое змена пісьменніцкіх пакаленняў? У вас ёсць папярэднікі і наступнікі ў літаратуры?***

# ДУШУ ВЫЛЕЧЫЦЬ МОЖНА...

1. Калі б Фет не быў прапаведнікам "чыстага мастацтва", ці выйграла б ад гэтага яго паэзія? Пытанне такое ж бессэнсоўнае, як і развагі над тым, якая лірыка іграе больш важную ролю: інтымная ці грамадзянская. Пры ўсёй важкасці аргументаў на карысць апошняй, нават пры суадносінах 10:1, гэтая адзінка ставіць іх у аднолькавае становішча. Такая дзіўная арыфметыка.

Зрэшты, 10:1 мне здаецца яўным перабольшваннем, калі параўнаць, напрыклад, "Пагоню" і "Раманс" ("Зорку Венеру") Максіма Багдановіча. Больш справядліва было б 5:5. Калі ж браць рэчы слабыя, то і само параўнанне губляе ўсялякі сэнс.

"Паэзія чыстай красы" нічога не прыхарошвае і не адмаўляе, хоць менавіта за гэта яе часам папракаюць. Калі ў горадзе побач з ружай вырастае крапіва, ружа з-за такога суседства не становіцца менш прывабнай.

І справа нават не ў гэтым. Захопленыя глабальнымі праблемамі, думаючы пра цэлы народ, мы неяк забываем пра чалавека. Канкрэтнага чалавека. Дакладней, пра яго душу. Прайдзіце па тым жа Мінску, патаўчыцеся на Камароўцы, праедзьце ў перапоўненым тралейбусе. Хопіць дня, каб зразумець, што мы незаўважна ператвараемся ў нацыю ДУШЭЎНАХВОРЫХ. Не ведаю, ці ўратуе прыгажосць свет, але душу вылечыць можа.

Таму і "паэзія чыстай красы" мне сёння ўяўляецца хутчэй не васільком, а валяр'янам.

Вядома, паэзію сёння амаль не чытаюць. Тым большая адказнасць кладзецца на яе.

2. Папулярнасць — паняцце адноснае. Стэндаля пры жыцці не чыталі, а, калі ён памёр, за яго трунай ішоў адзін чалавек — Бальзак. Хлебнікаў нічога не рабіў для таго, каб надрукаваць свае вершы, карэктуру за яго заўсёды вычытвалі іншыя. Зборнік Фета, выдадзены ў 1863 г., не разышоўся да самай смерці паэта.

З другога боку, напрыклад, у Дзям'яна Беднага з 1918 па 1921 год выйшла звыш сарака вершаваных зборнікаў. Тыражы іх пераўзыходзілі тыражы кніг усіх савецкіх паэтаў таго часу, разам узятых.

Дбаць альбо не пра сваю папулярнасць — кожны вырашае сам. Адных папулярнасць псуе, другіх, наадварот, натхняе на новыя шэдэўры, трэція да яе абсалютна абыякавыя.

Разам з тым, папулярнасць творцы гэта адначасова і сведчанне папулярнасці літаратуры, якую ён прадстаўляе, таму найпершая задача крытыкаў — прапагандаваць усё цікавае, самабытнае, звяртаць на яго ўвагу чытачоў і такім чынам дапамагчы стаць папулярным.

Беларускай літаратуры сёння асабліва цяжка змагацца за сваю папулярнасць ці, іншымі словамі, быць канкурэнтназдольнай на кніжным рынку. І не толькі таму, што ў рэспубліку шырокім патокам хлынула літаратура, якую раней набыць было або вельмі праблематычна, або наогул немагчыма (у тым ліку і досыць падазронай якасці, але надзіва папулярную ў чытачоў). Яшчэ і таму, што сёння ў масавага чытача адносіны да літаратуры далёка не тыя, што былі сто ці хаця б пяцьдзесят гадоў назад. У літаратараў з'яўляецца ўсё больш і больш канкурэнтаў сярод прадстаўнікоў іншых прафесій за права валодаць вольным часам магчымага чытача.

Таму дамагацца папулярнасці беларускамоўнага твора неабходна ў тым ліку і з дапамогай рэкламы (сённяшняя рэклама беларускай літаратуры, на вялікі жаль, мала чым адрозніваецца ад той, якая была яшчэ на пачатку стагоддзя — такая ж скупая і аднастайная). Мала што даюць для папулярнасці беларускай літаратуры існуючыя літаратурныя прэміі і званні, паколькі яны ўжо даўно "скампраметавалі" сябе ў вачах масавага чытача.

Нарэшце, не будзем забывацца, што ва ўсім свеце самымі папулярнымі жанрамі літаратуры (хай сабе і з прыдаткам "масавай") з'яўляюцца дэтэктыў і фантастыка. Ну, яшчэ хіба казка і ў нейкай ступені любоўны (жаночы) раман, "адаптаваны" для чытання ў дарозе. Жанры, якія на нашай глебе прыжываюцца чамусьці надзвычай кепска.

Зрэшты, якія жанры і каго з беларускіх пісьменнікаў сёння чытаюць больш, каго менш, сказаць даволі цяжка, паколькі падобная статыстыка ў нас амаль не праводзіцца. Амаль, таму што ўсё ж нешта ў гэтым плане робіць "Наша Ніва", некалі своеасаблівы кніжны "хіт-парад" праводзіла "Крыніца". Складанасці ў такой рабоце няма аніякай (неабходную інфармацыю можа даць любая кнігарня), яна была б па сілах той жа "Звяздзе".

Падобная практыка даўно ўжо існуе ў нашых суседзяў, дзякуючы чаму можна давецца, што летась, напрыклад, самым папулярным польскім аўтарам у Польшчы была Ё. Хмялеўска. "Книжное обозрение" паведамляе, што ў лютым 1996 г. найбольшым сумарным тыражом у Расіі былі выдадзены кнігі С. Маршака (168000) і К. Чукоўскага (160000).

Безумоўна, і падобная інфармацыя ў нейкай ступені ўплывае на папулярнасць таго ці іншага аўтара.

3. Паняцце "пісьменніцкія пакаленні" асабліва бязлітасна эксплуатавалася савецкай крытыкай. З яго дапамогай можна было лягчэй заганяць пісьменнікаў у розныя абоймы, выстройваць іх у шарэнгі, каб разам крочыць у светлае заўтра. Хто выпадаў з гэтай шарэнгі — раз, другі, трэці, — паступова станавіўся як бы творцам "другога гатунку".

Вядома, можна казаць пра пакаленне пісьменнікаў-франтавікоў, пакаленне пісьменнікаў-шасцідзесятнікаў і г. д. Але гэта найперш сведчанне іх узросту і часу, у якім яны тварылі ці фармаваліся як творцы.

Чым самабытней становіцца талент пісьменніка, тым цяжэй яго ўціснуць у рамкі аднаго якога-небудзь пакалення (фармальна, вядома, гэта зрабіць можна лёгка). І наадварот, чым драбней таленты, тым лягчэй яны групуюцца, выстройваюцца ў шарэнгі. Што з таго, што, напрыклад, Барадулін і Разанаў па сваім узросце належаць да розных пакаленняў — на маёй кніжнай паліцы яны заўсёды стаяць побач, а творчасць кожнага з іх настолькі непаўторная, што ўвогуле як бы стаіць па-за рамкамі любых пакаленняў.

Змена пісьменніцкіх пакаленняў не заўсёды азначае пераход літаратуры на якасна новы ўзровень. Інакш сёння ўжо ніхто не чытаў бы Шэкспіра, Бальзака, Мапасана, Дастаеўскага і г. д. Але: кожнае новае пакаленне прыходзіць у літаратуру, узбагачанае ведамі, раней недаступнымі, і творчым вопытам сваіх папярэднікаў. У яго, як правіла, лепшыя ўмовы для працы і лепшыя магчымасці для самарэалізацыі.

Праўда, узяўшы ў рукі два творы, адзін з якіх напісаны сто гадоў таму, а другі сёлета, мне часам хочацца параўнаць іх з двума аўтамабілямі. Адзін — ручной зборкі, другі — аўтаматычнай. Першы мне здаецца больш цікавым і выклікае большую павагу, і ў той жа час я разумею, што будучыня — за другім.

Мае літаратурныя прыхільнасці з гадамі неаднойчы "карэкціраваліся". Пачынаў пісаць я пад уражаннем твораў Коласа. "Новая зямля" дужа дапамагала мне, школьніку, знайсці патрэбную рыфму. Пасля былі Багдановіч, Ясенін, Вазнясенскі, Барадулін. Апошняе захапленне — Юрый Кузняцоў.

**Алесь БАДАК**

# КВЕТКІ ПРАРАСТАЮЦЬ ПРАЗ АСФАЛЬТ

1. У "чыстым" выглядзе "паэзія чыстае красы" ў нас не прысутнічае ні ў кантэксце сучаснай беларускай літаратуры, ні ў кантэксце класікі. Максім Багдановіч, найбольш блізкі, здавалася б, да лініі "чыстага хараства", творча засвойвае й іншую эстэтыку — "атручаных кветак", інакш кажучы, дэкадансу. Праз ягоную лірыку праходзіць матыў кволасці, а "блёклы, высахшы лісток", пра які згадвае Багдановіч у паэтычнай прадмове да "Вянка", — яскравая эмблема дэкадансу. Калі паэты з атачэння Фета й Цютчава маліліся на жывую, росную ружу, дык Багдановіч апявае інакшую красу:

**Засушыў я на паперы**
**Краскі, свежыя калісьці,**
**Думак шчырых і чуцця.**

Паэтам "чыстае красы" Багдановіча абвясцілі "нашаніўскія" крытыкі, дзеля пэўнай асацыяльнасці ягонай лірыкі. Але Максім Кніжнік — не той паэт, які хаваецца ад грамадскіх турботаў у вежы са слановае косткі або чорнага дрэва. Шэраг вершаў Багдановіча ("Мяжы", "Народ, Беларускі Народ!..", "Песняру", "Пагоня") зараджаныя высакаградуснай энергіяй грамадзянскага неспакою.

Той накірунак сучаснай паэзіі, які некаторыя крытыкі вызначылі як "багдановічаўскі", азначае арыентацыю на інтэлектуалізм, кніжную традыцыю, рацыянальны пачатак, а не на "чыстую красу". Гэтым шляхам, на маю думку, ішоў Уладзімір Жылка, сёння ідуць Алесь Разанаў, Адам Глобус (як паэт), Алег Мінкін.

Калі ж шукаць агульную метафару для вызначэння мастацтва нашых дзён, дык вось яна: гэта кветкі, якія прараслі праз асфальт, смецце, бруд і друз і закрасавалі над імі.

2. Творцу, безумоўна, варта сёння думаць пра чытэльнасць сваіх твораў і пра свайго чытача. Як, зрэшты, і ўчора. А шлях да чытача можа пралягаць і праз стварэнне ўласнага іміджу. Ёсць творцы, якія прагнуць, каб пра іх гаварылі, прытым усё адно што, абы гаварылі. І ў гэтым жаданні мне не бачыцца нічога асабліва благога, як і ў падкрэсленай сціпласці. Апошняя — таксама імідж. Нядрэнна, калі аўтар мае свайго прафесійнага чытача — крытыка. Але нявартa спадзявацца, што гэты крытык будзе дадзены яму па "размеркавальніку", як у былыя часы. Не выглядае бессэнсоўным меркаванне аўтара, што яму не трэба ніводнага чытача — хопіць сябе самога. Выказаныя гучна, пры пэўных абставінах, такая заява можа прывабіць таго самага чытача, на ўвагу якога ўпотай спадзяецца кожны творца. Нарэшце, можа прынесці плён і моднае на сёння "раскручванне" творцы, з падключэннем рэкламы, з гучнымі "пэрфомансамі" і эпатажнасцю. У кожнага творцы — свой спосаб і свае магчымасці.

На другую частку пытання хочацца адказаць так: калі цяперашнія варункі нялюдскія і неспрыяльныя для літаратуры, дык трэба імкнуцца мяняць гэтыя варункі. Не трэба цешыцца думкай, што ва ўмовах вонкавага ўціску творы пішуцца лепш і таленавіцей. Творцу патрэбна прастора. Калі гэтая прастора звужаецца, калі йдуць у наступ антылітаратурныя сілы, трэба супольна ставіць і вырашаць цэхавыя, чыста прафесійныя праблемы і на гэтай падставе гуртавацца. Адкінуўшы рознасць у светапоглядах і эстэтычных прынцыпах.

3. Творцы прыходзяць і сыходзяць, нараджаюцца, сталеюць і "спісваюцца", але пакаленні застаюцца. Заўсёды ў літаратуры — свае "маладыя" і "старыя", "пачаткоўцы" і "класікі", "традыцыяналісты" і "новая хваля". Проста па-рознаму могуць назваць сябе "маладыя" і "старыя", інакш бачыць свет і прызначэнне літаратуры. Адбываецца не змена пакалення, а змена арыенціраў, пераацэнка каштоўнасцей, складаны рух мастацтва з пераменаю каардынатаў.

Мне цяжка казаць пра сваіх непасрэдных або далёкіх папярэднікаў — на гэтае пытанне лягчэй адказваць, калі твая мастацкая сістэма блізкая да самазавершанасці. Увогуле, лепш, калі пытаннямі ідэнтыфікацыі займаюцца іншыя — крытыкі, даследчыкі. Лягчэй назваць улюбёных аўтараў — але іхні досвед скарыстоўваеш часцей "наадварот", каб не паўтараць чужы шлях. Магу сказаць, што мне шмат даў удзел у літаратурным згуртаванні "Тутэйшыя" — у сэнсе максімалісцкага стаўлення да тэксту, які ствараеш, у імкненні няспынна падвышаць "планку" патрабаванняў да сябе.

Я чуў, што мае крытычныя і літаратуразнаўчыя назіранні робяцца падмуркам студэнцкіх курсавых і дыпломных прац (асабліва даследаванне купалаўскай драматургіі). Гэтая навіна цешыць, бо яна працуе на стварэнне адметнай літаратуразнаўчай школы, якая стане сумай высілкаў шэрагу даследчыкаў "новае хвалі".

**Пятро ВАСЮЧЭНКА**

Крытыка

# КАМЕДЫЯНТЫ ЖЫЦЦЯ

ЗГАДКА вядомага шэкспіраўскага героя пра тое, што жыццё — тэатр, а людзі ў ім — акцёры, напэўна, небеснастаўная. Па вялікім рахунку, у рэальнасці гэтак, відаць, і ёсць, бо мала хто, блытаючыся ў быційных лабірынтах, трапляе на сваю "паліцу жыцця". Яно ж, асабліва цяпер — гульня па правілах і без іх.

Прынамсі, аналогія ў пэўнай ступені перагукваецца са зборнікам п'ес У. Сауліча "Халімон камандуе парадам", куды ўвайшлі тры творы: аднайменны, а таксама "Адзін Гаўрыла ў Полацку" і "Сабака з залатым зубам".

Ужо самі назвы вылучаюць таемны падвох, утрымліваюць супярэчнасць, правакуючы канфлікт. Сапраўды, пры патрэбе звычайна ўжываецца ідыёма "не адзін Гаўрыла ў Полацку", тут жа насуперак усяму — адзін. Далей... Можа, яшчэ з часоў В. Дуніна-Марцінкевіча (быліца "Халімон на каранацыі") нагадаў пра сябе Халімон. Ну і, ратка" Марфа, тэлевізійшчыкі Іван Сідаравіч і яго памочнік зух Вася, бо і яны пашыраюць камедыйную матывацыю. Па логіцы твора кожны з іх "вядзе" сваю партыю, утвараючы багатую плынь чалавечых узаемадачыненняў: калгасны кіраўнік дыпламатычна "гуляе" ў "нязнайку", Марфа "лупцуе" бюракратаў і бюракратызм, тэлежурналісты, абы перадача атрымалася, вышлі ў апратцы працякоў і г.д.

Калі ў "Халімоне..." персанажы жывуць весела, лёгка, а сам твор мае нямала фарсвадэвільных элементаў, то атмасфера ў камедыі "Адзін Гаўрыла ў Полацку" — цяжкая, насупленая, на мяжы вялікага канфузу, сацыяльна-бытавога скандалу, а "спадзвіжніцтва" галоўнага героя Гаўрылы Патапавіча Грамыхальскага, сталічнага чыноўніка, нагадвае слана ў посуднай краме. Тут і смех іншы, быццам бы напалову, нейкі няпоўны, другія сарказм і танальнасць. Зрэшты, у творы раскрываецца тып пэўнага часу, а, дакладней, — параджэнне гарбачоўшчыны з яе магутным пустазвонствам і увасаблення. Зрэшты, яго можна разглядаць як сэнсавую канфліктагему, дзякуючы якой многае ў камедыях ставіцца з ног на галаву. Толькі, праўда, не ў тым вытанчана-зацемненым, абстрагаваным сэнсе, як у некаторых драматургаў замежжа.

Абсурд пранізвае быт, асабістыя і службовыя ўзаемадачыненні персанажаў і ў трагікамедыі "Сабака з залатым зубам", у якой, як і ў папярэдніх творах, ёсць, безумоўна, гіпербалічныя гратэскныя моманты, умоўнасць, спалучаныя з натуральнымі жыццёвымі малюнкамі. Аўтар умела "разводзіць" персанажаў на супрацьлеглыя жыццёвыя пазіцыі: адну з іх прадстаўляе начальнік раённага выцвярэзніка Каранат Козлікаў, яго жонка Фяўронне, іх дачка Лада, міліцыянер Дзюба, старшыня калгаса Абцугайла; другую выражаюць маці Козлікава Кацярына Карпаўна і яе былы сусед па вёсцы дзед Язэп.

Асаблівасць трагікамедыі ў тым, што драматургічная прастора абмежавана своеасаблівым пляцам — домам і сям'ёй Козлікавых, інакш кажучы, мікрамадэллю грамадства, дзе, як у люстэрку, адбіліся шматлікія сацыяльна-маральныя праблемы і, бадай, асноўная, на якую нанізваюцца астатнія, — духоўнае ачмурэнне, маральна-этычны разлад паміж пакаленнямі.

Козлікаў — тыповы мястэчковы самадур, духоўны перараджэнец, які трапіў "з гразі ў князі". "Ушыўся ў сабаччу шкуру" — так характарызуе яго маці. Карыстаючыся метафарай твора, можна сказаць, што ён — "амаральны танк", які душыць святое, зняважае чалавечую годнасць, думае адно, гаворыць другое, а робіць трэцяе. Каму толькі ад яго ні дастаецца: прайдосе Дзюбе, работнікам загса, пахавальнага бюро і г.д.

Драматург "упільнаваў" нейкі, можа, нават заканамерны для сённяшніх будняў, але ў той жа час "ненармальны" і адначасна вельмі жывучы, парадокс: начальнік выцвярэзніка — заўзяты самагоншчык і самы горкі п'янтос, ён жа — душагуб роднай маці.

Да пары гаспадару дома — і яго жонка Фяўронне з яе мяшчанска-зайздросніцкай псіхалогіяй і фарысейска-падманлівай філасофіяй жыцця. Абмежаваная, як і муж, капрызная, наравістая, без унутраных тармазоў, яна жыве для асабістай уцехі. Захацелася сабаку ў кватэру, каб не горш як у другіх, трэба сабаку залаты зуб, бо ставіць хто-ніхто, неабходна свякроў са свету зжыць — нідзе для яе няма перашкод, усюды яна бярэ верх.

Арганічна дапаўняе сямейную атмасферу і псіхалогію дачка Лада, хаця і разумее амаральнасць паводзін бацькоў і быццам бы і не заўсёды іх падтрымлівае, але фактычна дзейнічае заадно. Яна — разбэшчаная і эгаістычная натура, жорсткая і бязлітасная.

Такім чынам, Козлікаў, яго жонка і дачка жывуць у перавернутым свеце, са сваімі меркамі дабра і зла, якія разыходзяцца з традыцыйнай народнай мараллю, але тым не менш выдаюць яго за нармальны, у вышэйшай ступені зладжаны і разумны, а па ацэнцы Козлікава — "абсалютная гармонія".

Некрыклівa, але даволі выразна, па-філасофску мудра, стрымана і зладжана абмаляваны вобразы Кацярыны Карпаўны і дзеда Язэпа — вуснамі якіх гаворыць сама мудрасць, чысціня і ўнутраная згрАбнасць. Пасуе ім мякка-далікатная манера паводзін, чуццё на чужы боль і біду. Таму невыпадкова праз напластаванні сітуацый гучыць лейтматыў, выражаны маці Козлікава: "Што з людзьмі парабілася?"

Па тыпажы, бытавых дэталях, індывідуалізацыі мовы, каларытных сімвалах, якімі ўяўляюцца "залаты зуб" і "чорны колер хаўтур", умелым згортванні матэрыялу ў цэласнасць трагікамедыю "Сабака з залатым зубам" не без падстаў можна аднесці да сур'ёзных набыткаў нацыянальнай драматургіі апошняга часу, аб чым сведчыць і першая прэмія аўтару некалькі гадоў таму назад на конкурсе "Литературной газеты".

Што можна было б сказаць пра п'есы У. Сауліча і іх герояў наогул? І Халімон Капытка, і Гаўрыла Патапавіч, і Каранат Каранатавіч, і іншыя персанажы — вельмі характарныя, з выразным псіхалагічным малюнкам, кожны з "ізюмінкай". Першы з іх "Халімон Свінаравіч" — так нібыта памылкова ахрысцілі яго ў тэлеперадачы — абагульненне шэрагу рысаў ідыятызму вымушанага і натуральнага вясковага існавання, цельпукаватасці; другі — метафара чыноўнай беспачуццёвасці, пражэкцёрства і ўяўнай глыбакадумнасці на мяжы з дурасцю; трэці — не проста ілюстрацыя святатацтва, а ўвасабленне перараджэння чыноўніцтва сярэдняй рукі да страты нармальных чалавечых пачуццяў, сораму і сумлення, чым падкрэсліваецца ўвесь маральны жах шматлікіх сучасных працэсаў і з'яў. Грамыхальскія, козлікавы, капыткі, на жаль, плодзяцца не толькі ў крызісных абставінах. З-за іх ствараецца адпаведнае асяроддзе і ў сваю чаргу жывуць прыстасаванцы шмонькі, дзюбы, самазвоны і г.д. Яны — іх сацыяльнае апірышча. І першыя і другія заўжды разам, бо, па сутнасці, уяўляюць сабой сіямскіх блізнят. "На каго вы мяне кінулі? Што ж я буду без вас рабіць?" — адчайна выгуквае міліцыянер Дзюба, выражаючы думку такіх, як сам, убачыўшы маёра Козлікава ў труне.

Праўда, п'есы У. Сауліча даюць падставы і для крытыкі. Кепска, калі, напрыклад, герой ці гераіня адпаведнага інтэлектуальнага ўзроўню прамаўляе: "Звар'яцеў чалавек фармальна на гэтым тэлебачанні". Або: "А для ўцехі душэўнай і цялеснай заведу сабе палюбоўніцу" ("Халімон камандуе парадам"). На агульным фоне камедыі ў канкрэтным кантэксце яны падаліся мне неарганічнымі.

Думаю, для выяўлення матываў паводзін герояў, паўнаты іх характарыстык дзе-нідзе варта было б больш увагі ўдзяліць мастацкаму спасціжэнню каранёў з'яў, вытокаў працэсаў.

бясспрэчна, адмысловы іранічна-смехавы эфект прыхаваны ў назве "Сабака з залатым зубам". Знешнія прыкметы аказаліся невыпадковымі і не ашукалі. У п'есах — арыгінальны драматургічны матэрыял, пададзены ў абсурдна-жартаўлівым, іранічна-сатырычным стылі, а на паказ выстаўляецца шэраг "камедыянтаў", якія запатрабаваны з жыцця глыбінкі.

Зразумела, у жыццёвага абсурду, стваральнікам якога з'яўляецца чалавек, у параўнанні з мастацкім, куды больш складаная матэматычна-псіхалагічная формула. Аўтар жа прыкмеціў і "б'е" на галоўнае: асабліва ў перыяд вялікіх грамадскіх зрухаў, калі вакол неразбярыха і безладдзе, навідавоку ўсё часцей ці то па злой іроніі, ці то па волі лёсу дурасліўцы, сумленне якіх разбэрсана; прайдзісветы, гарлапаны, штукары, а то і паганцы з нядобрымі намерамі. Бывае, але радзей, наадварот — у цэнтр падзей і людской увагі трапляюць людзі някепскія, бяскрыўдныя, рахманыя і працавітыя, але, як звычайна кажуць, са сваім царом у галаве, такія, як Халімон Капытка ("Халімон камандуе парадам"). Яму, памяркоўнаму і прыземленаму, вечна занятаму побытавымі клопатамі, нярэдка на падпітку, са сваім адвечным "ядронь корань", наканавана ўзарваць вясковую ідылію.

Шматлікімі падрабязнасцямі, што тычацца галоўнага героя, даведзенымі да абсурду, "сшыта" арганічная камедыйная тканіна, дзе пераплятаюцца і рэальныя і гульнявыя элементы. Сапраўды, што ні вазьмі: фарбаванне хлеўчука, пастрыжка-ачалавечванне парсюка да тэлездымкаў, пошукі Халімонам капелюша, ягоныя маналогі пра тое, які ён значны чалавек і мала хто яму раўня, апавяшчэнне суседзяў і начальства, запіс і саматэлеперадача — ва ўсім гэтым імкненне перайграць рэальнае жыццё. Зразумела, тут больш за ўсё іроніі, сатырычна-гумарыстычных фарбаў, праз якія схліствацца сацыяльна-маральнае і індывідуальна-чалавечае, звязанае ў адзіны тугі вузел праблем.

Але не адзін Халімон — смехатворца і грэшнік у камедыі, а і старшыня калгаса Мітрафан Пятровіч, суседка героя, "дэмакатальнай дэмагогіяй і адначасова водгук на сацыяльную сітуацыю, хаця па сутнасці выходзіць за межы згаданага часавага кантэксту.

Як алхімікі ў сярэднявеччы марна шукалі "філасофскі камень", які быццам бы даруе вечную маладосць, так і Гаўрыла Патапавіч, эксперыментуючы, талдычыць пра магчымасць, неабходнасць і карысць безразводнага шлюбу — выратавання ўсяго Чалавецтва.

Зразумела, што гэта так званае мудраванне на мелкаводдзі. Больш таго, нармальны чалавек ад такога філасофствавання з'ехаў бы з глузду, а Грамыхальскі ўласныя вышукі выдае за меру разумнага і вечнага, як геніяльную ідэю.

Аўтар абыгрывае дзве асноўныя думкі, супрацьлеглыя сваёй скіраванасцю: вечны шлюб і развод. Яны заўсёды побач і ў філасофскім і сацыяльна-бытавым сэнсе.

У сюжэт складваецца так: у дылетантаў і пражэкцёраў сур'ёзныя праблемы заўсёды прымітывізуюцца. Не выключэнне і Грамыхальскі. Праблема безразводнага шлюбу, згодна меркаванню тэарэтыка, вырашаецца вельмі проста: для аматараў чужых жонак зрабіць партыю ложкаў з замацавальнікамі, а ў транспарце павесіць шыльды, накшталт: "У гарадскім месцы не кахаць".

Разумовыя здольнасці Грамыхальскага, ягоная постаць як "вялікага рэфарматара" і "першаадкрывальніка новай эры ў сямейных адносінах" раскрываецца праз парадаксальныя эпізоды і сітуацыі, шматлікія бытавыя дэталі і рэмаркі-заўвагі. Робіцца гэта нязмушана-акрэслена. Дастаткова нагадаць эпізод з чытаннем дакумента надзвычайнай важнасці, роўных якому няма, каб праясніць сёе-тое. "Я, Гаў...Гаў....Гаў....рыла. Я — Гаў..." нудзіць Грамыхальскі. А між тым паміж радкоў прачытваецца не ўсхвалянасць Гаўрылы Патапавіча, а хутчэй — яго сацыяльна-псіхалагічная характарыстыка. Дзякуючы метафарычнаму кантэксту, ураджанне такое, быццам бы герой варты не больш, чым на моцнае і раскацістае сабачае брэханне, рэха ад якога, праўда, усё ж запаўняе пэўныя сацыяльныя абшары. Здаецца, непрыкметная дэталь, але гульневая і вельмі важная сваім сэнсам.

І ў "Халімоне..." і ў "Гаўрыле..." нямала ірацыянальных момантаў, а парадокс — напэўна, адзін з самых ёмкіх прыёмаў

П'есы са зборніка "Халімон камандуе парадам" "укладваюцца" побач з творамі шэрагу драматургаў розных пакаленняў. І гэта не перабольшванне. Праз пэўныя супастаўленні (мастацкія сродкі, стылістыка, сімволіка, некаторыя сэнсавыя і сацыяльныя прыкметы) можна заўважыць, што У. Сауліч працягвае традыцыі нацыянальнай драматургічнай школы: у форме падачы матэрыялу ёсць блізкасць да Дуніна-Марцінкевіча ("Пінская шляхта"), у дэталях пазнаецца ўплыў К. Крапівы ("Хто смяецца апошнім", "Брама неўміручасці"), а ва ўменні ладзіць дыялогі, стварaць камедыйныя калізіі бачыцца творчая вучоба ў А. Макаёнка ("Таблетку пад язык", "Святая прастата") і іншых аўтараў розных кірункаў. Арыентацыя на сур'ёзную драматургію, апора на традыцыі не кідае цені на творы У. Сауліча. Самае, бадай, галоўнае, што яны ўжо аказаліся прыдатнымі як для аматарскіх, так і некаторых прафесійных тэатраў, і гэта найлепшая ім ацэнка.

Некалі ў эпоху Рэфармацыі тэатральных акцёраў часта называлі камедыянтамі. У сённяшнім нашым супярэчлівым быцці распладзілася мноства камедыянтаў проста з жыцця. Пра іх — п'есы У. Сауліча.

**Міхась КУЗЬМІЧ,**
**кандыдат філасофскіх навук**

*У. САУЛІЧ. "Халімон камандуе парадам". Мн., "Мастацкая літаратура", 1994*

# "ВІР" — ГЭТА ВЕРА І РОЗУМ

На Магілёўшчыне з'явілася новае выданне. Першае і адзінае такога кшталту: інфармацыйна-аналітычны альманах, тэматычныя выпускі якога складаюцца з надзённых даведачных і юрыдычных матэрыялаў, хронікі падзей і гісторыка-краязнаўчых звестак, асветніцкіх публікацый і чытанак для дзяцей. Зрэшты, найлепшай "прэзентацыяй" для новага выдання будзе непасрэднае знаёмства чытачоў са зместам альманаха. Ён годна і прыгожа аформлены і збрашураваны. Ён зацягвае ў "вір" шматлікіх рубрык, "рассакрэчаных" фактаў, трапных фотаілюстрацый і дасціпных малюнкаў палемічных каментарыяў і — чыстых, прасякнутых Верай, думак.

Альманах "ВІР" ("Вера і Розум") заснаваны Магілёўскім грамадскім камітэтам "Дзеці Чарнобыля", рэдактар яго — лідэр гэтага камітэта Наталля Рослава, вакол якой згуртаваліся добрыя прафесійныя дый проста сумленныя неабыякавыя людзі, здатныя працаваць на ўзроўні высокіх узораў журналістыкі.

Пагартайце першы сёлетні выпуск "ВІРа", прысвечаны дабрачыннасці, з якою... "трэба разабрацца". Пад рубрыкай "Сакрэт" друкуюцца прозвішчы кіраўнікоў, тэлефоны арганізацый і асоб, якія дэкларавалі дабрачыннасць для бядотных і нямоглых. Рубрыка "Прыстасаванні" расшыфроўвае "адметнасці" станаўлення няўрадавых некамерцыйных арганізацый на Магілёўшчыне ва ўмовах посттаталітарнай дзяржавы. "Сховішча" прапануюць замалёўкі ды прыпавесці на тэму "неўмiручага інстынкту дабрачыннасці"... А вось — некаторыя загалоўкі: "Бессмяротныя жабракі", "Нобель і магілёўская бальніца", "Праваслаўнае дабрачынства", "Святое з паскудствам", "І зноў ад уздзеянні грошай на...", "Чытанка ў парламенцкую залу".

Вока пільнага чытача не абміне і фотапартрэты замежных сяброў — дзеячаў на ніве дабрачыннасці, і светлую казку-прыпавесць Сэльмы Лагерлёф, і амерыканскі тэрмін "grass roots" — карэнні травы. У ЗША так называюць грамадскія аб'яднанні, некамерцыйныя і недзяржаўныя ініцыятывы. "Карэнні травы" расстаўляюць і замацоўваюць прыярытэты і перспектывы. Гэты дзірван стабілізуе і ажыўляе грамадства. На чорным пажарышчы паслятаталітарнай Беларусі з дапамогай еўрапейскай дэмакратычнай супольнасці амаль за 10 год мы змаглі стварыць не больш 500 grass roots. Для параўнання: у Маскве, сураэмернай па насельніцтве з нашай краінай, гэткіх арганізацый амаль 5 тысяч. Увесь сучасны цывілізаваны свет трымае за аксіёму: забеспячэнне сацыяльных патрэб у дзяржаве павінна грунтавацца на трох сектарах: дзяржава — прыватны сектар — няўрадавыя аб'яднанні грамадзян. Ігнараванне гэтай траістасці парушае раўнавагу грамадства і зніжае гарантыі захавання правоў чалавека".

І яшчэ адна цытата. З верша Міхася Булавацкага, адказнага сакратара "ВІРа":

**Усё дазволена! — Грашы,**
**Калі душу гвалтуе страўнік!**
**Але ж, чакай! — Ідзе Настаўнік**
**Да бессмяротнае душы...**

Тэма наступнага нумара альманаха — "Да Бога шляхоў многа".

"ВІР" існуе на прыватных ахвяраванні і шукае партнёраў-спонсараў для ўзаемакарыснага супрацоўніцтва.

*Адрас рэдакцыі: 212014, Магілёў, вул. Першамайская, 2, офіс 22.*

**С. Б.**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ПРЫСВЕЧАНА ПАЭТАМ-ЗЕМЛЯКАМ

**Па ініцыятыве Пружанскай раённай цэнтральнай бібліятэкі імя М. Засіма ў гарадскім Доме культуры адбылося свята кнігі, прысвечанае творчасці паэтаў-землякоў. Напярэдадні была афармлена выстава "Паэзія — госця нябесная". Праз газету "Раённыя будні" аб'яўлена віктарына "Паэзія Пружаншчыны", у школах прайшлі конкурсы чытальнікаў.**

**...У зале гасне святло. Праз дыяпраектар паказваюцца краявіды Пружаншчыны. Гучыць музыка. На фоне яе то вядучыя, то чытальнікі дэкламуюць вершы М. Засіма. А затым слова мае паэзія М. Купрэева. І хоць ён нарадзіўся на Рагачоўшчыне, але тутэйшая зямля для яго стала роднай — Мікола Сымонавіч жыве на самым ускрайку вёскі Папялёва, што за сто крокаў ад Беларускай пушчы. На жаль, сам М. Купрэеў на святе не прысутнічаў — цяжка дабірацца ў горад на мыліцах.**

**А вось рэдактара раённай газеты паэта М. Антаноўскага шчыра віталі прысутныя. Ён пазнаёміў з творамі са сваёй новай кнігі, рукапіс якой здадзены ў выдавецтва.**

**Родам з Пружаншчыны і паэты В. Шуткевіч, Н. Радзівончык, Б. Давыдзюк, А. Печнікава... А яшчэ — тыя, хто прабуе пяро, групуецца вакол раённай газеты, уваходзіць у літаб'яднанне "Узлёт".**

**У. МАКАРЧЫК**

## "НОВЫЯ БЕЛАРУСЫ" ЗА ...ПАЭЗІЮ

**Але, але! Знаходзяцца, няхай і рэдка, ахвотнікі фінансаваць выданне кніг паэзіі. Пацвярджэнне — выхад у дзяржаўным прадпрыемстве "Мінсктыппраект" зборніка Алеся Пісарыка "Ноч дзявочай касы". Спонсарскую дапамогу ў выданні кнігі аказалі АТ "БелУАЗаўтасервіс", ТТОО "Транстэхсервіс", фірма пракату "Адпачынак", ВКФ "Трайпл" і ТАА "Акіма". Дарэчы, колькі месяцаў назад пры падтрымцы людзей, зацікаўленых у развіцці літаратуры, у выдавецтве "Тэхналогія" выйшла кніга А. Пісарыка "Пакуль гарыць мая зара".**

**"Ноч дзявочай касы", як і папярэдні зборнік, складаецца з твораў, напісаных паэтам пасля таго, як ён пакінуў Мінск і пасяліўся на Валожыншчыне. Там, на ўлонні прыроды, і прыйшло да А. Пісарыка сапраўднае натхненне. Кнігу склалі тры раздзелы-нізкі: "Грамавыя крыніцы", "Вальс вясковай вясны" і "Парог нарачонай". Прадмову "Прыгожую касу паэту расплятаць..." напісаў лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа Віктар Гардзей.**

## РЭКАМЕНДАВАНЫ Ў ТВОРЧЫ САЮЗ

**Творчасць Юрася Залоскі і Міколы Мікуліча была ў цэнтры ўвагі ўдзельнікаў нядаўняга пашыранага пасяджэння бюро секцыі крытыкі і літаратуразнаўства Саюза беларускіх пісьменнікаў. Сваімі думкамі, развагамі падзяліліся старшыня бюро секцыі М. Мушынскі, А. Сямёнава, М. Тычына, У. Гніламёдаў, П. Васючэнка, С. Запрудскі, А. Ліс, А. Сабалеўскі...**

**Былі высока ацэнены кнігі "Дыялогі з Васілём Быкавым" і "Версіі" Ю. Залоскі, "Максім Танк і сучасная беларуская лірыка" і "На зломе часу" М. Мікуліча. Аўтары іх рэкамендаваны да прыёму ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.**

## "ПРАЛЕСКА", N 5

**У лісце галоўнага рэдактара "Пралескі" А. Сачанкі "Экзаменуе школа" закранаюцца надзённыя праблемы выхавання. Як вядома, два гады назад быў апублікаваны Закон Рэспублікі Беларусь "Аб правах дзіцяці". Што рэальна ён змяніў у становішчы саміх дзяцей, сям'і? — на гэтыя і іншыя пытанні шукае адказ у артыкуле "Архіпелаг "Дзяцінства" (змешчаны пачатак) А. Сачанка. З. Леановіч і Н. Рылькова прапануюць матэрыял "Фальклорныя гульні". Часопіс адзначае 60-годдзе з дня нараджэння Б. Сачанкі. Не абыдзена ўвагай і 90-годдзе з дня нараджэння выдатнай дзіцячай пісьменніцы А. Барто — артыкул Він. Каваленкі "Ад двух да васьмідзесяці", творы яе як у арыгінале, так і паралельна ў перакладзе на беларускую мову. Пад рубрыкай "Нотны аркуш" — дзве песні: "Вожык-ягаднік" (словы Л. Глушко, музыка Н. Хвалько) і "Сонечны зайчык" (словы і музыка Я. Жабко). Няпростыя маральна-этычныя праблемы псіхалагічна глыбока адлюстраваны ў апавяданні-былі "Альбом на памяць", з якім выступае Алесь С. Твор прапануецца пад рубрыкай "Буслянка".**

# ВЕРСЭТЫ І ВЕРШАКАЗЫ

Алесь РАЗАНАЎ



## ВЕРСЭТЫ

### НАДЗЕЯ, ЯКАЯ НЕ МАЕ ПАТРЭБЫ Ў АБГРУНТАВАННІ

Мусім тлумачыць усім і сабе таксама, што азначаюць нашыя словы, і прыкладаць іх да нейкай, схаванай у памяці, меркі, каб ім вярнуць першаісны змест.

Мы на паверхні з'яваў: усё, чым былі мы істотныя, засталося ў пластах глыбіні, і хоць мы не вандроўнікі, мы ўсё адно ў выгнанні, і забароны кіруюць намі, з дня ў дзень прывучаючы нас зразумець і засвоіць, што дазваляецца нам, што — не...

Цьмяныя нашы мэты, і, асягаючы іх, пярэчым шчырым сваім памкненням: усё-ткі мы трацім усякі раз болей, чым здольны набыць.

Мы ў спрэчцы з сабой.
Але, быццам багіня кранае рукой за касмык валасоў, незаўважна для ўсіх астатніх, угневанага Ахіла, нас раптам кранае спакой —
і мы пазіраем з надзеяй, якая не мае патрэбы ў абгрунтаванні, у тое, што мае быць.

### ГАННА-МАРЫЯ

Два святары — адзін у светлым, як дзень, адзенні і ў чорным, як ноч, другі — разам ідуць па вясновай стрункай дарозе і разам нясуць зіхатлівы, з ружовых кветак, вянок.

Яны пазіраюць далёка наперад — і ціхая радасць іграе на іхніх тварах: яны ўжо бачаць таго, хто сустрэнецца ім самапершы і каго яны ўзнагародзяць сваім вянком.

Гэта — Ганна-Марыя.
І калі святары аддаюць ёй вянок, ёй мроіцца, што прастора супала з лёсам і што ўжо калісьці з ёю такое было...

"Тое, што я вам сустрэлася першаю, — выпадкова", — нібы апраўдацца за нешта, хоча яна ім сказаць, а словы ўсё роўна складваюцца па-свойму і вымаўляюцца ўголас: "Das ist kein Zufall"*.

### ПОЗІРК

Удзельнічаем у падзеях і назіраем падзеі.

Ды той, на каго мы ўскладалі ўсе свае спадзяванні, забыўшы, якою ўладаю ён істотны, пагас.

І мы ўжо нічога не можам зрабіць, а ўсё, што раней рабілі і што мела сэнс і мэту, цяпер выглядае памылкай і мітуснёй.

Мы разыходзімся.
Будучыня не з намі.
Мы нехаця адпускаем свой змарнаваны шанц.
І з безуважнай пагардаю заўважаем, як у пакінутым намі, спустошаным, спітым, няспраўджаным нашым бозе зноў абуджаецца і знаходзіць усіх нас жывы і знаёмы позірк.

Мы разыходзімся.
Позна.
Нічога ўжо нельга змяніць: ужо неба не тое, ужо не тая зямля...

Але — позірк... Позірк...

### СТАРЭЙШЫ БРАТ

Яны як дзве кроплі вады падобныя між сабою, і я называю міжволі малодшага брата імем старэйшага: Анатоль.

Ён толькі што выйшаў з лодкі і адчувае сябе на сушы не дужа ёмка, бы рэкі, якімі ён плаваў, зрадніліся з ім і не хочуць яго яшчэ адпусціць.

Старэйшы быў лётчыкам, і ўжо цяжка злічыць, колькі гадоў мінула, як ён са сваім самалётам, уцягнуты ў вір апраметнага віражу, разбіўся.

Але аднекуль прабілася і пасялілася між людзей упартая дзіўная чутка, што ён не загінуў зусім, а займеў не вядомую людзям магчымасць вярнуцца назад, на зямлю, у сваё жыццё.

Каб нешта сказаць, пытаю малодшага брата, ці вучыцца ён, ці працуе, ці проста застаўся дома і ці мяне пазнае, а ён на мой роспыт адказвае з нейкай унутранай неахвотай, бы тое, што адбылося, не да канца яшчэ адбылося і мусіць чакаць свайго завяршэння,
і зноўку мне здасца, што гэта старэйшы брат.

Далёкія сінія вербы гнуцца пад ветрам.
Рэкі, напоеныя разводдзем, поўніць спакой.

### АТРАД

Падуладныя нам перададзенаму загаду, ідзём парадзелым сваім атрадам у далёкую вёску Лукомер, дзе нас чакае расстрэл.

Нам хочацца жыць, але мы на вайне, і вышэйшая непазбежнасць трымае ў руках наш лёс.

— Гэта апошні наш бой, — кажу я, падтрымліваючы сівога, у скрывянелых бінтах байца і адчуваю з усімі разам, што ўсё наўкола для нас насамрэч пачало быць апошнім і поўніцца невыказнай спагадай да нас.

Нам доўга ісці: за рачныя поймы, за балаціны, за нівы, за пушчу, за небасхіл, — і мы невымерна рады, што перад тым, як знікнуць, дні будуць доўжыцца і кружыцца, і ўводзіць нас паступова ў сваю незваротную глыбіню.

Наўскрай то пясчанай, то ўтравянелай дарогі красуецца жыта, і, падышоўшы бліжэй, я ў ім заўважаю гняздо і чародку птушак: вывеліся перапеляняты і ўжо абжываюць жвава жытнёвы свой свет.

У гэтым краі мінала маё маленства, і я дамаўляюся са сваімі камрадамі па атрадзе, што на гадзіну ці мо трохі болей, чым на гадзіну, я адлучуся, а потым іх даганю.

Я разуваюся і пакідаю салдацкія цяжкія боты ў жыце і паварочваюся — каб наапошне сустрэцца і развітацца — да колішняга, тут мінулага і ад мяне ўжо аддзеленага назаўсёды, майго жыцця.

Забытыя сцежкі рынуцца мне насустрач, і павыходзяць з-за хатаў вялікія думныя дрэвы, і праплыве паўз мяне са звінюткімі галасамі і дарагімі абліччамі школа, — ну а затым...

Затым я знайду свой абутак у жыце і даганю свой атрад.

### СВЯТОЕ ЖЫТА

Кветкі і свечкі, прынесеныя з сабой, і яшчэ няхітрая спожыць, якою жывыя дзеляцца з тымі, што некалі гэтаксама жылі на зямлі.

Усё ўжо сабрана, выкапана і пажата, і сёння якраз той дзень, калі сумяшчаюцца восі таго і гэтага свету і дзейсніцца свята яднання жывых і мёртвых — восеньскія Дзяды.

Мы пройдзем да агароджы і ўбачым грудок маладога жыта — бы тут, на дзялянцы гэтай, у гэтай зямлі, пахавана само маладое і мілае людзям лета, але, пахаванае, узышло.

І, можа, таму, што цяпер у свеце пануе іншая норма, мы з пашанотаю кажам: "Святое жыта", — і, як адкрыццё, скіраванае нам, прымаем спрыязнены з простымі вечнымі рэчамі цуд.

### ЧЫРВОНАЯ ГЛІНА

Мы выберам шлях, і, быццам кругі аблогі, ззаду пачнуць заставацца мінулыя дні, а новыя сведчыць пра нашы магчымасці і дасягненні і абяцаць нам, што мы ўсё адно аднойчы сустрэнем чырвоны горад, і пераконваць нас, што нішто не зможа спыніць наш адважны і скіраваны да межаў шлях.

Ды нехта, нібы выпадкова, скранецца і пойдзе таксама з намі, не пакідаючы на паверхні зямлі слядоў, і калі мы захочам разгледзець, хто альбо што гэта — ціха адхіліцца і растане, і мы падумаем пэўна, што гэта анёл ці бог.

Недзе ля самага краю часу па хісткім схіле нам давядзецца спускацца ніжэй і ніжэй, у зямную глыб, а спусцімся — дык убачым: чырвоная вязкая гліна займе ўсё дно прадоння, — і змусіць нас прыпыніцца, а потым, калі мы прабудзем з ёю сам-насам да заўтра, змусіць нас нанава ўзняцца наверх і пайсці, не аспрэчваючы нічога, назад.

### БУРА

Нібыта надумала нешта бура...
Хвалі, якія шалелі на моры і ўзрушвалі мора, раптам аціхлі, і ўсталявалася ціша.

І ў гэтай напружанай грознай цішы, бы падзялілася мора надвое, паволі паўсталі дзве велізарныя хвалі і, вырастаючы ўсё вышэй і вышэй, да самых, нахіленых ніцма, нябёсаў, рушылі нецярпліва адна на адну...

Гэта было заўчора, а сёння зноўку неба высока, і зноўку, нібы ўспамінаючы нешта, трывожыцца мора, і доляй сваёй зняволены дух зноўку марыць пра буру.

---

* *Гэта невыпадкова* (ням.).

# ВЕРШАКАЗЫ

## АЛАДКА І БЛІН

Аладка гладкая, блін пульхны, аладка ўдалая, блін файны, аладка — латка, блін — лапік, аладка — аўра, блін — німб.

Аладка пячэцца на патэльні, блін — на блясе, аладка салодкая, блін "аблізны", аладка лагодзіць згадку, блін — успамін.

Аладка — на Каляды, блін — на Вялікдзень, аладка — на сняданак, блін — на абед, аладка пахкая, блін бліскучы, аладка ладкуецца ў далонь, блін плішчыцца ў жмен.ю,

але аладка гэткая ж смачная, як і блін, а блін лепіцца з таго ж самага цеста, што і аладка.

## ГАРОХ

На беларускі г а р о х рохкаюць свінні, што ён у агародзе найгоршы, а ён у адказ рагоча.

Рускі г о р о х, калі на яго глядзяць, харошы і гожы, а калі ядуць — горкі.

Украінскі г о р о х агарошвае, думалі, што ён "ох", а ён — "ах", думалі, што яго нямнога, а яго цэлы рог.

Польскі g r o c h хоць не град, але грукатлівы, хоць не грош, але ганарлівы.

Чэшскі h r á c h вялікі, нібы арэх, і нават грак разважае, ці яго праглынуць, ці — далей ад граху — абмінуць.

Праславянскі g o r x ъ, калі сеецца, з прыгоршчаў пераўандроўвае на горку, а калі выспее — зноў у прыгоршчы.

## СВЯРДЗЁЛАК

Аддадзены сваёй прадузятасці, якая зрабілася яго натурай, свярдзёлак, як дзяцел, заўсёды звернуты вастрыём сваёй увагі да дрэў, але калі дзяцел дрэвы лечыць, то свярдзёлак, наадварот, вярэдзіць.

Свярдзёлак апяразаны спіралямі свербу, якія прымушаюць яго то ўкручвацца ў сярэдзіну дрэва, то выкручвацца назад.

Свярдзёлак сярдзіты: ён зацвярдзелы ў сваіх дзеяннях і перакананнях, і "драўляныя" слёзы яго не кранаюць.

Вынік свярдзёлкавай дзейнасці — дзіркі: імі дзеліцца паяднанае і паядноўваецца падзеленае і дзякуючы ім "сярэды" і "панядзелкі" маюць магчымасць непасрэдна ўбачыцца і даверліва пагутарыць між сабой.

## БАРАН

Польскі b a r a n у адных бярэ, а другім дае, для адных жабрак, для другіх дабрадзей.

Украінскі б а р а н бярэцца давесці, хто тут брат, а хто сват, хто тут шваб, а хто брыт, хто тут стрыжаны, а хто брыты.

Рускі б а р а н — *барин*: усім небаракам ён дорыць па абаранку.

Беларускі б а р а н атабарваецца каля брамы, каб, калі трэба, яе бараніць, а калі трэба, прасіць у яе абароны.

Чэшскі b e r a n пазірае на Брно, а бачыць Берлін.

Верхнелужыцкі b o r a n ад ранку да вечара стаіць у адрыне, разважаючы, як гэта зрабілася, што ён тут.

Албанскі b e r r бораецца то з бервяном, то з Ваг(ам) — мядзведзем.

## ШАПКА

Шапка сваячыцца з шафай, але калі шафа мае справу з многімі прадметамі, то шапка з адным, але самым галоўным.

Яна прысвечана ў першапачаткі, якіх ніхто не можа ўбачыць і аб якіх, нават шэптам, ніхто нічога не можа сказаць, — у чалавечыя думкі, і таму спакваля назапашвае-набывае статус даверанай асобы.

З усіх бакоў шапка шчыльна "зашпаклявана", і як бы ні шныпарылі скразнякі, яны не могуць намацаць ніводнай шпары.

Шапка — капа, якая падвышае чалавека ў яго ўласных вачах і ў вачах іншых і здабывае яму пашану. І таму нават самы апошні спадар, нібы шпак шпакоўню, шукае альбо спадзяецца калі-небудзь знайсці свой красамоўны, заўсёды ўсім прад'яўлены "пашпарт" — шапку, якая яму пасуе.

## ЛІНІЯ І РЫСА

Лінія ліецца, рыса рухаецца, лінія — плынь, рыса — рэчышча, лінія прыстасоўваецца да абставін і пры першым зручным выпадку гнецца і нахіляецца, рыса спрачаецца з абставінамі і пераасрэчвае іх.

Лінія плаўная, рыса рэзкая, лінія зменлівая, рыса ўстойлівая, лінія звілістая, рыса простая, лінія — галіна, рыса — ствол, лінія імкне, рыса — расце.

Лінія — лішак, рыса — якраз, лінія — лірык, рыса — эпас, лінія — мелодыя, рыса — рытм, лінія вымалёўваецца, рыса акрэсліваецца, лінія моліцца, рыса хрысціцца, лінія — імя, рыса — прозвішча.

Лінія ліняе, рыса сціраецца, лінія сцелецца па даліне, рыса карскаецца на гару, лінія любіць лагоду, рыса — рызыку, лінія давярае свае развагі гліне, рыса — прысаку, лінія выяўляецца ў ліштве, рыса — у рыштаваннях, лінію натхняе летуценне, рысу — карысць.

Лінія — каляіна, рыса — траса, лінія — ліна, рыса — стрыжань, лінія — лівень, рыса — струмень, лінія — аналіз, рыса — характарыстыка, лінія мае аблічча, рыса — твар, але само аблічча заўсёды спалучае ў сабе рысу і лінію, і аб'ядноўвае ў сабе заўсёды лінію і рысу твар.

## ВЕЦЕР

Беларускі в е ц е р сланяецца па свеце, пераціраючы пацяруху і цярэбячы веццe дрэў.

Рускі в е т е р нясе ўсім *привет*.

Польскі w i a t r ветэран: яго аповеды вартыя веры.

Палабскі v o t r мае непаўторны водар, але гэты водар закаркавны ў стагоддзях.

Ніжнелужыцкі w j e t š знявечаны: нікога не чапаючы, ён чакае, калі ўсталюецца вечар, які схавае яго ад староннiх вачэй і староннiх спачуванняў.

Славенскі v e t e r надзімае ветразі ў Ядранскім (Адрыятычным) моры.

Славацкі v i e t o r трымаецца аднаго вектару, на ўсе астатнія накладаючы вета.

Чэшскі v í t r з аднолькавай цікавасцю зазірае ў вітрыны і ў вітражы.

Македонскі в е т а р інтравертны: ён вандруе ўнутры адной прасторы, адной тэрыторыі.

Стараславянскі в ѣ т р, як бог, мае тры твары: адзін — для хмараў-аблокаў, другі — для зямной паверхні і трэці — для мора.

Нямецкі W i n d працуе: ён круціць крылы ў вентылятараў і ў ветракоў.

Латышскі v ē j š увішны: калі непагадзь, свішча, калі пагода — сушыць развешаную бялізну.

## СУМЁТ

Сумёт месціцца каля перашкоды — плота, паветкі, моста, а то і проста, дзякуючы якой-небудзь умяціне ці зачэпцы, у полі.

Сумёт высноўваецца з сумяціцы — сумоўя ветру і снегу, але выснаваны, уяўляе ансамбль, дзе пануе сіметрыя.

Да сумёта не стасуецца схема: калі ён геаметрыя, то мастацкая, калі мастацтва, то геаметрычнае, а хутчэй за ўсё, ён сумесна і геаметрыя, і мастацтва, іхняя сума.

Нібы самалёт, аддадзены палёту, сумёт з цягам часу перастае існаваць — перацякае ў палёт, але, не ўпадаючы ў сум, і ранішне-белы, і вечаровасцямнелы сваёю прысутнасцю ўсім аб'яўляе: "Sum" ("Я ёсць").

Проза

Алесь НАВАРЫЧ



# АЛЬТАНКА НА БЕРАЗЕ РЭЧКІ

АПАВЯДАННЕ

Выпускніца сярэдняй школы Рэня, крыху сутулая дзяўчына з шырокім ротам і даўгаватымі, не па росце, рукамі, сядзела ў альтанцы і марыла, каб да яе прыйшоў хлопец, якога яна таемна кахала і які толькі што прыйшоў з войска.

Рэня прыбегла ў альтанку пад вечар, хоць яшчэ ішоў дождж, які прынесла навальніца пасля паўдня. Нячастыя, але важкія кроплі ляскалі па буйным лісці таполяў, пасаджаных у высокім беразе рэчкі, бубнарылі па рубероідным даху альтанкі і пляскалі ў лужыну на дарожцы.

Альтанку на павароце рэчкі паставілі меліяратары гады з два назад і звычайную, прынамсі, будачку з лавачкай, парэнчамі і выштукаванымі балясінкамі палюбілі ўкаханыя, далекавата ад хат і прахожыя не назаляюць. Рэня жыла побач і часта са спакусай назірала, як у альтанцы хлопцы мілуюцца з яе аднагодкамі. Рэня не раз завідна займала з малымі хлапчукамі альтанку і сядзела там, пакуль малых не забіралі бацькі.

Дождж аціх, у рэчыцы плёхнула рыбіна, ловячы машкару, за мостам загулькала жанчына, збіраючы качак, якія пасля дажджу дружна высыпаліся на ваду, нягледзячы на блізкую ноч. Вось праехалі на роварах позняя работнікі. На далёкіх агародах чуліся крыкі гаспадынь, якія бегалі за сваімі каровамі, сям-там жанчыны варушыліся на градках, папраўлялі разбурэнні, якія нарабіла навальніца. Шызыя воблакі ўсё яшчэ паўзлі па небе.

Рэня сядзела ў альтанцы і ўспаміналa пра тое, як два гады назад моцны і прыгожы Віталь, знекуль ідучы, зазірнуў у новенькую тады альтанку. Пачалі нешта гаварыць, а потым ён прыціснуў яе да балясінак, палез да грудзей, спрабаваў злавіць тоўстымі губамі яе рот, а яна ўпілася пазногцямі ў яго рукі, з адчаем ратавала гонар, шэпчучы ў разгарачаны твар юнаку абразлівыя слова. Калі навалтузіліся, яна замерла ад шчасця ў куту, а ён лізаў равочкі ад яе пазуроў на сваіх руках.

— Ты чаго такая драпучая? — весела сказаў тады Віталь. — Усе дзяўчаты, як дзяўчаты, а ты...

— А чаго лезеш? Я не такая, як... усе... — адказала Рэня, і выпстрыкнула з-пад пазногцяў здзертую з хлопцавых рук скуру. Яна хацела, каб ён палез зноў, і ўжо тады яна б яго не драпала...

— Малая ты... яшчэ, — сказаў Віталь і пайшоў, пасвістваючы.

А праз які тыдзень яго забралі ў войска нечарговым наборам.

Сухое дрэва ў альтанцы было цёплае і пахла смалой. Рэня зябка сцепанулася, правяла рукой па лавачцы і намацала выразаныя ў дрэве надпісы — і зласлівыя, і звычайныя, якія проста паведамлялі, хто плюс хто ёсць каханне. Шмат тут было імёнаў — не было толькі яе імені.

Ад дарогі даносілася звонкае бульканне — кроплі падалі з моста ў рэчку. Рэня паварочвалася на гэтае бульканне і чакала, што з'явіцца мускулісты, статны Віталь: вайсковая фуражка задрана наверх, зялёная кашуля расшпілена, поўныя нахабныя вусны крышку ўсміхаюцца — такім бачыла яго сёння днём, калі ён здалёк па-заліхвацку ёй падміргнуў.

Сяброўка Светка, шыракаплечая, у акулярах з тоўстым шклом уварвалася ўчора вечарам да яе ў хату, ёрзаючы клубамі на Рэнінай пасцелі паведаміла, што вярнуўся з войска Віталь.

— Ну і што? — спытала Рэня раўнадушна.

— Ён сказаў, што хоча сустрэцца са мной... — Светчыны вочы свяціліся радасцю.

— Дык і што... — зноў падкрэслена абыякава адказала Рэня.

— Я з ім бачылася... У альтанцы.

— У альтанцы? — перапытала Рэня.

— Ведаеш, як пачаў абдымаць! Лезе і лезе, я і штурхалася і нават кусалася, а ён ведаеш, які здаровы, галодны пасля арміі, — і Светка шчаслівая і дурасліва зарагатала. Расказваючы падрабязнасці сваёй сустрэчы з Віталем, дзяўчына блыталася ва ўспамінах, збівалася, гаварыла то пра экзамен па геаметрыі, то пра трускалкі, якія добра паспелі, а то рабілася змрочнай.

Перад навальніцай прыйшла зноў і зноў пачала расказваць тое самае, што і ўчора, і раптам ці то спытала, ці то сцвердзіла:

— Ён жэніцца на мне?!

Рэня не зварухнулася з месца. Светка абняла Рэню, акуляры спаўзлі набок і зашаптала на вуха:

— Рэнька, ты нікому-нікому... Ведаеш, я не дзевачка...

— Як гэта? — неўпапад азвалася Рэня, але потым сказала:— А калі дзіцё?

— Не ведаю... — задумліва адказала Света.

— Чаго не ведаеш? Калі гэта было? Учора? — пачала выпытваць Рэня. — Што маўчыш? Табе кепска?

— Дурная, ведаеш як гэта... добра. Учора проста так, а тое... тое было два гады назад... Нават не памятаю, ці балела...

Пасля абеду разгуляўся вецер. Ён быццам выскачыў аднекуль з-за прыпяцкіх лясоў і прыгнаў адтуль хмары. Пачарнела ў рэчцы вада, нечакана, крышку злякана завуркатаў гром. А потым была навальніца, раптоўная і моцная, з дажджом-залевай. Яна грукатала з гадзіну, а потым скончылася гэтак жа хутка, як і пачалася. Але дождж, ціхі і быццам сумны, ліўся да самага вечара, пакуль не заблішчэла на захадзе сонца.

Зрабілася душна, змрок гусцеў. На мосце з'явілася постаць. Рэня стаілася. Але калі па дарозе пачуліся крокі, яна цяжка ўздыхнула: крокі былі цяжкія, з шарканнем.

Як ёй хацелася пачуць пругкую хаду маладога чалавека, хлопца, у якога расхрыстаная зялёная кашуля, моцныя, цёплыя і нахабныя рукі. Колькі пісем друкаванымі літарамі напісала яму ў войска, колькі паштовак паслала, падпісваючыся адной літарай "Р"! А ён, пэўна, і не здагадаўся.

Няўжо Светка апярэдзіла яе?

Час ішоў, і надзея, што хлопец прыйдзе, паціху памірала, як памерла навальніца, як памерла сонца на захадзе і памёр дзень. Няяснае, салодкае прадчуванне, якое нарадзілася ад Светчынай споведзі, знікла. Цяпер Рэня баялася прызнацца сабе: чаго ж яна сядзіць тут, у альтанцы на павароце рэчкі, каго чакае, чаго чакае?

Яна марыла, што вось-вось Віталь з'явіцца, абдыме яе, пацалуе.

А далей што?

Пра тое, што магло быць далей, дзяўчына не хацела думаць. Усё наваколле: высокія зорачкі, якія нясмела пазіралі праз воблакі, што марудна соваліся па небе, змрочныя таполі, якія хутка шапталіся ад ціхага ветру, замерлая дарога, бульканне кропель, што падалі з моста, свае вострыя, астылыя і пакрытыя пупыркамі каленкі разам з цёмнай цёплай прасторай пад дахам альтанкі, у якой ад утомнага чакання пачыналі мігсціцца трапецыі і прастакутнікі (цэлы дзень вучыла геаметрыю), быццам зачароўвалі, быццам падказвалі — ты мусіш быць тут, ён яшчэ прыйдзе!

Дзяўчына сядзела і безнадзейна чакала, уздрыгваючы ад нечаканых гукаў. Вось, гучна гамонячы, па дарозе прайшлі хлопцы, што сустракалі апошні цягнік, вось пацёгся алкаголік Яшка, які паспеў выспацца недзе пад плотам. Клапатліва шалахтала маленькая асінка, якая вырасла каля моста за той час, калі Віталь быў у войску. І не было яго, і не ішоў ён. Ужо з паўночнай часткі небасхілу сышла хмара, завальваючыся назад за Прыпяць, і зрабілася вельмі светла, як быццам не было змрочнага вечара, як не было ночы.

У гэтым летнім прыцемку пачалі нечакана сысыкаць конікі-пстрыкухі, звонка за рэчкай у аўсе заскіргатаў самотны драч, які клікаў сваю сяброўку. Рэня ззябла, шчыльна стуліла калені і абняла, каб было цяплей, плечы. Бачыла, што робіцца ясней і ясней і не разумела, ці то гэта світае ў кароткую чэрвеньскую ноч, ці то пасвятлела ад таго, што неба ачысцілася ад хмараў. А праз колькі хвілін упэўнілася, што світае — неба з усходу злегку праяснела. А чацвертай развідняе па-сапраўднаму, а ў пяць пойдуць па дарозе першыя людзі-клапатуны... Чаго ж ёй сядзець і чакаць?

І альтанка на павароце рэчкі апусцела.

# ДОБРАЯ СЛАВА "СПАДЧЫНЫ"

**Чарговы выпуск грамадска-асветніцкага клуба "Спадчына" (укладальнік і адказны за выпуск А. Белы) выйшаў пад назвай "Скрыжалі "Спадчыны" (папярэдні называўся "Спадчына "Спадчыны"). І гэтым разам прадстаўлена шмат матэрыялаў адраджэнскага характару, у якіх не абыдзены ўвагай і палітычныя моманты ў жыцці нашай дзяржавы.**

**Адкрываецца альманах вершам В. Шніпа "Сябрам клуба "Спадчына" і яго прыхільнікам". Гэты верш, як і іншыя творы паэта, прадстаўленыя на старонках альманаха, напісаны ў 1990—1992 гадах і напоўнены верай у шчаслівую і свабодную Беларусь.**

**Змешчаны артыкулы В. Быкава "Мэта і сродкі", у якім закранаюцца пытанні стаўлення да беларускай мовы з боку афіцыйных улад. Матэрыял апублікаваны ў раздзеле "Маці родная, маці-краіна".**

**Безумоўна, публікацыя нумар адзін выпуска — "Уладары старажытнай Беларусі" А. Грыцкевіча і А. Белага (партрэты выканаы А. Крывенкам): "...упершыню ў Беларусі змешчаны партрэты вялікіх князёў літоўскіх і рускіх (Беларуска-Літоўскае гаспадарства), а таксама каралёў Польскіх, якія пасля заключэння Люблінскай Уніі ў 1569 годзе з'яўляліся вялікімі князямі Літоўскімі, Рускімі і Жамойцкімі".**

**Змястоўны раздзел "Навуковыя нататкі": "Крызіс прамысловасці і сельскай гаспадаркі Беларусі ў 1914—1921 гг." і "Льво і Галіцкая Русь у складзе Вялікага княства Літоўскага" І. Курыцына, "Марксізм памёр?" А. Белага і А. Цітова, "Іканаграфія Кастуся Каліноўскага" В. Шалькевіча.**

**Яшчэ два раздзелы: "Слова пра "Спадчыну" і яе сяброў" ("Клуб "Спадчына": набыткі і праблемы" Л. Лыча, "З нагоды дзесяцігоддзя клуба "Спадчына", вершы-прысвячэнні В. Шніпа і П. Марціновіча, "Мастак Анатоль Крывенка" Я. Гучка, "Твары, душой спявай" У. Новіка, "Нашчадкі клуба "Спадчына" С. Галіны) і "Радком прозы, верша", у якім прадстаўлена шырокае кола аўтараў.**

**Ёсць гумар, ёсць матэрыялы храналагічнага кшталту. А каб з'явіцца гэтае выданне, парупіліся фундатары: Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт; пробашч Мінскай парафіі касцёла святых Алены і Сымона, ксёндз магістр Уладыслаў Завальнюк; народны мастак Беларусі Леанід Шчамялёў; паэт, доктар медыцыны Мацвей Рэпка-Смаршчок (Анатоль Бярозка) з ЗША; галоўны рэдактар газеты "Частный детектив" Алесь Усеня, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, мастак-скульптар Уладзімір Лятун, мастак — кераміст Мікалай Несцяроўскі.**

**А. М.**

# ЮБІЛЕЙНАЯ ВЫСТАВА



**У выставачнай зале Саюза мастакоў у Віцебску адкрылася персанальная выстава аднаго са старэйшых мастакоў Прыдзвінскага краю, ветэрана вайны, прафесара дзяржаўнага універсітэта Анатоля Кавалёва. Ён быў у ліку тых, хто заснаваў у Віцебску кафедру выяўленчага мастацтва пры былым педінстытуце, перадаваў свае веды і вопыт яго выпускнікам. Цяперашняя юбілейная выстава, прымеркаваная, дарэчы, да яго 70-гадовага юбілею, — своеасаблівая справаздача майстра.**

*На здымку: Анатоль Кавалёў.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

# І ЧАС ПРЫЙШОЎ...

*(Праця. Пачатак на стар. 1)*

тут былі музычныя тэатры, капэлы і школы, вакол якіх існавала сапраўдная сузор'е творчых асоб: нямецкі кампазітар Я. Голанд, чэшскі — Я. Дусік, славуты італьянскі тэнар В. Мікаліні, знаны беларускі музыкант Е. Бакановіч, — многіх прывабліва праца ў Нясвіжы.

Тагачасная нясвіжская культура была люстэркам, нібыта мадэлявала ўсю культуру Беларусі, пакінуўшы для гісторыі самыя высокія ўзоры творчасці. (Прыкладаў магу назваць нямала, але спашлюся толькі на той факт, што менавіта з Нясвіжам звязана стварэнне першай мясцовай прафесійнай оперы — "Агатка" Я. Голанда была напісана на лібрэта М. Радзівіла). Але потым настаў іншы час, калі апусцеў Нясвіж і аддаў лепшых сваіх творцаў іншым культурам... Яны вымушаныя былі з'язджаць у іншыя краіны, а музыка, якая некалі стваралася і выконвалася тут, "разыходзілася" па скарбонках іншых народаў. Між іншым, самой мне давялося павандраваць па Еўропе — ад Германіі, Бельгіі да Летувы, Польшчы, Расіі, — шукаючы ў нотасховішчах нашы гістарычныя набыткі.

Дык вось, у межах фестывалю аб'ядналася некалькі падзей — і грунтоўная навуковая канферэнцыя, і мастацкая выстаўка, і ўласна канцэрты, якія ў сваю чаргу аб'ядналі тую музыку, што стваралася на Беларусі і гучала тут на працягу мінулых стагоддзяў, і музыку тых кампазітараў, што мелі стасункі з тутэйшымі творцамі (Д. Расіні, Ф. Э. Бах), музыку Заходняй і Усходняй Еўропы (нямецкую, італьянскую, рускую), якую тут ведалі і шанавалі. А таксама сучасную музыку, у тым ліку новыя творы беларускіх кампазітараў. Цікава, што цяперашняя даўніна, класіка была ў свой час "авангардам", дык, дасць Бог, прыйдзе час, калі цяперашні "авангард" зробіцца класікай або архаікай...

Можна нямала добрых і захопленых слоў сказаць з нагоды фестывалю, назваць нямала прозвішчаў тым, дзякуючы каму ён адбыўся — і адбыўся на такім высокім арганізацыйным і мастацкім узроўні. Сярод руплівых фестывалю — спадары М. Фінберг, В. Сарока, Б. Нічкоў, У. Скараходаў (рэктар Беларускага інстытута праблем культуры) і, канечне, У. Дражын, гасцінны шчыры гаспадар, мэр Нясвіжа... Але што ўразіла ўдзельнікаў свята больш за ўсё — дык гэта публіка. Залы былі перапоўненыя... моладдзю! Маладыя сем'і прыходзілі нават з немаўлятамі, якія цікаўна вытрымлівалі цэлую канцэртную праграму! З густам зробленыя аранжыроўкі, высокі ўзровень выканання выклікалі авацыі.

— Мне падалося, — працягвае В. Дадзёмава, — што ўвядзенне ў сённяшнюю культуру класічных традыцый — гэта тое, што трэба людзям. Моладзь проста згаладалася па класіцы — я адчувала гэта па ўсхваляваных, прасветленых тварах.

А яшчэ я мару, што фестываль камернай музыкі ў Нясвіжы стане традыцыяй, што з часам тут будзе пастаўлена і "Агатка", і опера А. Радзівіла "Фауст". І што ўрэшце аналагічныя фестывалі будуць ладзіцца ў іншых беларускіх мястэчках — колішніх цэнтрах музычнай культуры, якімі лёс не абдзяліў нашу зямлю.

**С. Б.**

*Фота Віт. АМІНАВА*



*На вернісажы "Партрэты Радзівілаў". У цэнтры — народны мастак Беларусі Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК.*



*Музыка вяртаецца ў Нясвіж.*

# ЁСЦЬ СЯБРЫ Ў ДЗВІНЫ-ДАЎГАВЫ

Вось ужо 10 гадоў міжнародная супольнасць выказвае клопаты ў абарону экалогіі і культуры вадазабору Дзвіны-Даўгавы, магутнага рэчышча якой яднае расіян, беларусаў і латышоў на яе берагах. Не так даўно ў Віцебскім універсітэце сабраліся сябры Каардынацыйнай рады "Дзвіна-Даўгава". У раду ўваходзяць Анатоль Дарафееў — кандыдат біялагічных навук, першы прарэктар Віцебскага дзяржаўнага універсітэта; Вольга Акуневіч — дырэктар Віцебскага абласнога краязнаўчага музея; Святлана Дзедзінкіна — загадчыца аддзела экалогіі віцебскай абласной газеты "Народнае слова"; Валянціна Кірылава — выканаўчы дырэктар Віцебскага абласнога аддзялення фонду Сораса; Барыс Лазука — кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт кафедры выяўленчага мастацтва Віцебскага дзяржаўнага універсітэта; Таісія Літвінава — намеснік старшыні Віцебскага абласнога фонду культуры; Сяргей Панізнік — пісьменнік, вучоны сакратар літаратурнага музея Янкі Купалы, сябра рады Міжнароднага фонду Янкі Купалы; Ніна Сулецкая — галоўны спецыяліст па ахове гісторыка-культурнай спадчыны ўпраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама, намеснік старшыні аблсавета таварыства па ахове помнікаў гісторыі і культуры; Васіль Якавенка — пісьменнік, эколаг.

Расію ў Каардынацыйнай радзе прадстаўляюць Вячаслаў Вараб'ёў — кандыдат гістарычных навук, загадчык кафедры краязнаўства Цверскага інстытута ўдасканалення настаўнікаў; Яўгеній Шміт — прафесар кафедры Смаленскага педагагічнага інстытута.

Ад Латвіі міжнародную праграму "Дзвіна-Даўгава" курыруюць Арвід Баршэўскіс — старшыня Цэнтра даследаванняў прыроды і асяроддзяўтварэння Даўгаўпілскага педагагічнага універсітэта, доктар біялогіі; Валдыс Кудыньш — намеснік старшыні Цэнтра даследаванняў прыроды і асяроддзяўтварэння Даўгаўпілскага педагагічнага універсітэта; Дыгна Пілатэ — кіраўнік праекта "Даўгава", навуковы супрацоўнік Латвійскага музея прыроды; Мірдза Урмэ — кіраўнік праграмы "Даўгава" Латвійскага фонду культуры.

У Латвіі з удзячнасцю ўспамінаюць тыя падзеі, калі беларусы аказалі актыўную салідарнасць у выступленнях латвійскай грамадскасці супраць узвядзення пагрознай Даўгаўпілскай ГЭС. Сёння зноў узнікла пытанне аб мэтазгоднасці пабудовы Даўгаўпілскай ГЭС паводле абноўленага праекта. Латышы хочуць ведаць думку беларускага боку, бо сярод жыхароў Латвіі многа тых, хто "за", і хто "супраць". "Супраць" таму, што хочуць зберагчы неруш вадазбору, экалагічную прывабнасць яшчэ не знявечанага латгальскага рэчышча Дзвіны-Даўгавы, як і крывіцкіх поймаў нашай агульнай ракі-калыскі.

У нядаўняй размове з Мірдзай Урмэ па тэлефоне была выказана вялікая просьба да беларусаў адгукнуцца на новую ідэю ўзвядзення Даўгаўпілскай ГЭС. Свае меркаванні спадарыня Мірдза Урмэ прасіла накіраваць на адрас: Латвійскі Фонд культуры, Фонд Даўгавы, бульвар Бастэя, 12. Латвія. LV — 1665.

А чарговая канферэнцыя ў абарону Дзвіны-Даўгавы адбудзецца ў Віцебску напрыканцы сёлетняга года. (Даведкі па тэлефоне 5-02-55(Віцебскі дзяржаўны універсітэт), Дарафееў Анатоль Максімавіч).

Экалогія і культура вадазбору Дзвіны-Даўгавы была і застаецца клопатам міжнароднай супольнасці — і ў першую чаргу расіян, беларусаў, латышоў.

**Сяргей ПАНІЗНІК**

# БЕЛАРУСЫ: "ЛЕГАЛІЗАЦЫЯ" Ў СУСВЕТНАЙ ГІСТОРЫІ

*(Праця. Пачатк на стар. 5)*

А яшчэ на пачатку ХХ стагоддзя гэтае пытанне было актуальным. Я гэта кажу ў сувязі з культурнай сталіцай беларусаў — Вільняй (Вільнюсам). Некалі існавала балтаславянская моўная еднасць. Магчыма, былі і племянныя саюзы, якія пазней сталіся падмуркам узнікнення адзінай балтаславянскай дзяржавы. Аднак шляхі народаў падуладныя толькі волі Боскай...

Я ўспамінаю свае вандроўкі па старой Вільні разам з Валянцінам Ждановічам, дарэчы, сябрам Уладзіміра Караткевіча. Ён паказваў мне родавыя касцёлы і палацы Сапегаў, Радзівілаў, Тышкевічаў. Кожная камяніца старой Вільні была і нашай гісторыяй, беларускай. І як бы ні круціліся вузкія вулачкі, яны абавязкова прыводзілі да муроў Віленскага універсітэта, калыскі беларускай культуры. Вось у гэтых скляпеннях схапілі Кастуся Каліноўскага. А недзе тут знаходзілася друкарня братоў Мамонічаў. Ці помнім мы зараз, чым была гэтая друкарня для беларусаў?..

На пачатку перабудовы некалькі прадстаўнікоў беларускай нацыянальнай ідэі перабраліся на сталае жыццё з Беларусі ў Вільню. Яны выступілі ў друку з праграмнымі заявамі, у тым ліку і аб умацаванні адносін паміж літоўскім і беларускім народамі. На іх думку, для таго, каб Вільня засталася культурнай сталіцай беларусаў і літоўцаў, патрэбна няшмат — закрыць межы паміж Расіяй і Беларуссю, па-сапраўднаму адасобіцца, як гэта зрабіла Літва. Тады Літва "падабрэе" да балтарусаў і дазволіць ім прыязджаць у Вільню.

Але нездарма нашыя продкі гаварылі: што з возу ўпала, то прапала. Гісторык М. Улашчык быў шчыры прыхільнік беларускай нацыянальнай ідэі. Але ні ў адной сваёй кнізе ці артыкуле ён не напісаў, што наладжваць адносіны з адным народам трэба за кошт псавання іх з другім. І не таму, што М. Улашчык быў гісторыкам, а не палітыкам. Тут справа ў маштабах асобы. Асоба — гэта заўсёды сумленне. На жаль, заангажаваная частка радыкальна настроенай інтэлігенцыі ніколі не спынялася перад маральным выбарам. У імя ідэі яна, здаецца, гатовая на любыя ахвяры. Ці даўно мы чулі: спачатку ўсё зруйнуем, а затым...

У тым і справа, што "затым" ніколі не наступала.

Класічны гісторык, М. Улашчык разам з тым паказаў сябе мастаком, які факт пераўтварае ў вобраз і далей — у ідэю. Беларусы, па М. Улашчыку, гэта народ, які шмат увабраў у сябе як ад усходняй, так і ад заходняй традыцый. Ягоныя моц і слабасць якраз у тым, што ўзрос ён паміж лесам і стэпам, паміж праваслаўем і каталіцтвам, паміж Еўропай і Азіяй. Так, гэты народ часцей нараджаў волатаў зямлі, чым волатаў духу, але не варта ў гэтым бачыць трагедыю.

"...Народная вера ў сябе і ва ўласныя сілы — зусім не застой, а, наадварот, залог жыццяздольнасці і энергіі жыцця і зусім не выключае прагрэсу і ўсялякіх поспехаў. Без гэтай веры ў сябе не выстаяў бы, напрыклад, на працягу стагоддзяў беларускі народ і не выратаваў бы сябе ніколі", — пісаў у 1864 годзе Ф. Дастаеўскі.

Згодзімся з думкай: у якой бы фазе свайго развіцця ні знаходзіўся той ці іншы народ, ён заўсёды здолее пацвердзіць сваю самакаштоўнасць. Праз асобу гісторыка. Філосафа. Пісьменніка. Гаспадара.

# НЕ ЗМЯНІЛАСЯ — НІЧОГА

*"Законам з'яўляецца тое,*
*што ніводны чалавек не можа*
*падняцца над сваімі недахопамі,*
*не падымаючы пры гэтым*
*чалавецтва ў цэлым"*

А. БЛАВАЦКАЯ

Гэта — эпіграф да ўсяго нашага айчыннага экалагічнага руху, дзяржаўнага і недзяржаўнага. Хутка 10 гадоў з нагоды несвяточнага юбілею. Як адчувае сябе Свет пасля Чарнобыля? Чаму мы не становімся шчырымі, добрымі, сціплымі? Чарнобыльская бяда — не адзіная прычына экалагічнай катастрофы на Беларусі. Гэта яшчэ адна лакмусавая паперка на нашу гуманнасць, духоўнасць, альтруізм. Яшчэ да Чарнобыля былі вядомы нядобрай памяці такія мутагены, як дуст ДДТ, дэфаліянты, гербіцыды, альдэгіды, солі цяжкіх металаў, а таксама некаторыя медыкаменты-антыболікі, ціа-ТЭФ, эндаксан, асобныя антыбіётыкі, кансерванты. У якасці канцэрагенаў і тэратагенаў называюцца фенол, фармальдэгід, сульфаніламіды, гармоны і інш. За апошняе дзесяцігоддзе іх канцэнтрацыя ў навакольным асяроддзі не зменшылася.

Спашлюся на даклад Сусветнага банка за 1993 год "Беларусь. Даследаванне экалагічнай стратэгіі". У гг. Наваполацку, Гродне, Бабруйску кожныя 8 з 10 прамысловых прадпрыемстваў працавалі без ачышчальных збудаванняў, у Салігорску, Барысаве, Брэсце — 7 з 10.

За апошні час — нічога не змянілася. Навукоўцам дакладна вядома, як свінец адмоўна ўплывае на нервовую і мысленную дзейнасць чалавека. Па выніках абследавання школьнікаў г. Мінска спецыялістамі "Эндаэкалагічнага цэнтра", у кожнага пятага дзіцяці (18—20 працэнтаў) канцэнтрацыі свінца ў крыві пераўзыходзяць фізіялагічны парог. Якраз у глебах Мінска, Наваполацка, Віцебска, Брэста, Гомеля, Светлагорска выяўлена яго максімальнае ўтрыманне (32+- 4 мг/кг).

Самай бруднай ракою на Беларусі лічыцца Свіслач, дзе амаль не ачышчаюцца прамысловыя і ліўневы сцёкі, знішчаецца водная флора і фаўна. З цяжкіх металаў мінскія прадпрыемствы скідваюць кожны год у сярэднім па 15 тон хрому, цынку і нікелю. Для астатняй Беларусі гэтыя лічбы трэба падвоіць. Гальванічныя цэхі працягваюць скідваць цяжкія металы ў звычайную каналізацыю.

Смяротнасць сельскага насельніцтва перавысіла яго нараджальнасць ужо на пачатку 80-х гадоў. У першую чаргу гэтыя дэмаграфічныя нажніцы зачапілі мужчын. Маюцца дзве гіпотэзы такой з'явы — злоўжыванне нікацінам і алкаголем і ўздзеянне мноства новых хімічных рэчываў, да якіх чалавечы арганізм эвалюцыйна зусім не адаптаваны.

Звернем увагу яшчэ на адну акалічнасць. Да канца 70-х гг. бягучага стагоддзя Беларусь займала 5-е месца сярод іншых рэспублік былога Саюза па працягласці жыцця (пасля Закаўказзя і Літвы). З беларускіх рэгіёнаў доўгажыхарствам вылучалася ў першую чаргу насельніцтва Магілёўскай і Гомельскай абласцей. І менавіта іх напаткала Чарнобыльскае гора.

Лічу, што ўпершыню з дакумента Сусветнага банка мы даведаліся аб забруджанасці вясковых калодзежаў нітратамі з-за нерэгулюемага ўжывання мінеральных угнаенняў у сельскай гаспадарцы. Тут пальму першынства трымаюць Брэсцкая і Мінская вобласці. У 60-67 працэнтаў даследаваных дзяцей ПДК нітратаў у сліне і мачы перавышана ў 1,5 — 2 разы. А гэта садзейнічае малакроўю ў дзяцей і анкалагічным хваробам у сталых людзей. З гэтай нагоды патрэбна было б часцей агучваць тыя лічбы грошай з Чарнобыльскага падатку, якія выкарыстаны нібыта на аздараўленне насельніцтва Міністэрствам па надзвычайных сітуацыях. Так, за 1995 год праз абласныя аддзяленні Фонду "Здароўе" было скарыстана 460 млрд. руб. Многа гэта ці мала? Ці вядомыя вынікі? Наша прапанова: за размеркаваннем такіх сродкаў павінен сачыць Апякунскі савет.

Здароўе нашых людзей катастрафічна пагаршаецца і яшчэ па адной прычыне. Экалагічная сітуацыя пагоршылася ў выніку неабмежаванай асушкі балот, навукова неабгрунтаванай, не заўсёды і не ўсюды патрэбнай так званай меліярацыі, рабавання беларускіх лясоў, артэзіянскіх крыніц вады, іншых прыродных рэсурсаў. Фактычна ўмовы ўмеранага кліматычнага поясу на нашай тэрыторыі сёння ператварыліся ў экстрэмальныя. Разбураюцца аптымальныя для жыццядзейнасці і біялагічнай разнастайнасці біягеацэнозы, з'яўляюцца новыя экалагічна залежныя хваробы. Адаптыўныя магчымасці сучаснага чалавека дасягнулі парогу напружанасці. Існуе пагроза пераходу натуральнага адбору са стабілізуючай якасці ў дэстабілізуючую накіраваную форму.

Сучасныя людзі нясуць у сабе спадчыннасць жывёльнага мінулага, значыцца імі ў большай ступені кіруюць біялагічныя законы. Зараз адкрыта разнастайнасць чалавечых папуляцый па групах крыві, бялковых фракцыях, фізіялагічных параметрах. Якраз падобны полімарфізм дазваляе чалавеку біялагічна прыстасавацца да прыроднага наваколля і сацыяльнага асяроддзя. Пры гэтым рэзерв адаптыўных магчымасцей залежыць ад многіх прычын, ад запасу гістарычна замацаванай, спадчынна абумоўленай адаптаванасці. Вялікі размах біялагічнай зменлівасці адбываецца пад уплывам стабілізуючага адбору. Новыя варыяцыі зменлівасці знаходзяць месца ў разнастайным прыродным і сацыяльным асяроддзі. У сваю чаргу адбор зноў павялічвае морфафізіялагічную і біяхімічную разнастайнасць. Такім чынам, у папуляцыях чалавека пастаянна падтрымліваецца дынамічная раўнавага.

Акрамя морфатыпаў, выдзяляюцца і псіхатыпы. Нягледзячы на іх спадчынна абумоўленую індывідуалізаванасць, адны людзі з'яўляюцца рэалістамі, другія — абстракцыяністамі. Паміж морфатыпамі існуе свая ўзаемасувязь, якая праз папуляцыйныя асаблівасці фарміруе антрапалагічныя тыпы асобных этнасаў. У сваю чаргу, антрапагенетычныя асаблівасці маюць геаграфічна накіраваную зменлівасць, патрабуюць далейшага вывучэння і сістэматызацыі. Адно бясспрэчна: калектыўныя паводзіны, характар і тэмперамент калектыву нясуць у сабе гістарычна адпрацаваныя этнічныя асаблівасці, эвалюцыя якіх адбывалася на працягу соцень пакаленняў у канкрэтным культурна-гаспадарчым і прыродна-бытавым асяроддзі.

Сацыяльная адаптацыя абавязкова скарыстоўвае магчымасці біялагічнай адаптацыі. Таму біясацыяльныя працэсы ў чалавечым грамадстве, з-за паліморфнасці апошняга, маюць сваю разнастайнасць у параўнанні з іншымі жывымі істотамі. На асобных геаграфічных тэрыторыях па законах генетычнай спадчыннасці адбываецца кожны раз свая перакамбінацыя генаў. У адпаведнасці з канкрэтнай адаптыўнай неабходнасцю фарміруюцца патрэбныя генатыпы, усталёўваецца свой генафонд. Апошні чула рэагуе на змену абставін праз новыя папуляцыйныя структуры. Можна лічыць, што сучасныя экалагічныя катаклізмы не знішчаць усё чалавецтва, але пасадзейнічаюць выпрацоўцы новых генетычных і фенатыпічных якасцей праз жорсткі натуральны адбор. На прэнатальным і неанатальным узроўнях ён ужо зараз працуе і пажынае плён сваёй дзейнасці. Тут павінна да нас вярнуцца наша калі не гуманістычная, то хаця б разумная сутнасць.

Усю экалагічную інфармацыю, і дадатную і адмоўную, неабходна даносіць да людзей. Сапраўдная інфармацыя робіць чалавека дасведчаным, а значыць, і адказным за захаванне ў чысціні свайго навакольнага дому, дазваляе памяняць псіхалогію раба на псіхалогію гаспадара. З другога боку, кожны чыноўнік ад экалогіі будзе адчуваць пастаянную адказнасць за сваю прафесійную дзейнасць.

У такім разе вучоба на асабістых праліках і ўжо зведаных экалагічных катастрофах заўсёды будзе выніковай і карыснай, дапаможа папярэдзіць патэнцыяльна верагодныя экалагічныя выбухі.

Лічу патрэбным напомніць тут аб пачатай, будзем спадзявацца — перыядычнай, серыі Экалагічных бюлетэняў аб стане прыроднага асяроддзя Беларусі, якую пачалі выдаваць Акадэмія навук Беларусі разам з Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Бюлетэнь за 1992 г., выдадзены ў 1994 (!) годзе, уключае 10 раздзелаў. Пералічу некаторыя з іх.

Кліматычная характарыстыка 1992 г. і забруджанасць атмасферы. Па адносінах сярэдніх канцэнтрацый да ПДК значна перавышаны ў паветры гарадоў нормы фармальдэгіду і бенз(а)пірэну, меней — серавадароду і аміяку. Па адносінах максімальных канцэнтрацый нормы перавышаны ў 10—15 разоў па тых жа бенз(а)пірэну і фармальдэгіду, у 6 разоў — па серавугляроду і дзіаксіду азоту, у 2—4 разы — па аміяку, пылу, фенолу і аксіду вугляроду. Куды далей? Пад уздзеяннем канцэнтрацый бенз(а)пірэну ў паветры болей за 5 ПДК знаходзяцца 3395 тыс. гараджан рэспублікі. Далучым сюды сялян навакольных вёсак, тады гэта лічба дасягае 4 млн. Як бачыце, не кожны чацвёрты, а нават кожны 3-ці ці другі знаходзяцца пад снайперскім прыцэлам такіх жорсткіх мутагенаў, тэратагенаў і канцэрагенаў, як названы бенз(а)пірэн, дзіаксід азоту (каля 3-х млн.), фармальдэгід (не меней 2,5 млн.), вокісел вугляроду (каля 2-х млн. жыхароў). Вось вам і надзвычайная экалагічная сітуацыя на Беларусі, з чым тэрмінова неабходна працаваць і ўладам, і навукоўцам, і грамадскім дзеячам.

Другі раздзел прысвечаны Характарыстыцы воднага рэжыму рэчак і вадаёмаў і ацэнцы стану забруджанасці паверхневых вод. Прыводзіцца многа фактычнага матэрыялу, сярэднія гадавыя канцэнтрацыі брудных рэчываў у вадзе асноўных рэчак у гарадах і населеных пунктах за 1992 год. Гэтыя дадзеныя заслугоўваюць картаграфавання для нагляднасці і геаграфічнага вывучэння. Кратнасць перавышэння ПДК максімальная па азоту аманійнаму ў 7-8 разоў у рэках Плісе каля Жодзіна, Свіслачы ў Мінску, Бярэзіне пад Барысавам. Па нафтапрадуктах 3-х і болей разавая кратнасць перавышэння ПДК зафіксавана ў рэках Нёман, Палата, Лідзя, Прыпяць бліз гг. Масты, Полацк, Ліда, Мазыр. На тэрыторыі Беларусі зараз ёсць праблемы з існуючай небяспекаю забруджвання падземных вод пад уплывам гаспадарчай дзейнасці.

Раздзел пяты называецца "Радыяцыйная забруджанасць атмасферы, паверхневых вод і глебы". Сярэднемесячныя ўзроўні экспазіцыйных доз гама-абпраменьвання за 1992 год па 52 рэперных кропках таксама дазваляе правесці больш дэталёвы навукова-практычны аналіз.

Больш падрабязна спынімся на раздзеле 10 — "Дынаміка захворванняў насельніцтва рэспублікі ў сувязі з ростам забруджанасці атмасфернага паветра (на прыкладзе гарадоў Мінска і Віцебска)". Нягледзячы на тое, што прыведзеныя паказчыкі ахопліваюць толькі 80-я гады, сярод дарослага насельніцтва ўжо тады быў заўважаны трохкратны рост пнеўманій (як па г. Мінску, так і па г. Віцебску). Сярод дзяцей у 3-4 разы павялічылася колькасць упершыню захварэўшых не толькі на пнеўманію, але і на іншую рэспіраторную паталогію. Ужо тады, можа, упершыню, быў зарэгістраваны пік максімальнага захворвання дзяцей у Мінску на атапічны дэрмаціт. На жаль, стан здароўя дзяцей па гэтай паталогіі працягвае пагаршацца.

Шкодныя хімічныя злучэнні, што зараз акружаюць нас паўсюдна, тым болей на фоне вялікай радыенуклідэнай рызыкі і алкагольнатытунёвай залежнасці, "прагназуюць" значнае паніжэнне імунітэту, сярод дзяцей у першую чаргу. Сенсібілізуючы эфект экалагічнага бруду павялічыць частату алергічных хвароб. Мутагенная эфектыўнасць радыяцыйных і хімічных фактараў абавязкова выкліча рост спантанных абортаў, мёртванароджаных, прыроджаных парокаў развіцця, спадчыннай паталогіі.

На мяжы кампенсаторных магчымасцей знаходзіцца стан здароўя людзей па сардэчнасасудзістых хваробах. У першую чаргу яны ўплываюць на чакаемую працягласць жыцця сённяшніх немаўлят. Па разліках яна раўняецца для мужчынскай паловы 63 гадам, для жаночай — 74, а ў сярэднім — 69 гадам. Гэта катастрафічна мала. Генетычная праграма чалавека пры аптымальных умовах здольна працаваць яшчэ столькі ж.

Знаёмства з дынамікай захворваемасці дзіцячага і дарослага насельніцтва за апошнія пяць гадоў дазваляе ўпэўнена заявіць, што сярод першых найболей значны рост адбыўся ў Гомельскім рэгіёне. Пры гэтым колькасць захворванняў эндакрыннай і імуннай сістэм вырасла ў 14 разоў, нервовай сістэмы і інфекцыйных хвароб — у 2,5 раза. Пераважна сельскае дарослае насельніцтва таксама часцей за ўсё хварэла на Гомельшчыне. Болей чым палове з іх (менавіта 610 з 1000) у 1994 г. быў упершыню ўстаноўлены той ці іншы дыягназ. Рост у параўнанні з 1990 г. склаў 12,8 працэнта. Паміж іншым, рост хваравітасці цалкам па краіне склаў у сярэднім 11,8 працэнта, але ў Гродзенскай і Брэсцкай абласцях захварэлі толькі адпаведна 3-4 чалавекі з 10-ці, што сведчыць аб неаднолькавых сацыяльна-экалагічных умовах існавання насельніцтва ў першую чаргу на паўднёвым усходзе і паўночным захадзе. Калі больш дэталёва разгледзець рост хвароб па назалагічных адзінках, то трэба адзначыць найбольшы рост на Гомельшчыне хвароб крыві і кроваўтваральных клетак — амаль у 5 разоў. Такога росту не назіраецца болей нідзе ў рэспубліцы. З іншых хвароб таксама павялічылася (у сярэднім у 2,5 раза) колькасць хвароб нервовай сістэмы і псіхічных парушэнняў. Адно застаецца бясспрэчным — генафонд этнасу і яго здароўе пад пагрозай. На фоне вышэйпрыведзеных паказчыкаў стану навакольнага асяроддзя і генадэмаграфічных зрухаў не меней важным, у сэнсе ўплыву на здароўе людзей, можна лічыць рэжым харчавання сельскага насельніцтва па яго разнастайнасці, каларыйнасці і якасці. Зноў спашлёмся на даныя МАЗ РБ, апублікаваныя ў дакументах Сусветнага банка (1993 г.). Харчуецца вясковы чалавек вельмі аднастайна, у ягоным рацыёне не хапае алею, рыбы і мяса, а таксама садавіны і гародніны, вітамінаў. Неабходная каларыйнасць у першую чаргу перакрываецца за кошт бульбы, малака і малочных прадуктаў (амаль ці не на 70—75 працэнтаў). Самым нізкім гэты паказчык аказаўся ў Гродзенскай вобласці (2168 ккал.), самым высокім — у Мінскай (2909), але і тут ён толькі набліжаецца да патрэбнай нормы (3100 ккал.). Не будзем звязваць гэты факт напрасткі з хваробамі органаў стрававання, аднак жа іх колькасць за апошнія 5 год павялічылася на 60 працэнтаў, праўда, застаючыся мінімальнаю сярод іншых рэгіёнаў. Тут пальму першынства зноў-такі ўтрымлівае Гомельская вобласць, дзе амаль 3 чалавекі з 10-ці ў 1994 г. упершыню захварэлі на гэтыя хваробы.

Вялікую трывогу выклікаюць тэмпы абвастрэння медыка-дэмаграфічных праблем ва ўсіх рэгіёнах Беларусі, але найперш — у Гомельскім. Калі пайсці ўслед за экспертамі Міжнароднага банка, якія лічаць, што рост рэспіраторных захворванняў, скураной паталогіі і пухлін адбываецца ў першую чаргу ў сувязі з пагаршэннем экалагічнай сітуацыі, то ў РБ новаўтварэнні, што былі ўпершыню выяўлены ў дарослага насельніцтва, за апошнія 5 год найчасцей сустракаюцца ў Гомельскай, Магілёўскай абласцях (адпаведна 9,3 і 7,9 на 1000 чалавек). Колькасць скураных і рэспіраторных хвароб — у Віцебскай і Гомельскай: 42,7 і 40,6 246 і 228 адпаведна на 1000 чалавек. Бясспрэчна, тут патрэбны дадатковыя эпідэміялагічныя даследаванні, каб аддыферэнцыраваць паміж сабою ўплыў забруджанасці наваколля ад фактараў сацыяльных і ладу жыцця.

У свой час, адразу пасля выканага, з дапамогаю Сусветнага банка, даследавання ў Беларусі экалагічнай сітуацыі ў 1992 г. і праведзенай у 1993 г. Навукова-практычнай канферэнцыі ў АНБ па экалагічнай стратэгіі, шэраг вядучых эколагаў РБ з абурэннем успрынялі тэзіс СБ аб неабавязковым прыярытэцэ радыялагічнай забруджанасці перад хімічнай і арганічнай. Нягледзячы на існаванне падрабязнага плана дзеянняў па рэалізацыі экалагічнай стратэгіі, распісанага адпаведна па накірунках ці праблемах, па канкрэтным дзеянні, выканаўцах і тэрмінах рэалізацыі, што прапанавалі міжнародныя

*(Працяг на стар. 15)*

## БЕЛАРУСЬ НА "БАЛТЫЦЫ-96"

**З 2 да 7 ліпеня 1996 года ў Вільні абудзецца Міжнародны фальклорны фестываль "Baltica-96".**

**Гэты, дзевяты па ліку, фестываль "Baltica" будзе прысвечаны толькі Балтыйскім і Паўночным дзяржавам. 12 краін-удзельніц фестывалю (Беларусь, Літва, Латвія, Эстонія, Расія, Фінляндыя, Швецыя, Нарвегія, Ісландыя, Данія, Германія, Польшча) прадэманструюць адметнасць сваіх культурных традыцый.**

**У адрозненне ад папярэдніх фестываляў, на якіх дэманстраваліся толькі спевы, танцы ды інструментальная музыка фальклорных гуртоў, "Baltica-96" ставіць за мэту ахапіць значна шырэйшае кола з'яў культуры: аўтэнтычны фальклор, унікальныя віды мастацтваў і рамёстваў, нацыянальную кухню. З гэтай мэтай будуецца невялікі "фестывальны гарадок" з пляцоўкамі для выступленняў гуртоў, месцамі для дэманстрацыі традыцыйных рамёстваў, продажу страў, прыгатаваных паводле старажытных рэцэптаў. Кожнай краіне будзе выдзелены час для прадстаўлення сваёй праграмы.**

**Разам з гэтым мяркуецца правядзенне прэзентацыі відэафільмаў, прысвечаных этнакультурным традыцыям, святам, сямейна-бытавым абрадам, побыту, традыцыйнай вытворчасці і г. д. Падчас свята ўдзельнікі будуць выязджаць у адметныя культурныя, гістарычныя і прыродныя мясціны Літвы: у Аўкштайцію (Усходняя Літва) і Дзукію (Паўднёвая Літва), дзе адбудуцца невялікія канцэрты.**

**Па даручэнні аргкамітэта арганізацыяй фестывалю з беларускага боку займаецца Фонд развіцця традыцыйнай этнічнай культуры (ФРТЭК). Для ўдзелу ў фестывалі ім былі адабраны гурты "Васілёчак" з вёскі Рэчыца Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці і "Huda" з г. Мінска. Майстры з Беларусі прадэманструюць у Вільні сваё непаўторнае выканаўчае майстэрства, ткацтва, пляценне і вышыванне. Будуць прадавацца народныя строі, унікальныя металічныя ўпрыгожанні, нацыянальныя беларускія стравы. У клубе "Video-Baltica-96" адбудзецца прэзентацыя чатырох беларускіх відэафільмаў.**

**Усіх неабыякавых да ўдзелу Беларусі ў фестывалі і годнага выгляду нашай краіны паміж балтыйскіх і паўночных суседзяў просім звяртацца па кантактным тэлефоне:**

*(0172) 27-82-83.*

*ІНФАРМАЦЫЙНАЯ СЛУЖБА "ISK"*

## МАЙСТЭРСТВА, ПАТРЭБНАЕ ЛЮДЗЯМ



**Такім такарным станком, на якім робіць пральныя верацёны жыхар вёскі Бяздзеж Драгічынскага раёна сямідзесяцігадовы Іван Аляксеевіч Юшкевіч, карысталіся, відаць, сельскія ўмельцы і сто, і трыста гадоў назад. Найпростая прылада, на якой можна вытачыць не толькі верацёны, але і іншыя вырабы, напрыклад, спіцы для конных павозак, захавалася ў тутэйшых мясцінах, пэўна, толькі ў Юшкевіча. Час яму ўжо і ў музей, ды вельмі прывык за доўгія гады да свайго станка майстар, а да яго ідуць аднавяскоўцы з заказамі.**

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

***Калі радыкальная, рэвалюцыйна-дэмакратычная, сацыялістычная і, нарэшце, камуністычная ідэі атрымалі даволі грунтоўнае адлюстраванне ў нашай сацыяльна-гістарычнай і гісторыка-філасофскай літаратуры, то ідэя памяркоўна-дэмакратычная, ліберальная намнога менш займала розумы нашых даследчыкаў. Больш таго, яна вельмі часта трэціравалася, аб'яўлялася непаўнавартаснай, апартуністычнай, чужой і варожай інтарэсам працоўных. Між тым, у межах ліберальна-дэмакратычнай ідэі быў выпрацаваны шэраг плённых палажэнняў і прынцыпаў, якія з'явіліся падставай цывілізаванага эканамічнага, сацыяльнага, палітычнага і духоўнага развіцця грамадства, даказалі сваю жыццёвую ісцінасць на практыцы.***

***Праблема айчыннай ліберальна-дэмакратычнай традыцыі складаецца з дзвюх частак: 1) ліберальна-дэмакратычная традыцыя ў гісторыі станаўлення і развіцця беларускіх палітыка-прававых інстытутаў і духоўнай культуры Беларусі; 2) ліберальна-дэмакратычная традыцыя ў беларускай думцы. Праблема неабдымная і амаль што не распрацаваная ў беларускай паліталогіі. Існуюць толькі асобныя фрагменты на гэту тэму, якія належаць пяру А. Біралы (беларускі фізіякратызм), А. Майхровіча (ліберальнае рэфарматарства В. Дуніна-Марцінкевіча), С. Падокшына (беларуская сацыяльна-палітычная думка эпохі Адраджэння) і некаторых іншых аўтараў. Закранаецца гэта праблема і ў невялікай, але змястоўнай працы А. Майхровіча "Які ён, шлях Беларусі да дэмакратычнай дзяржавы?", што выйшла ў свет у пачатку 1996 г. Зразумела, што газетны артыкул не можа прэтэндаваць на ўсеабдымнае і фундаментальнае асвятленне дадзенай праблемы, таму аўтар прапануе чытачу невялікі фрагмент, які тычыцца ліберальна-дэмакратычнай традыцыі ў беларускай думцы XVI—XVII стст.***

# УЛАДАР АДЗІН — ЗАКОН

## ВЫТОКІ ЛІБЕРАЛЬНА-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ТРАДЫЦЫІ НА БЕЛАРУСІ

Лібералізм ёсць канцэпцыя, якая сцвярджае свабоду індывіда, асобы і адхіляе ўсё, што перашкаджае гэтай свабодзе. Асноватворнымі каштоўнасцямі гэтай свабоды прызнаюцца прыватная ўласнасць, асабістая бяспека, прадпрымальніцкая, або эканамічная ініцыятыва, надзейная прававая абарона маёмасці і чалавечай годнасці, магчымасць актыўнага ўдзелу ў палітычным, грамадскім, культурным жыцці і інш. Згодна з ліберальнай ідэяй, чалавек павінен стаяць на першым месцы ў сістэме экзістэнцыяльных каштоўнасцяў і ісцінасць дзяржаўна-прававых інстытутаў залежыць ад таго, у якой ступені яны абараняюць інтарэсы асобы.

Уласнасць, асабістая годнасць і бяспека з'яўляюцца натуральнымі, непахіснымі, свяшчэннымі правамі чалавека, якія складаюць падмурак усякага цывілізаванага грамадства, гэта — асноватворныя **грамадзянскія** свабоды. Але гэтыя свабоды будуць надзейна забяспечаны толькі ў тым выпадку, калі яны падмацоўваюцца **дэмакратычнымі палітычнымі інстытутамі.** Наяўнасць такіх інстытутаў, якія абараняюць асноўныя правы чалавека, складае сутнасць **палітычнай свабоды**. Палітычная свабода з'яўляецца дадаткам свабоды грамадзянскай, яе асноўнай гарантыяй.

Дэмакратыя — паняцце гістарычнае. Яе антычнае разуменне спрошчанае і прымітыўнае, вельмі далёкае ад сучаснага. У адпаведнасці з сучаснай ліберальна-дэмакратычнай дактрынай, цывілізаванае грамадства прадугледжвае наяўнасць канстытуцыйнага ладу, які грунтуецца на двух асноўных прынцыпах — **вяршэнства закона і падзелу ўлады**. Прынцып вяршэнства закона нарадзіўся ў антычнасці, у новы час яго першым найбольш выразна сфармуляваў Леў Сапега ў сваіх прадмовах да Статута Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага 1588, пра што больш падрабязна будзе гаварыцца ніжэй. Другі асноватворны прынцып сучаснай дэмакратыі — падзел улады — упершыню быў абгрунтаваны Шарлем Луі Мантэск'ё ў адзінаццатай кнізе яго сачынення "Пра дух законаў" (1748). "Каб не было магчымасці злоўжываць уладай, — пісаў французскі філосаф, — неабходны такі парадак рэчаў, пры якім розныя ўлады (заканадаўчая, выканаўчая і судовая. — **С. П.**) маглі б узаемна стрымліваць адно аднаго... Усё загінула б, калі б у адной і той жа асобе або ўстанове... былі аб'яднаны гэтыя тры ўлады: улада ствараць законы, улада выконваць пастановы агульна-дзяржаўнага характару і ўлада судзіць злачынства або справы прыватных асобаў". Мантэск'ё прыходзіць да высновы, вельмі актуальнай і ў наш час: **сканцэнтраванне ўлады ў адной з галін — разбуральнае для грамадства, свабодаў і правоў чалавека, дэмакратыі.**

Зразумела, што сучасная канцэпцыя дэмакратыі не абмяжоўваецца двума вышэйпамянёнымі прынцыпамі. Яна змяшчае ў сабе ідэі ўзаемнай прававой адказнасці, сацыяльнага партнёрства і кансенсусу, наяўнасці апазіцыі, дэцэнтралізацыі і дэбюракратызацыі дзяржаўнага кіравання, эвалюцыйнай перабудовы грамадства і палітычнага ладу, г. зн. рэформаў, а не сацыяльна-дзяржаўных узрушэнняў і г. д.

І, нарэшце, апошняя папярэдняя заўвага. Звычайна, нараджэнне дэмакратыі як формы ўлады абумоўліваюць удзелам у палітычным жыцці антычнага поліса (горада — дзяржавы) простага, але свабоднага народа — дэмаса.

Аднак у новы час, пачынаючы з Сярэднявечча, узнікненне дэмакратычных традыцый звязана не толькі з сацыяльна-палітычнай дзейнасцю гараджан, але і з **арыстакратычнай апазіцыяй.** Так, Вялікая хартыя вольнасцяў (1215) і ўзнікненне англійскага парламенту (1265) з'явіліся вынікам дзейнасці галоўным чынам баронаў і рыцараў. Многія грамадзянскія і палітычныя свабоды, якія былі зафіксаваны на працягу XV—XVII ст. у прывілеях, Статутах Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага таксама былі прыняты пад моцным ціскам беларускай і літоўскай магнатэрыі і шляхты. Нягледзячы на тое, што як англійскія, так і беларускія феадалы дзейнічалі галоўным чынам у сваіх саслоўных інтарэсах, яны — хацелі таго ці не — **стымулявалі дэмакратычны працэс,** падахвочвалі да барацьбы за правы і свабоды ніжэйшыя сацыяльныя пласты грамадства.

Беларуская дзяржаўная практыка і палітычная думка XVI—XVII стст. грунтаваліся як на айчыннай, так і на агульнаеўрапейскай падставе. Што тычыцца еўрапейскай сярэдневечнай палітычнай тэорыі, то тут у асноўным панавала вучэнне пра дзяржаву Арыстоцеля. Некалькі пазней, у эпоху Адраджэння, папулярнымі сталі таксама грамадска-палітычныя ідэі Цыцэрона. Не з'ўлялася выключэннем і беларуская паліталогія, у прыватнасці, Францыск Скарына, Леў Сапега, Андрэй Волан і многія іншыя былі палкімі прыхільнікамі арыстоцелеўскай і цыцэронаўскай палітыка-прававой дактрыны.

Арыстоцель вучыў, што ў аснове ўсялякай палітычнай дзейнасці ляжыць этычны сэнс. Улада з'яўляецца толькі сродкам, прыладай дзеля дасягнення шчаслівага і прыстойнага жыцця. Зыходзячы з гэтага крытэрыю, Арыстоцель налічваў тры правільныя (царская ўлада, арыстакратыя, паліцыя) і тры няправільныя (тыранія, алігархія, дэмакратыя) віды дзяржаўнага ладу. Узнікае заканамернае пытанне: чаму па арыстоцелеўскай разнарадцы дэмакратыя трапіла ў лік няправільных дзяржаўных формаў?!

Справа ў тым, што крытэрыем правільнасці або няправільнасці таго або іншага дзяржаўнага ладу старажытнагрэчаскі філосаф лічыў тое, у якой ступені ў ім рэалізавана агульнае дабро (общее благо). Дэмакратыя (у яе антычным разуменні) — гэта ўлада беднай большасці, простага народа, між тым у склад грамадства ўваходзяць і іншыя сацыяльныя пласты, у якіх ёсць свае інтарэсы і мэты. Каб захаваць адноснае грамадскае адзінства, прадухіліць разбуральныя сацыяльныя канфлікты дзяржава павінна ўлічваць інтарэсы ўсіх грамадзян. На думку Арыстоцеля гэтую функцыю здольна выконваць паліцыя, дзяржаўная форма, пры якой улада знаходзіцца не ў беднай большасці, і не ў багатай меншасці, а ў руках "сярэдняга класа". Менавіта людзі "сярэдняга дастатку" здольны падтрымліваць грамадскую раўнавагу.

Сродкамі, якімі ў грамадстве і дзяржаве забяспечваецца агульнае дабро, сацыяльная згода, або як мы цяпер гаворым, кансенсус, з'яўляюцца, мяркуе Арыстоцель, мараль і права. Менавіта яны ўстанаўліваюць правілы гульні, якая называецца нармальным, г. зн. цывілізаваным і шчаслівым грамадскім і прыватным жыццём. У адрозненне ад Платона, Арыстоцель быў палітычным рэалістам. Ён не будаваў утопіяў і даволі цвяроза ацэньваў сучаснага чалавека. Мараллю могуць кіравацца толькі выбраныя, мудрацы і філосафы. Для асноўнай жа масы грамадзян неабходны пэўны прымус, і ролю такога прымусу выконвае права, закон. І Арыстоцель, і яго паслядоўнік Цыцэрон лічылі права галоўным рэгулятарам грамадскага жыцця. "Улада закона ёсць улада Бога", — сказана ў арыстоцелеўскай "Палітыцы". "Мы з'яўляемся нявольнікамі законаў, каб быць свабоднымі", — гаварыў Цыцэрон. На гэтае выказванне антычных мысліцеляў спасылаюцца і Леў Сапега, і Андрэй Волан. Такім чынам, Арыстоцель, а за ім і Цыцэрон сфармулявалі некаторыя асноватворныя прынцыпы дэмакратыі ў яе сучасным разуменні — гэта ідэя агульнага дабра, грамадскай згоды, вяршэнства закона. Меркаванне, што ўлада народнай большасці і ёсць дэмакратыя, — памылковае. Гэта геніяльна зразумеў і паказаў Арыстоцель. Меншасць таксама частка народа і калі яе інтарэсы не будуць улічвацца, у грамадстве не будзе ні згоды, ні міру. Канешне, большасць можа падпарадкаваць меншасць, як гэта вынікае з добра нам вядомага прынцыпу "дэмакратычнага цэнтралізму", але ж тады гэта ўжо не будзе сапраўднай дэмакратыяй.

Як вядома, ідэі дэмакратыі, або народакіравання і лібералізму былі развіты і распрацаваны новай еўрапейскай і амерыканскай думкай, асабліва ў раннебуржуазную і буржуазную эпоху.

Значны ўклад у станаўленне тэорыі дэмакратыі і лібералізму ўнеслі беларускія мысліцелі, якія абапіраліся як на айчынныя, так і на агульнаеўрапейскія духоўна-культурныя традыцыі. І тут першынствуючую ролю адыгрываюць тры эпахальныя дакументы — гэта прадмова Францыска Скарыны да беларускай Бібліі (1517—1522), Статуты Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, асабліва яго трэцяя рэдакцыя з геніяльнымі прадмовамі Льва Сапегі (1588) і, нарэшце, трактат Андрэя Волана "Пра палітычную, або Грамадзянскую свабоду" (1575), у якім адлюстраваны погляды на дзяржаўную ўладу і грамадства рэнесансна арыентаванай беларускай шляхты.

Скарына, як і Арыстоцель, лічыў, што грамадства цэментуе ідэя агульнага дабра ("посполитого доброго"). Абавязак улады, як і кожнага грамадзяніна, кіравацца перш за ўсё гэтай ідэяй. Аднак у адрозненне ад Арыстоцеля, Скарына — хрысціянін, і ў яго канцэпцыі разам і побач з ідэяй агульнага дабра стаіць ідэя любові да канкрэтнага чалавека, перш за ўсё чалавека "простага, паспалітага". У аснове дзейнасці ўлады, лічыў ён, абавязаны ляжаць чалавекалюбства і справядлівасць. На гэтых прынцыпах складаюцца законы, ажыццяўляецца правасуддзе і дзяржаўнае кіраўніцтва. Скарына падзяляў пункт гледжання Арыстоцеля, згодна з якім для чалавека маральна дасканалага права непатрэбна. Але ж, як і старажытнагрэчаскі філосаф, ён быў рэалістам і лічыў, што сучасны яму чалавек вельмі далёкі ад ідэалу і таму "вчинены суть права, или закон, для людей злых, абы боячися казни (пакарання. — **С. П.**) усмирили смелость свою и моци не имели иным ушкодити". Скарына першы ў гісторыі беларускай палітыка-прававой думкі даволі блізка падышоў да ідэі вяршэнства закона. Вялікае значэнне надаваў ён удасканаленню існуючай судовай сістэмы Вялікага княства Літоўскага. "Судьи и справце, — пісаў ён, спасылаючыся на Другазаконне, — да судять людей судом справедливым, и да не уклонятся ни на жадную страну, и да не зрять на лица, и не принимають даров, понеже дарове ослепяюць очи мудрых людей и зменяюць слова справедливых".

Трэба адзначыць яшчэ адзін момант, які сведчыць пра дэмакратызм і лібералізм светапогляду Скарыны. Гэта думка пра тое, што дзейнасць як грамадзяніна, так і ўлады павінна быць не толькі сацыяльна, але і **нацыянальна арыентаванай**. Ва ўсіх сваіх прадмовах, асабліва ў знакамітай прадмове да кнігі Юдзіф, ён заклікаў усіх беларусаў, у тым ліку і дзяржаўных дзеячаў, не шкадаваць "всякого тружения и скарбов для посполитого доброго и для отчины своея". Гісторыя пацвердзіла, што **нацыянальна-культурная арыентацыя неад'емная якасць грамадскага і дзяржаўнага дзеяча-дэмакрата.**

І Скарына, і яго паслядоўнікі не былі бязроднымі і самотнымі. Як мысліцелі яны стаялі на плячах сваіх папярэднікаў, абапіраліся на даўнюю і трывалую айчынную культурна-палітычную традыцыю, у якой нараджаліся ліберальна-дэмакратычныя ідэі: балансу ўлад, грамадскага дагавору, павагі да законаў, правоў чалавека і інш. Пра гэта сведчаць наступныя дакументы: прывілей вялікага князя Казіміра Ягелончыка ад 2 мая 1447 г., прывілей вялікага князя Аляксандра ад 1492 г. і прывілей на Магдэбургскае права Полацку, які даў гораду

той жа князь Аляксандр у дзень Св. Францыска 4 кастрычніка 1498 г. (па старым стылі).

У першым дакуменце вялікі князь абяцае феадалам і мяшчанам, што прыцягваць іх да адказнасці будуць толькі "подлуг права", што ніхто не будзе лічыцца злачынцам, пакуль яго віна не будзе даказана ў судзе, што ўсе "княжата, рытеры, шляхетичи, бояре" маюць права свабодна "выехати з наших земель... для лепшого шчастья набытия" і г. д. У другім прывілеі дэкларавалася, што суддзі павінны кіравацца законамі і справядлівасцю, забаранялася прыймаць "дары", рэкамендавалася на дзяржаўныя пасады прызначаць людзей высокамаральных і годных, сцвярджалася, што ніхто не можа быць пазбаўлены "вряда", г. зн. пасады, без рашэння суда і інш.

Этыка-палітычная тэрміналогія трэцяга дакумента — прывілея на Магдэбургскае права Полацку — сугучная тым паняццям, якія мы сустракаем у прадмовах Скарыны. У прыватнасці, у прывілеі сцвярджаецца, што вялікі князь дае полацкім мяшчанам права самакіравання, "маючы взгляд к посполитого доброго размноженью и хотячи положенье места нашого Полоцкого в мере лепшой поставити, штобы люди наши, там живучи, через вряд добрый а справедливый были размножены". Права на самакіраванне, якое на працягу некалькіх стагоддзяў атрымалі многія беларускія гарады, з'яўлялася адной з прадумоў станаўлення айчыннай ліберальна-дэмакратычнай культуры. Атрыманне пэўных эканамічных, палітычных, юрыдычных прывілеяў, свабод давала прастор прадпрымальніцкай актыўнасці беларускіх гараджанаў, садзейнічала фарміраванню іх правасвядомасці, грамадзянскай спеласці, чалавечай годнасці, карацей кажучы, тых якасцяў, якія характэрныя для суб'ектаў дэмакратычнага грамадства.

З увядзеннем у жыццё першага Статута Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (1529) пачаўся якасна новы этап у развіцці айчыннай палітычнай культуры. Сутнасць гэтага этапа зводзіцца да таго, што беларуска-літоўска-украінскае грамадства ўстала на шлях фарміравання прававой дзяржавы. Па-першае, асноватворнай ідэяй Статутаў была ідэя вяршэнства закона. Па-другое, Статуты юрыдычна фіксіравалі некаторыя правы чалавека, якія ў будучым сталі альфай і амегай еўрапейскай дэмакратыі і лібералізму — гэта права на абарону сродкамі закона і ўлады свайго жыцця, сваёй годнасці, сваёй маёмасці і сваёй духоўнай, перш за ўсё рэлігійнай, свабоды. Найбольш яскравым увасабленнем гэтых ідэй з'яўляўся Трэці, сапегаўскі Статут (1588).

Але перш, чым звярнуцца да яго аналізу, лічу неабходным нанесці "прэвентыўны ўдар" па аргументах маіх магчымых апанентаў. Пра якую дэмакратыю, скажуць яны, можна гаварыць у адносінах да Беларусі XVI—XVII стст., калі яе асноўны пласт народа — сялянства — было эканамічна несвабодным, а палітычна — бяспраўным?! Усе гэта правільна. Але! Па-першае, гаворка ідзе пра канкрэтнагістарычныя, абмежаваныя формы дэмакратыі. Мы ж гаворым пра першабытнаабшчынную, ваенную дэмакратыю. Не толькі само паняцце дэмакратыі, але і яе некаторыя элементы ўзнікаюць у антычных Афінах, значная частка насельніцтва якіх складалі рабы, абсалютна бяспраўныя, якіх нават і людзьмі не лічылі. Сучасная прадстаўнічая галіна ўлады, без якой дэмакратыя немажліва, таксама бярэ свой пачатак у сярэднявеччы (веча, парламент, генеральныя штаты, сейм). Па-другое, нават у феадальна-сярэднявечнай дзяржаве, у якой існавалі добра распрацаваныя законы і развітая судовая сістэма, становішча сялян было больш спакойным, чым у грамадстве, у якім усталяваўся дэспатычна-тыранічны рэжым, паколькі закон і суд лепш ці горш, але ўсё ж абмяжоўвалі сваявольства феадала і чыноўніка. Закон даваў магчымасць вялікакняскай уладзе кантраляваць як дзейнасць сваёй бюракратыі, так і феадалаў, праўда, пераважна ў межах тых зямель, якія належалі самому вялікаму князю.

Нельга не адзначыць, што на становішча беларускага селяніна станоўча ўплывала пэўная ліберальная грамадская атмасфера, якая ўсталявалася ў сувязі з распаўсюджаннем ідэй Адраджэння і Рэфармацыі. Так, ва ўладаннях асобных феадалаў, гуманістаў і законнікаў, сялянам рабіліся некаторыя паслабленні.

Аднак, вернемся да Статута 1588 г. і перш за ўсё да зместу яго прадмоў, якія былі напісаны падканцлерам ВКЛ Львом Сапегам. Як вядома, падрыхтоўка гэтага палітыка-прававога дакумента, які можна было б назваць першай беларускай канстытуцыяй, вялася ў даволі дэмакратычных і талерантных умовах. Вялікім князем была створана рэдакцыйная камісія, у якую ўвайшлі прадстаўнікі трох веравызнанняў: каталіцкага, праваслаўнага і пратэстанцкага. Праект Статута абмяркоўваўся спачатку на павятовых сойміках, а потым на вальным сойме. Статут 1588 г. адкрываецца зваротам караля і вялікага князя Жыгімонта III. У ім адзначаецца, што галава дзяржавы будзе, па-першае, усімі сродкамі абараняць "правы, вольнасці і свабоды" народаў ВКЛ, і па-другое, дзейнічаць у адпаведнасці з існуючымі законамі і, перш за ўсё з Статутам. Такім чынам, вялікі князь абвяшчаў сябе "канстытуцыйным манархам".

Але ж галоўная палітыка-прававая сутнасць Статута 1588 г. раскрыта ў прадмовах Сапегі. Яны змяшчаюць шэраг пастулатаў, якія ўвайшлі ў залаты фонд сучаснай дэмакратыі.

**Пастулат першы:** Лёс народа, грамадства залежыць не ад асабістай волі галавы дзяржавы, князя, караля, а ад сістэмы ўлады, заснаванай на падпарадкаванні ўсіх і ўся закону. Грамадзяне, людзі павінны арыентавацца, разлічваць не на асабістую дабрыню вялікага князя, яго службовых асоб, не на іх літасць, міласць, ласку, добразычлівасць, палёгку, "паблажлівыя адносіны", а на існуючыя законы, права. Гэта свае палажэнне Сапега ілюструе прыкладам з гісторыі старажытнага Рыма, хутчэй за ўсё падзеямі, звязанымі са змовай Катэліны, калі, як ён піша, група юнакоў адмовілася ад права пад той прычынай, што яно "глухое" да асабістых просьбаў. Яны, бедалагі, лічылі, што лепш спадзявацца на міласць гаспадара, чым на законы, паколькі "ў пана, аднак, ест местце ласкі і захованья, ест взгляд на асобы". На думку Сапегі, гэта погляд людзей не толькі недасведчаных, але і сваявольных, разбэшчаных, якім "гроза прав ест неміла". Менавіта такая "грамадзянская" пазіцыя прыводзіць да таго, што людзі, якія стаяць на чале ўлады, пачынаюць кіравацца ў сваёй дзейнасці "не правом або статутам, але толькі своім зданьем і уподобаньем", ператвараюцца ў тыранаў.

**Пастулат другі:** Вяршэнства закона. Бадай што першы ў новай гісторыі Леў Сапега, востра і бескампрамісна паставіў гэту праблему. У законе ён бачыў галоўны і асноўны сродак рэгулявання адносін паміж усімі пластамі і членамі грамадства, паміж галінамі ўлады, паміж уладай і народам. Годным чалавека з'яўляецца тое грамадства, дзе ўсім кіруе закон. Грамадства, дзе пануе беззаконне, дзе ўсё залежыць ад добрай або злой волі чалавека, які стаіць на чале ўлады, нагадвае нешта звярынае. Вось яго словы: "Великий и зацный философ греческий Аристотелес поведил, же там бельлуа, а по нашому дикое звера пануеть, где человек водлуг уподобанья своего владность свою ростегаеть", г. зн. уладарыць па сваёй волі. Там жа, працягвае Сапега, дзе "право або статут гору мает, там сам Бог всим владнеть". Сапега падводзіць тэарэтычны падмурак пад сваю тэорыю вяршэнства закона. Права — гэта той праўдзівы розум, якім надзяліў чалавека сам Бог і які дае яму магчымасць адрозніваць дабро ад зла, дабрачыннасць ад заганы, справядлівасць ад несправядлівасці і г. д. "Право ест, — піша ён, спасылаючыся на свайго другога тэарэтычнага куміра, Цыцэрона, — оным правдивым разсудком, а мудрым умыслу чоловечого баченьем, которым пан Бог натуру чоловечую обдарити рачыл, абы водлуг того пристойного а мудрого бачэнья живот чоловечий так справовал, яко бы се за тым, што есть почтивого, завжды удавал, а што непочтивого, абы се того выстерегал".

Такім чынам, згодна Сапегу, права гэта ўзаконены розум, які падпарадкоўвае, стрымлівае і накіроўвае недасканалую чалавечую волю. "Святое права", як яго называе падканцлер, гэта аброць, цуглі для ўсякага нахабніка ("зуфальцы"), які лічыцца толькі са сваім эгаістычным памкненнем, парушае свабоду і правы іншага чалавека.

**Пастулат трэці:** Закон — гэта абаронца правоў чалавека. Сапега падкрэслівае, што ўлада закона не ёсць самамэта, што гэта толькі сродак для вырашэння асноўнай, сацыяльна-этычнай задачы — абараніць жыццё, здароўе, годнасць, маёмасць кожнага чалавека. "Цель і скуток усих прав, — піша ён, — мает быти на свете, абы кождый добрую славу, здоровье и маетность в целости мел, а на том жадного ущирбку не терпел". Да гэтага, сцвярджае Сапега, і зводзіцца наша свабода, якою мы ганарымся і адрозніваемся ад іншых хрысціянскіх народаў. І калі б хто, працягвае ён, адважыўся зрабіць замах на нашы законы, якія абараняюць жыццё, годнасць і маёмасць, той будзе не гаспадаром нашым, а магільшчыкам нашай свабоды, а мы — яго рабамі ("той бы вжо не паном нашым, але сказителем прав и вольностей наших был, а мы бысмо невольниками его быти мусели"). Сваю думку падканцлер рэзюміруе наступным афарызмам: "Естесьмо невольниками прав для того, абысмы вольности уживати могли". Такім чынам, згодна Сапегу, шчаслівае грамадства — гэта прававое грамадства, дзе законам і ўладай абаронена свабода чалавека, яго жыццё, годнасць, маёмасць, карацей кажучы, яго неад'емныя правы.

**Пастулат чацвёрты:** Кожная службовая асоба і перш за ўсе вялікі князь "жадное звирхности над нами заживати не можеть, одно только, колько ему право допущаеть". Згодна Сапегу, **закон вызначае для ўсякага прадстаўніка выканаўчай улады, і перш за ўсё для вялікага князя, калідор дзеяння, за межы якога ён не мае права выйсці.** Гэта яго першы абавязак. Другі абавязак — у тым, што ён павінен з'яўляцца "найвышэйшым стражам всих прав и вольностей наших".

Сапега высока ацэньвае папярэднюю палітыка-прававую дэмакратычную традыцыю Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Мы, піша ён, "за шчасливы народ себе быти почитаем", бо пан Бог даў нам такіх гаспадароў, якія былі не самаўладнымі і не самавольнымі правіцелямі, а з'яўляліся прыкладам законапаслухмянасці і законапраўя, **яны карысталіся ўладай у тых межах, у якіх ім гэта дазволіла права** ("большей владности звирхности господарской над собою не попущалі, одно покол бы им певную границу панованья их над нами права замерили"), "за што яко славу несмертельную в паметях наших заставяли".

**Пастулат пяты:** Беларусы павінны быць правасвядомым народам, ганарыцца тым, што маюць Статут на роднай мове. Няцяжка заўважыць, што гэты тэзіс сапегаўскіх прадмоў, як і некаторыя папярэднія, вынікае з дэмакратычнай традыцыі, прадмоў Скарыны. **Сапега не толькі выдатны мысліцель, але і найдасканалейшы майстра слова, які цудоўна валодае беларускай мовай.** Статут, піша ён, "скарб в руках наших, который жадною сумою пераплачон быти не может", або, як мы казалі сёння б, скарб, якому няма цаны. Кожны дабрачынны грамадзянін ВКЛ, лічыць падканцлер, павінен быць добра знаёмы з гэтым прававым дакументам, а добра ведаючы яго, строга прытрымлівацца, быць законапаслухмяным. Годныя ганьбы тыя грамадзяне, якія хваляцца сваімі вольнасцямі, а законаў сваёй бацькаўшчыны не ведаюць і не разумеюць. Сорамна не ведаць законаў сваёй краіны, асабліва беларусам, якія "не обчым якім языком, але сваім власным права списаные (маюць) и кождого часу, чого (ім) потреба ку отпору всякое кривды, ведати (могуць)". Менавіта жаданне даць народу Статут на роднай мове, прымусіла Сапегу гэты асноватворны палітыка-прававы дакумент надрукаваць на свае сродкі ў друкарні Мамонічаў. Гэту акцыю ён разглядае як свой грамадзянскі абавязак, служэнне "пожытку речы посполитое".

І, нарэшце, **пастулат шосты:** Суды ВКЛ (трэцяя ўлада, якая, дарэчы, фарміравалася на выбарнай падставе) павінны складацца не толькі з прафесіяналаў ("абысте до судов и до трибуналов не только людей добрых, а тых прав наших добре умеетных обирали"), але і з людзей сумленных ("боящихся Пана Бога") і дабрачынных ("цнотливых"). У працэсе судовага разбіральніцтва яны павінны кіравацца справедлівасцю, а не асабістай карысцю, быць непадкупныя, не скажаць права па прычыне сваёй прагнасці ("для лакомства своего и для подарков"), трымацца "святое правды". Усе гэтыя думкі сугучныя павучэнням Скарыны з яго прадмовы "В книги судей Израилевых".

Палітыка-прававыя погляды Андрэя Волана, выкладзеныя ў яго працы "Пра палітычную, або грамадзянскую свабоду" амаль што ідэнтычныя поглядам Сапегі. Таму я коратка засяроджу ўвагу на тых ліберальна-дэмакратычных ідэях мысліцеля, якія не атрымалі ў Сапегі дастатковай распрацоўкі. Па-першае, гэта думка пра магчымасць **ператварэння свабоды ў сваю процілегласць** (у свой час гэту думку выказаў Платон у сачыненні "Дзяржава"), што пацвердзіла гісторыя Рэчы Паспалітай, у прыватнасці лёс шляхецкай дэмакратыі. Па-другое, гэта ідэя **сацыяльнай згоды,** якая рэалізуецца праз падпарадкаванне ўсіх станаў і сацыяльных класаў закону. Па-трэцяе, гэта праблема інтэрпрэтацыі і прымянення закона, якая не страціла сваёй актуальнасці і ў нашы дні, **рэалізацыі закона органамі выканаўчай і судовай улады**.

Гэта далёка не поўны агляд ліберальна-дэмакратычных напрацовак айчыннай палітыка-прававой думкі. На жаль, я зусім не закрануў праблемы ліберальных і дэмакратычных традыцый у гісторыі станаўлення і развіцця беларускіх палітыка-прававых інстытутаў, духоўнай культуры Беларусі. Але і сказанае сведчыць пра тое, што Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае з'яўляецца адной з калысак сучаснай еўрапейскай дэмакратыі.

**Сямён ПАДОКШЫН,**
**доктар філасофскіх навук**

# НЕ ЗМЯНІЛАСЯ — НІЧОГА

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

эксперты, большасць з гэтых прапаноў не выконваецца. У той жа час матэрыяльныя і фінансавыя, фізічныя і духоўныя затраты працягваюць быць не проста вялікімі, але каласальнымі.

У адпаведнасці з нацыянальнай статыстыкай стабільнымі ў часе сярод дарослага насельніцтва можна лічыць распаўсюджанасць спадчынных анамалій і хвароб органаў дыхання, часткова і хвароб эндакрыннай сістэмы. З рэгіёнаў найбольш стабільным застаецца Магілёўскі (можа, за выключэннем моча-палавой, страўнікавай неўралагічнай назалогій). Такая акалічнасць заслугоўвае дадатковага вывучэння і навуковага аналізу. Праўда, па тэндэнцыі росту агульнай хваравітасці Магілёўскі рэгіён знаходзіцца побач з Віцебскам. Што ж да здароўя дзяцей, то такія ж тэндэнцыі, але ў больш выразнай форме, заўважаны ў тых жа Магілёўскім і Віцебскім рэгіёнах. Гэты феномен закранае ў першую чаргу наступныя назалогіі: пухліны, хваробы эндакрыннай і імуннай сістэмы, крыві і кроваўтваральных тканак, псіхічныя парушэнні, спадчынныя анамаліі і парокі развіцця. У дзяцей гэта можа спалучацца з адборам на прэнатальным узроўні.

Напрыканцы неабходна зрабіць папярэднія вывады і рэкамендацыі па фарміраванні экалагічнага мыслення праз экалагічныя паводзіны. Канцэпцыя адпаведнай экалагічнай палітыкі прапанавана па выніках нашага даследавання. Апрабацыя тэзісаў адбылася на Міжнароднай канферэнцыі па славянскіх культурах пад патранатам ЮНЕСКА ў Мінску (кастрычнік 1995 г.). Пакуль канфлікт узаемаадносін паміж Прыродаю і Чалавекам будзе працягвацца, да таго часу будзе пагаршацца экалагічная сітуацыя, павялічвацца парадокс нерацыянальнай і антыгуманнай жыццядзейнасці грамадства. На змену спажывецкай псіхалогіі сучасных людзей павінны прыйсці маральнасць і духоўнасць гарманічных адносін у прыродзе і грамадстве. Толькі праз гуманізацыю вытворчай дзейнасці з улікам культурных традыцый можна захаваць жыццяздольнасць навакольнага асяроддзя.

Вырятаваўшы прыродную біялагічную разнастайнасць, можна ўплываць на экалагічную свядомасць асобы, садзейнічаць светапогляду ўстойлівага развіцця грамадства. Наша экалагічнае даследаванне ў геаграфічным і гістарычным кантэксце дапамагае вывучыць эвалюцыйна створаныя механізмы антрапалагічнай і сацыяльна-экалагічнай устойлівасці папуляцый. Без дастатковай інфармаванасці насельніцтва аб дынаміцы экалагічнай сітуацыі ў яго бліжэйшым наваколлі, без асабістага ўдзелу кожнага дасведчанага чалавека немагчыма ўплываць на яго экалагічныя паводзіны, на беражлівыя адносіны да прыроды. Норма сацыяльна-біялагічнай адаптацыі, магчымасць функцыянальнай прыстасаванасці знаходзяцца на мяжы дастатковасці. Неабходна тэрмінова памяняць адмоўны знак якасці экалагічных паводзін на дадатны.

Напрыканцы працытую мясціну з навукова-папулярнай манаграфіі І. Гусевай і А.Мікуліча "Прырода чалавека, чалавек у прыродзе", якая выйшла ў выдавецтве "Навука і тэхніка" ў 1992 годзе: "Выспела катэгарычная неабходнасць даследаваць праблемы, прысвечаныя жыццядзейнасці сучасных папуляцый, антрапалагічнаму напружанню. Тэрмін пазнання гэтых з'яў не бязмежны, можна і не паспець.

Дасканаласць і гармонія Прыроды знаходзяцца пад пагрозай разбурэння. Толькі разумны чалавек, чалавек гуманны ў стане прасачыць гісторыю свайго зямнога існавання, прыпыніць свой імклівы бег у будучыню, пераарыентаваць яго мэтанакіраванасць. Нельга падвяргаць сумненню законы Сусвету. Іх неабходна вывучаць, згодна з імі рацыянальна крочыць, удасканальваючы свой не саматычны, але псіхічны стан. Пазбегнуць чарговых катастроф, а тым болей сусветнай катастрофы можна толькі праз непарушанасць экалагічных працэсаў, якія фарміраваліся на працягу многіх тысяч год.

Некалькі слоў пра дынаміку маральных аспектаў узаемаадносін чалавека і прыроды. Пакуль жывая прырода ў сістэме чалавечых каштоўнасцей не зойме адпаведнае ёй месца, да таго часу немагчыма чакаць паляпшэння чалавечых якасцей сучасных людзей. З кожным годам з'яўляюцца ўсё новыя факты цеснай сувязі чалавека з прыродаю, што прыводзіць да павелічэння нашай залежнасці ад прыроды. Неабходна як мага хутчэй пашырыць і паглыбіць экалагічную адукацыю дзяцей з тым, каб экалагізацыя свядомасці грамадства садзейнічала не антрапацэнтрычнаму, а экацэнтрычнаму шляху развіцця ўсіх жывых істот.

Хоць і марудна, але ўсё больш выразна акрэсліваюцца контуры экалагічнай маралі. Адзінства чалавека з прыродаю прадугледжвае натуралізм чалавека і гуманізм прыроды. Згодна з Ф. Бэканам, прыроду можна перамагчы, толькі падпарадкаваўшыся ёй. Жыццё наогул павінна стаць не толькі феноменам навукі, але і феноменам культуры".

**Аляксей МІКУЛІЧ,**
**доктар навук, антраполаг.**

